Змагарам за незалежнасць Беларусі
прысвячаецца



Алег Трусаў



# Невядомая нам краіна

## Беларусь у яе этнаграфічных межах

Мінск, Кнігазбор, 2009

УДК 94(476)
ББК 63.3(4 Беи)
Т78

Аўтар выказвае падзяку
*МГА «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”»*
і кіраўніку Дабрачыннага фонду «Этнічны голас Амерыкі» (ЗША)
*Ірэне Калядзе-Смірновай,* чыя дапамога зрабіла магчымым
выданне гэтай кнігі.

**Трусаў, А.**

**Т78** Невядомая нам краіна : Беларусь у яе этнаграфічных межах / Алег Трусаў. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 152 с.

ISBN 978-985-6930-44-0.

Кніга кандыдата гістарычных навук, дацэнта Алега Трусава распавядае пра дзяржаўныя ўтварэнні беларускага народа, якія ў афіцыйнай (беларускай і замежнай) гістарыяграфіі да гэтага часу не прынята лічыць беларускімі. Кніга паказвае, што беларускі народ, у праве на дзяржаўнасць якому некаторыя гора-палітыкі адмаўляюць да гэтага часу, акрамя асноўных дзяржаўных утварэнняў (Полацкае, Тураўскае, Пінскае, Наваградскае і інш. княствы, Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, БНР, БССР, Рэспубліка Беларусь) утварыў яшчэ два вялікія княствы (Цвярское і Смаленскае), дзве рэспублікі (Пскоўскую і Сярэднюю Літву), валодаў краямі, землямі (Дзвінскі край, Северская зямля, Надбужская краіна) і нават блізкімі ды заморскімі калоніямі.

Выданне ўтрымлівае таксама рэцэнзіі на пяць найбольш цікавых гістарычных кніг апошніх гадоў.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4 Беи)**

**ISBN 978-985-6930-44-0**

# Змест

# Прадмова

**Працаваць над гэтай кнігай я пачаў даўно. Спачатку рыхтаваў цыкл перадач для «Радыё Свабода», у якіх расказваў пра шматлікія дзяржавы, створаныя нашымі продкамі на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Каб зрабіць адну перадачу (а рабіў я іх разам з Вячаславам Ракіцкім), трэба было працаваць некалькі месяцаў: збіраць матэрыял, асабліва невядомыя шырокаму слухачу гістарычныя факты, падбіраць адпаведныя цытаты з розных пісьмовых крыніц. Вядома, уключыць усю сабраную інфармацыю ў 10–12-хвілінную перадачу было немагчыма, і тады я стаў друкаваць яе ў газеце «Наша слова». Матэрыял суправаджаўся разнастайнымі ілюстрацыямі, у тым ліку мапамі, якія дапамагалі зразумець змест напісанага.**

Асабліва вялікую цікавасць выклікала перадача, якая прагучала ў 2007 годзе і была прысвечана маёй малой радзіме Вялікаму княству Смаленскаму. Тэкст перадачы быў выстаўлены на сайце «Радыё Свабода» і нават перадрукаваны ў некаторых незалежных рэгіянальных выданнях. Артыкулы з «Нашага слова» памнажаліся на ксераксе падпісчыкамі газеты і раздаваліся сябрам і знаёмым.

І тады я вырашыў аб'яднаць матэрыялы, прысвечаныя ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, якая канчаткова склалася ў канцы XIX – пачатку XX ст., у адну кнігу. Паралельна з гэтай працай я з задавальненнем чытаў сучасныя кнігі па этнічнай і палітычнай гісторыі Беларусі і пісаў на іх водгукі, якія таксама друкаваў у «Нашым слове». Гэтыя водгукі змешчаны ў другім раздзеле кнігі.

Варта адзначыць, што ў асноўным этнічная тэрыторыя беларусаў склалася ў другой палове XIX ст., калі ўсе беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі. У гэты час расійскія навукоўцы прызналі існаванне самабытнага славянскага народа пад новай назвай «беларусы». Гэты тэрмін стаў новым палітонімам, які замяніў старую назву «літвіны». Падчас перапісу 1897 г. беларусы заявілі пра сябе на ўвесь голас. Адпаведна, сталі з'яўляцца мапы, дзе як беларускія былі пазначаны Вільня і Трокі, Дзвінск і Смаленск разам з Бранскам, Старадубам і Беластокам. Незадоўга да перапісу беларускую этнічную тэрыторыю акрэслілі ў трэцім томе «Живописной России», які быў выдадзены ў 1882 г. Такім чынам, 25 сакавіка 1918 г. БНР была абвешчана ў сваіх этнаграфічных межах, бо папярэднія спробы стварыць літоўска-

беларускую дзяржаву як спадкаемцу ВКЛ не знайшлі падтрымкі ў літоўцаў.

1 студзеня 1919 г. бальшавікі ў Смаленску абвясцілі БССР у тых самых гістарычных межах, што і БНР. На вялікі жаль, у 1991 г. БССР выйшла са складу СССР у значна меншых памерах, бо яе тэрыторыя на працягу XX ст. не раз мянялася. А вось Літва, пабыўшы ў СССР паўстагоддзя, пакінула яго, істотна павялічыўшы сваю тэрыторыю. Пасля таго, як Сталін перадаў Віленшчыну літоўцам, а Беласточчыну палякам, пытанне аб гэтых этнічных беларускіх тэрыторыях фактычна было пад забаронай. Згадваць часткі Беларусі, якія засталіся па-за межамі СССР, як беларускія было нельга.

Так, галоўны савецкі гісторык пасляваеннай БССР Лаўрэн Абэцэдарскі ў знакамітай брашуры «У святле неабвержных фактаў» (Мінск, 1969) пісаў: «У склад тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага тады ўваходзілі тэрыторыя ўласна Літвы, тэрыторыя Беларусі, тэрыторыя Украіны і частка рускіх (вялікарускіх) зямель (у канцы XV ст. да Ржэва, Мажайска, Калугі і Тулы)». Вядома, ён ніколі не тлумачыў, як і чаму на гэтых «рускіх» землях яшчэ ў канцы XIX ст. кампактна жылі беларусы. Прычым беларусы, якія не лічылі сябе рускімі, нягледзячы на шматгадовую русіфікацыю. Справа дайшла да таго, што нават назву нашай старадаўняй сталіцы Вільні ў БССР трэба было пісаць выключна як Вільнюс, і адпаведныя структуры за гэтым пільна сачылі. Абэцэдарскі і яго хаўруснікі сцвярджалі, што беларусы да 1919 г. не мелі сваёй дзяржавы. Гэты міф быў запісаны ва ўсе падручнікі.

Зараз нам ужо добра вядомыя Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР і БССР. А дзе ж іншыя дзяржаўныя ўтварэнні нашых продкаў? Чаму яны не згаданыя ў школьных падручніках? Чаму ў іх адсутнічае, напрыклад, параграф пра Вялікае княства Смаленскае, якое было створана нашымі продкамі крывічамі і было самастойнай еўрапейскай дзяржавай з XII па XV ст.? Дарэчы, нядаўна кіраўнік беларускай дзяржавы А. Лукашэнка сказаў у адносінах да Смаленска наступнае: «Я нарадзіўся каля Оршы, побач са Смаленскам. Чаго больш у Смаленску — рускага або беларускага? Ніхто не скажа» (Звязда. — 2007. — 15 кастр. — № 196).

Пра нашыя этнічныя тэрыторыі зараз пачалі пісаць і эканамісты. Напрыклад, Уладзімір Акуліч лічыць: «Для Беларусі асноўныя эміграцыйныя плыні можна чакаць з правінцыйных раёнаў Расіі. Гэта шмат, калі ўлічыць, што трэць этнічнай тэрыторыі сённяшняй Беларусі знаходзіцца ў складзе Расіі. Гэта Смаленская, Бранская вобласці, частка Пскоўскай вобласці, дзе жыве значная колькасць абрусеўшых беларусаў» (Белорусы и рынок. — 2007. — 12 дек. — № 43).

Варта адзначыць, што факт наяўнасці ў Беларусі этнічных тэрыторый за мяжой у 1992 г. прызнаў Кітай. Вось што піша пра гэта першы міністр

замежных спраў Беларусі П. К. Краўчанка: «У выніку мы ўсё ж дамагліся падпісання пагаднення ў прапанаванай намі рэдакцыі. Гэта азначала, што такая ўплывовая краіна, як Кітай, тым больш сябра Рады Бяспекі, прызнавала, што Беларусь мае этнічныя тэрыторыі за сваімі межамі. Зразумела, рэалізаваць сёння гэты падыход немагчыма. Але ў нашага народа ёсць добрая прымаўка: «Запас бяды не чыніць» (Краўчанка, П. Беларусь на ростанях / Пётр Краўчанка. — Вільня, 2007. — С. 239–240). І з гэтым нельга не пагадзіцца.

Пры напісанні гэтай кнігі давялося выкарыстоўваць самыя розныя крыніцы: ад шматлікіх энцыклапедый, манаграфій і артыкулаў да газетных публікацый.

Трэба адзначыць, што нават у энцыклапедыях падаюцца не толькі розныя трактоўкі гістарычных падзей, але і розныя даты і нават розныя напісанні імёнаў тых ці іншых гістарычных асобаў ці назвы мясцовасцяў.

Таму я абраў навукова-папулярны жанр напісання кнігі і загадзя прашу прабачэння за магчымыя недакладнасці ці памылкі, бо ў архівах я не працаваў, а карыстаўся толькі друкаванымі крыніцамі, дакладнасць якіх гарантаваць немагчыма.

Тым не меней для цікаўных чытачоў я прывёў спіс некаторых пісьмовых крыніц, якімі я карыстаўся.

# Рэцэнзія

**Рэцэнзаваная кніга з’яўляецца зборам артыкулаў Алега Трусава, апублікаваных у апошнія гады ў газеце «Наша слова», некаторых рэгіянальных выданнях. Гэтыя артыкулы з цікавасцю былі сустрэтыя беларускім чытачом. Выказвалася шкадаванне, што яны не аб’яднаныя ў асобным выданні. Цяпер ёсць магчымасць выдаць іх у кнізе.**

Кніга складаецца з двух раздзелаў: непасрэдна гістарычна-краязнаўчыя нарысы і рэцэнзіі вядомага беларускага археолага і гісторыка Алега Трусава на іншыя кнігі. Выданне гэтых матэрыялаў гістарычна-папулярнага характару мае важнае значэнне для пашырэння ведаў па гісторыі нашай краіны. Аўтар разглядае гісторыю не толькі Беларусі ў цэлым, а спыняе сваю ўвагу на тых частках нашай краіны, якія былі страчаныя на карысць Вялікага княства Маскоўскага, царскай Расіі, а потым Расійскай імперыі. Гэта ў значнай ступені так званыя «маргінальныя» тэрыторыі; у большасці яны знаходзіліся на ўскраінах беларуска-літоўскага гаспадарства.

Аўтар глыбока ведае прадмет свайго даследавання. Ён абапіраецца не толькі на гістарычныя звесткі, але і на археалагічныя даследаванні, у тым ліку ўласныя. Гэта надае кнізе яшчэ большую дакладнасць у дадатак да аргументацыі аўтара. Прадуманымі з’яўляюцца і рэцэнзіі А. Трусава на кнігі, што выйшлі ў апошнія гады. Алег Трусаў добра аналізуе кнігі, робіць слушныя заўвагі і прыводзіць контраргументы, аспрэчваючы тыя ці іншыя палажэнні. Да заўваг Алега Трусава па гісторыі беларускага Адраджэння канца XX – пачатку XXI стагоддзя трэба ставіцца з даверам, бо ён не толькі сведка, а і ўдзельнік гістарычных падзей перыяду ўтварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь. У гэтым сэнсе шмат карыснага ў яго меркаваннях можа прыдацца і цяперашнім, у тым ліку маладым, палітычным і грамадскім дзеячам.

Гаворачы пра кнігу, трэба адзначыць, што ў змесце ёсць некаторыя недакладнасці, у асноўным рэдакцыйнага характару.

Па сутнасці, дзесьці трэба падкрэсліць, што аўтар мае сваё бачанне на развіццё тэрыторый, заселеных крывічамі. Але асноўным у знешняй палітыцы Вітаўта, ды і яго наступнікаў, было аб’яднанне ў першую чаргу тэрыторый, заселеных крывічамі, якія ў пачатку другога тысячагоддзя,

ды і пазней, гаварылі на той жа мове, што і продкі сучасных беларусаў. А пасяленні крывічоў знаходзіліся нават і ў сучаснай Маскоўскай вобласці (на захадзе яе).

Ёсць заўвага наконт вызначэння Сярэдняй Літвы як беларускай дзяржавы. Зразумела, важна тое, што і сам Люцыян Жалігоўскі, і жаўнеры Літоўска-Беларускай дывізіі былі ўраджэнцамі Беларусі і ў большасці беларусамі, часта спаланізаванымі. Але стварэнне гэтай дзяржавы было запланавана ў Польшчы, і меркавалася (што і было зроблена праз паўтара года), што яна будзе ўключана ў склад Польшчы. Ды і свядомыя беларусы былі не на першым месцы ў гэтай дзяржаве. Хаця агульная сітуацыя дазваляла распачаць беларускае школьна-культурніцкае будаўніцтва.

Усё ж такі Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні байкатаваў выбары ў сойм Сярэдняй Літвы, мэтай якіх было далучэнне Віленскага Краю да Польшчы. Адно — была захавана Вільня як цэнтр беларускай палітычнай дзейнасці на крэсах, а таксама прадухілена гвалтоўная літуанізацыя Віленскага Краю.

Спадзяюся, што гэтыя заўвагі дапамогуць аўтару яшчэ раз паразважаць над тэкстам.

А ў цэлым кніга вельмі добрая, карысная і неабходная, асабліва ў наш час, калі сапраўдную гісторыю Беларусі зноў пачалі хаваць ад вучняў, студэнтаў і чытачоў.

Рэкамендую кнігу Алега Трусава «Невядомая нам краіна (Беларусь у яе этнаграфічных межах)» да выдання.

*Анатоль Грыцкевіч,*
доктар гістарычных навук, прафесар

2 сакавіка 2008 г.

# Беларускія калоніі

**Шмат якія краіны, вялікія і не вельмі, мелі доўгі час свае калоніі ў розных частках свету. Напрыклад, маленькая Партугалія яшчэ зусім нядаўна валодала калоніямі ў Афрыцы і Азіі. Дастаткова прыгадаць Анголу і Мазамбік. А Беларусь, беларусы? Ці былі ў іх калоніі, ці мелі і яны нейкія залежныя ад іх тэрыторыі? Так, былі. І даволі працяглы час. Бо для нас заўжды выхад да мора мае важнае эканамічнае значэнне.**

Першыя дзве калоніі на Заходняй Дзвіне стварыла Полацкая дзяржава. Гэта васальныя полацкія княствы на Заходняй Дзвіне Герцыке і Кукенойс. Іх вытокі сягаюць недзе ў X–XI стст. Першы фарпост Полацка на землях ліваў і земгалаў г. Герцыке меў магутныя ўмацаванні ўжо ў X ст. У «Хроніцы Лівоніі» ён згадваецца пад 1203 годам. Гэта быў багаты горад, які меў некалькі праваслаўных храмаў і свайго князя. Немцы называлі яго «каралём». Далей на захад ад Герцыке, дзесьці ў XI ст., узнікае яшчэ адна полацкая калонія на адлегласці ад метраполіі ў 338 км — Кукенойс (зараз Кокнесе). У нямецкай хроніцы пад 1205 годам запісана, што там «сядзеў» князь (кароль) Вячка.

У 1106 г. земгалы паднялі паўстанне супроць Полацка, але поспехаў не мелі. Найбольш падпарадкаваныя Полацку былі лівы. У 1186 г. яны



Рэшткі гарадзішча і замка ў Кокенгаўзене (Кукенойсе)



Герцыке. Рэчы XI–XIII стст.

нават хадзілі з полацкімі князямі ў паход на Друцк. Абедзве калоніі былі месцам збору даніны, а таксама буйнымі гандлёва-рамеснымі цэнтрамі. Праз мясцовых князёў падпарадкоўваліся полацкаму князю прызначаныя ім старшыны родам з тутэйшых плямёнаў.

У адрозненне ад крыжакоў, полацкія князі не прымушалі ліваў, земгалаў і латгалаў гвалтам прымаць хрысціянства, і стасункі паміж імі былі стабільныя. Таму і новыя прыхадні-крыжакі прызнавалі права палачанаў атрымліваць даніну з ліваў.

У 1186 г. полацкі князь Уладзімір дазволіў нямецкаму місіянеру біскупу Мейнарду хрысціць ліваў і іншыя плямёны, сваіх васалаў. У 1201 г. нямецкія купцы і манахі заснавалі ў вусці Дзвіны горад Рыгу, а біскуп Альберт з Брэмэна стварыў на захопленых землях у 1202 г. рэлігійны ордэн мечаносцаў. Такім чынам, Полацку зачынілі шлях да мора. Дарэчы, у 1204 г. крыжакі разрабавалі і захапілі Канстанцінопаль, сталіцу праваслаўнага хрысціянства, што магло адгукнуцца і на Балтыйскім моры.

Ваенныя дзеянні паміж крыжакамі і палачанамі пачаліся ў 1203 г. У 1206 г. полацкае войска асадзіла Рыгу і замак Гольм, але ўзяць іх не змагло, бо крыжакі былі лепей



Здымкі пячатак на дамове паміж Рыгай і Полацкам. 1330 г.



Рыжская вежа. XIII ст.

узброены. Крыжацкія балісты на значнай адлегласці забівалі і ранілі полацкіх вершнікаў. Ужо ў 1207 г. уся Лівонія была захоплена і ахрышчана немцамі. Неўзабаве іх войскі напалі на полацкія калоніі. Спачатку ў 1209 г. захапілі і разбурылі Кукенойс і на яго месцы збудавалі свой замак, а потым у тым жа годзе захапілі Герцыке, прычым у палон трапіла нават жонка мясцовага князя Усевалада.

У 1210 г. полацкі князь Уладзімір падпісаў мірную дамову з біскупам Альбертам і гандлёвае пагадненне з Рыгай, а ў 1214 г. канчаткова аддаў крыжакам Кукенойс і Герцыке. У 1264 г. уладанні крыжакоў ушчыльную падышлі да межаў Полацкай дзяржавы. Полацкі князь Гердзень падпісаў пагадненне з ордэнам, у якім былі пазначаны правы нямецкіх купцоў у Полацку і полацкіх у Рызе. Немцы збудавалі ў Полацку мураваны касцёл св. Пятра, на гарышчы якога захоўвалі свае тавары. Была праваслаўная полацкая царква і ў Рызе. Неўзабаве Полацкая дзяржава ўвайшла ў склад ВКЛ.

Захопленая немцамі тэрыторыя атрымала назву Лівонія, альбо Ліфлянд, ці Інфлянты. Тут месцілася канфедэрацыя з 5 дзяржаў, якой намінальна кіравалі папа рымскі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі. Канфедэрацыю складалі Лівонскі (альбо Інфлянцкі) ордэн, арцыбіскупствы Рыжскае, Дэрпцкае, Эзель-Вікскае і біскупства Курляндскае. Такая сітуацыя існавала да сярэдзіны XVI ст. Але пачалася Лівонская вайна. Войскі Івана Жахлівага, які перад гэтым заваяваў Казанскае ханства, у 1558 г. захапілі порт Нарву, і былы наўгародскі гандаль аднавіўся. Войскі Масковіі хутка акупавалі большую частку Лівоніі, палячы і рабуючы гарады і замкі. Кожны з удзельнікаў Лівонскай канфедэрацыі ратаваўся як мог. Эзельскі біскуп у 1560 г. прадаў сваё ўладанне дацкаму каралевічу Магнусу. З яго ўзяў прыклад і біскуп Рэвельскі, але ў 1561 г. Рэвель і ўсю паўночную Эстонію захапілі шведы. Курляндскі біскуп Іаган IV Мюнхаўзен яшчэ ў 1559 г.

перадаў сваё біскупства дацкаму каралю, і той аддаў гэтыя землі свайму брату Магнусу. Такім чынам, у рукі Даніі трапіла паўночная Латвія і паўднёвая Эстонія.

Лівонцы вырашылі перадаць свой лёс у рукі ВКЛ. 5 сакавіка 1562 г. магістр Лівонскага ордэна Готард Кетлер у Рыжскім замку перадаў Мікалаю Радзівілу Чорнаму пячатку Ордэна, ключы ад Рыгі і зняў з сябе ордэнскую мантыю. Так у нас зноў з'явілася калонія, і нават не адна. Тут варта прыгадаць «Хроніку Лівонскай правінцыі», напісаную эстонскім святаром і школьным настаўнікам Балтазарам Русавым. Упершыню яна была надрукавана ў 1578 г. у Ростаку.

«Польскі кароль Жыгімонт Аўгуст, па прапанове вялікага магістра Готарда Кетлера, узяў пад свой кантроль тыя землі і гарады ў Лівоніі, што засталіся не захопленымі. Ён аддаў у спадчыннае валоданне магістру некаторыя землі і замкі ў Курляндыі і ў рыжскім біскупстве і назваў яго герцагам Курляндскім і графам Семігальскім. Тады скончылася магістарства Тэўтонскага ордэна ў Лівоніі, і былі створаны два патомныя свецкія княствы: адно Курляндскае, падараванае герцагу, другое ў зямлі летаў і біскупстве рыжскім, якое кароль пакінуў сабе і якое цяпер завецца Задзвінскім княствам».

Берасцейскі сойм ВКЛ 1566 г. зрабіў кіраўнікам Лівоніі Яна Хадкевіча. Ён дасягнуў поўнага злучэння Лівоніі з ВКЛ, што адбылося на Гродзенскім сойме напрыканцы 1566 г. Лівонцы прызналі сябе часткай ВКЛ, але захавалі свае мясцовыя правы. Падчас Люблінскай уніі ВКЛ здолела захаваць свае правы на Лівонію — як на Задзвінскае герцагства, так і на Курляндыю. Так, да канца існавання Рэчы Паспалітай Курляндыя была калоніяй як ВКЛ, так і Кароны. Такое валоданне адной тэрыторыяй дзвюма краінамі адначасова завецца кандамініумам. У 1581 г. шведы захапілі ў Масковіі Нарву, і рускага канкурэнта на Балтыцы не стала.

З Рыгі ў гарады і замкі ВКЛ везлі соль, селядцы, палотны, шоўк, віно, піва, вострыя прыправы, жалеза, медзь, волава і свінец. З ВКЛ вывозілі ў Рыгу будаўнічыя бярвёны, дровы, скуры, смалу, збожжа, каноплі, лён, воск, сала, канапляны алей. Аднак галоўны імпартны тавар — гэта соль і селядцы. Наш экспарт — гэта воск, лес і збожжа. Соль перавозілі ў мяхах. Зімой з Рыгі везлі жалезныя вырабы: патэльні, лемяхі, сякеры і косы.

Беларусы мелі свой рачны флот. Гэты вялікія караблі-учаны, а таксама стругі, паўстругі, шкуты, лодкі і плыты. Існавалі і вялікія баркі, што бралі на борт да 12 тысяч пудоў грузу. Былі і мясцовыя лоцманы, якія


Герцаг Якаб

за вялікую плату (300 копаў грошаў) праводзілі стругі праз парогі.

Лёс нашых калоній склаўся даволі цікава.

Пачнём з Задзвінскага герцагства, альбо Інфлянцкага княства. Спачатку часовым губернатарам гэтай тэрыторыі быў былы магістр Кетлер. 26 снежня 1566 г. Гарадзенскі сойм уключыў Інфлянцкае княства ў склад ВКЛ. Кіраваў гэтай калоніяй губернатар, які прызначаўся каралём і вялікім князем літоўскім. Сталіцай быў горад Дынабург. Але неўзабаве пачалася вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй (1600–1629). І першы ўдар шведаў прыпаў менавіта на Задзвінскае герцагства. Герцагства практычна распалася. Пасля 1629 г. у ВКЛ засталася толькі Латгалія, а паўднёвая Эстонія і паўночна-заходняя частка Латвіі разам з Рыгай адышлі да Швецыі. Пасля Паўночнай вайны ў 1721 г. гэтыя землі забрала Расія. Латгалія ў складзе ВКЛ была падзелена на чатыры староствы, якія ў 1667 г. былі аб'ядныя ў Інфлянцкае ваяводства з цэнтрам у Дынабургу. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. Латгалію захапіла Расія.

Спачатку (1772–1776) гэта Дзвінская правінцыя Пскоўскай губерні, потым (1776–1796) у складзе Полацкай губерні, пазней уваходзіла ў Беларускую губерню (1796–1802). Усё XIX ст. і да 1917 г. (з 1802 г.) Латгалія належала Віцебскай губерні. 11 жніўня 1920 г. Ленін перадаў Латвіі тры паветы Віцебшчыны, часткова населеныя беларусамі, — Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы, а таксама 4 мільёны рублёў золатам. У 1921 г. Літва перадала Латвіі 299 км$^2$ у Ілукскім павеце каля Дзвінска з пераважна беларускім насельніцтвам.

Цікавы гістарычны лёс напаткаў Курляндыю. Яна была аўтаномнай часткай ВКЛ. З 1617 да 1795 г. дзяржаўны лад вызначала мясцовае заканадаўства — Курляндскія статуты. Найбольшую магутнасць Курляндыя дасягнула пры герцагу Якабу (1640–1682), які меў свой, і даволі някепскі, ваенны і гандлёвы флот, з дапамогай якога ён захапіў дзве калоніі ў Амерыцы і Афрыцы.

У Афрыцы некалькі год (з 1651 па 1655 г.) Курляндыі належала краіна Гамбія. У XV ст. сюды прыйшлі партугальцы, потым у XVI ст. тут

з’явіліся англічане, французы і галандцы. З 1786 па 1965 г. тут валадарылі брытанцы. Мясцовыя плямёны здаўна вырошчваюць арахіс, рыс, сорга, бавоўну, збіраюць пальмавыя арэхі.

Востраў Табага ў Вест-Індыі належаў Курляндыі даўжэй — з 1645 па 1665 г. Востраў займаў вельмі выгоднае стратэгічнае становішча. Яго плошча 300 км$^2$, ён пакрыты вечназялёнымі лясамі і мае высокія горы. Такім чынам, праз Курляндыю ВКЛ апынулася ў Афрыцы і Новым Свеце.



Герб Курляндыі

У 1709 г. герцагам Курляндыі стаў Фрыдрых Вільгельм Кетлер, які праз год ажаніўся са сваячкай (кузінай) Пятра І Ганнай Іванаўнай. Неўзабаве, у 1711 г. ён памёр, і за ўладу разгарнулася спрэчка паміж Ганнай Іванаўнай і дзядзькам Фрыдрыха Фердынандам. Рускі ўрад запатрабаваў ад Курляндыі плаціць штогод 40 тыс. рублёў на ўтрыманне Ганны Іванаўны, якая неўзабаве стала расійскай імператрыцай.

У 1726 г. ландтаг Курляндыі абраў герцагам Морыца Саксонскага, пазашлюбнага сына караля Рэчы Паспалітай Аўгуста ІІ Моцнага. Аднак у верасні 1727 г. у краіну ўвайшлі рускія войскі і вярнулі ўладу Фердынанду.

Курляндыя.
Палац у Рундале.
1736 г. Барока.
Архітэктар Растрэлі



У 1737 г. герцагам абралі графа Эрнста Ёгана Бірана, які з 1730 г. жыў пры двары Ганны Іванаўны і быў рэгентам Расіі.

У рускай літаратуры і гісторыі існуе такі тэрмін — «біронаўшчына», калі некаранаваны муж Ганны Іванаўны Біран практычна кіраваў Расіяй. Рускія гісторыкі вельмі не любяць гэты час і лічаць яго перыядам застою і ўпадку. Але менавіта ў гэты час быў абмежаваны тэрмін ваеннай і адміністратыўнай службы ў Расіі да 25 год, у 1731 г. заснаваны кабінет міністраў, а ў 1734 г. была падпісана гандлёвая дамова з Брытаніяй. Рускія войскі здолелі захапіць у туркаў горад Азоў. Расквітнела і Курляндыя, асабліва яе сталіца Мітава (зараз Елгава). Тут былі цудоўныя палацы сярод прыгожых паркаў.



Палац у Рундале. Сучасны выгляд

Пасля смерці рускай імператрыцы ў 1740 г. Бірана арыштавалі і пазбавілі ўсіх пасад. Але ў 1763 г. Кацярына II вярнула Бірану ўладу ў Курляндыі. У 1769 г. ён перадаў сваю пасаду сыну Пятру.

У 1794 г. ландтаг Курляндыі выступіў супраць паўстання Касцюшкі, а 7 сакавіка 1795 г. прагаласаваў за добраахвотнае далучэнне да Расіі. 17 сакавіка герцаг Пётр адрокся ад пасаду, і Курляндыя знікла з карты Еўропы. У 1796 г. была ўтворана Курляндская губерня Расіі.

# Дзвінскі край

**У XIX – пачатку XX ст. этнографы і гісторыкі называлі Дзвінскім краем тры самыя заходнія паветы Віцебскай губерні: Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі — месцы, дзе жылі латышы і беларусы. Прычым былі вобласці, дзе беларускае насельніцтва значна пераважала колькасць латышоў, рускіх і яўрэяў.**

На тэрыторыі Латгаліі, дзе здаўна жыло балтыйскае племя латгалаў, нашы продкі крывічы з'явіліся ў X–XI стст. Яны мелі моцную дзяржаву Полацкае княства і, дзякуючы яго падтрымцы, стварылі тут два васальныя княствы Герцыке і Кукенойс. Апошнія залежалі ад Полацка і плацілі яму даніну. Гэта былі першыя дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі сённяшняй Латвіі, і таму невыпадкова, што інфармацыя пра іх асвятляецца ў некалькіх падручніках па гісторыі гэтай краіны.



Гісторыя мяжы на пràсторах Беларусі (паводле Аркадзя Смоліча)



Уладар Герцыке князь Усевалад (Вісвалдзіс). З карціны Лібертса

Праўда, латышскія гісторыкі стараюцца не згадваць пра славянскае, крывіцкае паходжанне гэтых княстваў і іх князёў.

Так, князя Вячку, які кіраваў Кукенойсам, назвалі Ветсеке, а князя Усевалада, уладара Герцыке, — Вісвалдзісам.

Сітуацыя ў Дзвінскім краі змянілася з прыходам крыжакоў, якія ў пачатку XIII ст. захапілі полацкія калоніі. У 1214 г. гэты факт быў прызнаны полацкім князем Уладзімірам. У 1264 г. крыжацкія ўладанні ўшчыльную падышлі да межаў Полаччыны. У 1275 або 1278 г. крыжакі заснавалі памежны замак Дынабург, вакол якога ўзнік надалей вялікі горад. Двойчы, у 1403 і 1418 гг. вялікі князь Вітаўт захопліваў замак, але надоўга затрымацца ў ім не здолеў.

Ніжняе Падзвінне ў IX–XIII стст.



Сітуацыя перамянілася на нашу карысць у XVI ст., калі пачалася Лівонская вайна. Пасля разгрому Лівоніі войскам Івана Жахлівага на гэтай тэрыторыі ўтварыліся дзве калоніі ВКЛ: Курляндскае герцагства і Задзвінскае княства.



Герб Задзвінскага княства

Сталіцай Задзвінскага, або Інфлянцкага, княства стаў Дынабург. У 1577 г. горад і замак захапілі войскі Івана Жахлівага, але праз год нашы войскі адбілі яго.

Стары рыцарскі замак быў збудаваны паміж возерам Шчуня і Заходняй Дзвіной. Ён меў форму няправільнага чатырохкутніка шырынёй 18 і даўжынёй 60 метраў і шэсць абарончых вежаў. Новы замак у Дынабургу ў 1588 г. будуе Сцяпан Батура, першы кароль Рэчы Паспалітай. Сам горад размясціўся побач з гэтым замкам.

Былыя ордэнскія ўладанні кароль перадаў сваім людзям, і ўлада нямецкіх феадалаў зменшылася. Дзяржаўнай рэлігіяй заставаўся каталіцызм, будаваліся новыя храмы і калегіюмы. З’явіліся першыя царкоўныя кнігі на латышскай мове.

У выніку вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй ВКЛ страціла паўднёвую Эстонію і паўднёва-заходнюю Латвію разам з Рыгай.

Латгалія, што засталася ў складзе ВКЛ, была падзелена на чатыры староствы: Дынабургскае, Рэжыцкае, Люцынскае і Марыенгаўзскае. У 1667 г. Сойм ВКЛ аб’яднаў іх у Інфлянцкае ваяводства з цэнтрам у Дынабургу. Тут была рэзідэнцыя біскупа інфлянцкага і мясцовага ваяводы.

У 1629 г. ваявода Гансеўскі заснаваў у Дзвінску калегіюм езуітаў. Горад у той час меў чатыры часткі: 1) замак у даліне на правым беразе Дзвіны; 2) стары фарштат на адлегласці паўвярсты ад замка на беразе возера Шчуня; 3) новы фарштат на адлегласці вярсты ад цвердзі; 4) мястэчка Грыва на левым беразе ракі, якое належала Курляндыі.

Другі беларускі горад Латвіі — гэта Краслаў, альбо Краслава. Ён знаходзіцца на правым беразе Дзвіны пры вусці рэчкі Краслаўкі. У 1680 г. тут заснавалі езуіцкую місію.



Выява замка ў Дынабургу

У 1730 г. у Краславе гаспадарыць род Плятэраў. Мсціслаўскі ваявода Людовік Плятэр у 1752 г. будуе прыгожы палац з садам, а ў мястэчку — ратушу з вежаю, гасціны двор, шпіталь і кляштар сёстраў міласэрнасці. У двухпавярховым доме месцілася бібліятэка, а ў мураваных дамах жылі рамеснікі, запрошаныя ваяводам з Германіі і Польшчы. Тут выраблялiся дываны, аксаміт, сукно, паркалі, зброя, экіпажы для конных выездаў і ювелірныя вырабы.

Трэці горад, дзе жылі беларусы, быў Люцын, або Лудзен. Крыжакі збудавалі там магутны замак з шасцю вежамі і трыма брамамі, прычым адна з іх мела пад'ёмны мост.

Вельмі цікавым быў і Рэжыцкі замак, які паўстаў на правым беразе рэчкі Рэжыца ў канцы XIII ст. Замак меў глыбокія лёхі і тры паверхі. Па форме гэта быў васьміграннік. Падчас Лівонскай вайны ён некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Існавала таксама Рэжыцкае староства.

Паводле першага падзелу Рэчы Паспалітай Латгалія трапіла ў склад Расійскай імперыі. Спачатку беларуская яе частка стала Дзвінскай правінцыяй Полацкай губерні (1776–1796). Пазней яна ўваходзіла ў Беларускую губерню (1796–1802). З 1802 г. Дынабургскі, Люцынскі і Рэжыцкі паветы былі ў складзе Віцебскай губерні (да 1917 г.).

Дзвінскі край моцна пацярпеў у 1812 г., падчас вайны з Напалеонам. Цэнтрам мясцовага культурнага жыцця стала Краслава, дзе Адам Плятэр, выпускнік Віленскага універсітэта, сябра віленскай археалагічнай камісіі (1850) стварыў музей, бібліятэку і архіў. Ён быў куратарам школ Дынабургскага павета Віцебскай губерні,

вывучаў курганныя могільнікі і першым у 1843 г. апісаў Барысавы камяні.

У першай чвэрці XIX ст. рускія ўлады будуюць у Дынабургу магутную крэпасць. У 1831 г. у горадзе адкрылі гімназію, якая потым стала апірышчам беларускага адраджэння ў Дзвінскім краі. Росквіт горада прыпадае на другую палову XIX – пачатак XX ст. Праз яго прайшлі дзве чыгункі: Паўночна-Заходняя і Рыга-Арлоўская. Тут знаходзіўся і вялікі рачны порт. Гэта быў гандлёвы і прамысловы горад. У горадзе жылі яўрэі, беларусы, латышы, рускія стараверы. Вакол былі ў асноўным беларускія вёскі. З 1893 г. горад атрымаў назву Дзвінск і называўся так да 1920 г. (з 1920 — Даўгаўпілс).

Пасля 1905 г. у Дзвінску дзейнічаюць беларускія адраджэнцы Эпімах-Шыпілы і Гаўронскія. На тэрыторыі Латвіі працуюць Ігнат Буйніцкі, Ніна Ватацы, Кастусь Езавітаў, Карусь Каганец, Вацлаў Ластоўскі і Іван Луцкевіч. Па перапісу 1897 г., у Дзвінскім краі жыло 79 523 беларусы. У канцы XIX ст. тут актыўна працаваў Еўдакім Раманаў, які правёў раскопкі знакамітага Люцынскага могільніка.

У Рэжыцкім павеце нарадзіўся Баляслаў Брэжга, адзін з пачынальнікаў архіўнай справы на Беларусі, знакаміты археолаг, філолаг і гісторык. З 1918 па 1922 г. ён быў загадчыкам Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. З 1925 г. жыў у Латвіі, быў

**Мапа Латвіі ў 1905–1907 гг.**



Горад Дзвінск у пачатку XX ст. (паводле А. Смоліча)



прафесарам кафедры археалогіі Рускага інстытута універсітэцкіх ведаў, з 1937 г. — інспектар упраўлення помнікаў. У 1940–1941 гг. — дырэктар Дзвінскага павятовага дзяржаўнага архіва. З 1946 г. працуе ў Інстытуце гісторыі і матэрыяльнай культуры Акадэміі навук ЛССР. У 1933 г. у Вільні выдаў працу «Замкі Віцебшчыны». Вывучаў сувязі беларусаў і латышоў, полацкія летапісы, склаў бібліяграфію па гісторыі Беларусі.



Саламон Міхоэлс

У Дзвінску ў 1890 г. нарадзіўся вядомы актор, рэжысёр і педагог, мастацкі кіраўнік Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, старшыня Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта Саламон Міхоэлс (сапраўднае імя і прозвішча Шлоймэ Воўсі). Дзякуючы яго намаганням у ЗША былі сабраныя мільёны ахвяраванняў у фонд абароны СССР у гады вайны, а таксама ён паспрыяў таму, што ЗША аказалі СССР значную ваенна-тэхнічную дапамогу па лэнд-лізе. 12 студзеня 1948 г. па тайным загадзе Сталіна быў забіты ў Мінску.

Перад Першай сусветнай вайной Дзвінск выйшаў на другое месца сярод беларускіх гарадоў па колькасці насельніцтва (Вільня — 200 тыс., Дзвінск — 120 тыс., Мінск — 110 тыс., Віцебск — 115 тыс.).

У горадзе была добрая прамысловасць. Гарбарня, дзе працавала 2000 рабочых, тры фабрыкі гузікаў, млыны і бровары. Ішоў актыўны гандаль мануфактурай, лесам і льном.

У 1915 г. Дзвінск апынуўся на лініі фронту. У верасні 1917 г. тут адбыўся Беларускі Вайсковы з'езд 5-ай арміі, які стварыў Беларускі нацыянальны камітэт. У 1918 г. Дзвіншчыну захапілі немцы, потым бальшавікі, а ў 1920 г. — польскае войска. У 1920 г. у Рызе знаходзіўся ўрад БНР на чале з Ластоўскім, у Латвіі былі надрукаваныя першыя беларускія маркі (серыя «Асобны атрад БНР»).

11 жніўня 1920 г. Ленін перадаў Латвіі тры паветы Віцебшчыны, часткова населеныя беларусамі, — Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі, а таксама 4 мільёны рублёў золатам. У 1921 г. Літва перадала Латвіі 299 км$^2$ у Ілукскім павеце каля Дзвінска з пераважна беларускім насельніцтвам.

Кіраўнік Расійскай дэлегацыі А. Іофе адзначыў, што ў выніку міру з Латвіяй Савецкая Расія набыла ўжо не фортку, а шырокія дзверы ў Еўропу, у выглядзе выдатных латышскіх партоў — Лібава і Віндава.

Пасля вайны беларусаў у Дзвінскім краі засталося каля 70 тысяч, прычым напалам каталікі і праваслаўныя. Тут дзейнічалі

**Мапа Латвіі са школьнага падручніка.**
**Змаганне за ўладу ў Латвіі ў 1919 г.**






Мапа Беларусі з газеты «Звязда» (1924. № 301)

культурна-асветныя арганізацыі «Бацькаўшчына», «Беларуская хата», «Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства». У Рызе дзейнічала газета «Голас беларуса» на чале з К. Езавітавым.

Працавалі Рыжская, Дзвінская і Люцынская беларускія гімназіі і шматлікія школы. Першая беларуская школа ў Латвіі была заснавана ў 1921 г., а ўжо ў 1922 г. было 46 беларускіх школ з 3500 вучнямі. У Дзвінскай беларускай гімназіі выдавалі штомесячнік «Школьная праца» (13 нумароў, 1926–1934 гг.), а ў Люцынскай — часопіс «Ластаўка» (1923–1924). Дзякуючы дэпутату Яну Райнісу пры Міністэрстве асветы Латвіі быў створаны Беларускі аддзел на чале з Сахаравым. Аднак пасля прыходу да ўлады ў 1934 г. Карла Ульманіса сітуацыя значна пагоршылася.

У 1940 г. беларусы Латгаліі апынуліся ў СССР. Неўзабаве пачалася чарговая вайна з немцамі. Падчас нямецкай акупацыі дзейнічалі



Сябры рэдакцыі газеты «Голас беларуса» на чале з К. Езавітавым. Рыга, 1926 г.



Беларускія пілігрымы ў Аглоне. Жнівень 2007 г.

беларускія пачатковыя школы і нават выдаваўся часопіс «Новы шлях», але потым культурнае беларускае жыццё тут спынілася.

Пасля вайны колькасць беларусаў у Латвіі і Дзвінску ўвесь час павялічвалася. У 1959 г. у Латвіі жыло 61,9 тыс. беларусаў, а ў 1989 г. — 120 тыс., з іх у Дзвінску — 10 тыс. чалавек.

Пасля аднаўлення незалежнай Латвіі ў 1991 г., у Рызе была зноў адкрыта беларуская гімназія, а ў Даўгаўпілсе з 1993 г. існуюць беларускае культурна-асветнае аб'яднанне «Уздым», а таксама беларуская нядзельная школа. З 1996 г. тут існуе суполка Міжнароднага фонду Я. Купалы. Аднак у сучасных падручніках для латвійскіх школаў беларусы Латгаліі практычна не ўзгадваюцца.

Варта згадаць таксама пілігрымкі беларускіх каталікоў у Аглонскую базіліку, да абраза Маці Божай Аглонскай, якія ладзяцца ўжо трэці год запар. Аглона — гэта мястэчка Латгаліі, у ваколіцах Даўгаўпілса, дзе ў свой час дамініканцы збудавалі шыкоўны касцёл у стылі барока і дзе адзначаецца 15 жніўня свята Маці Божай Аглонскай. У 2007 г. каталіцкія вернікі з парафіі святых Сымона і Алены ў Мінску спачатку наведалі касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Даўгаўпілсе, дзе некалі служыў святаром пробашч Чырвонага Касцёла айцец Уладзіслаў Завальнюк, а ўжо потым дабраліся да Аглоны.

Такім чынам, культурніцкія і канфесійныя сувязі з беларусамі Латвіі і асабліва з жыхарамі Дзвінскай зямлі паступова пашыраюцца.

# Пскоўская рэспубліка

**На тэрыторыі сённяшняй Пскоўскай вобласці крывічы з'явіліся ў VII–VIII стст. і дайшлі да паўднёвых берагоў Чудскога возера. Яны ўвесь час кантактавалі з мясцовымі фіна-ўгорскімі плямёнамі і таму склалі асобную групу пскоўскіх крывічоў, якія мелі пэўны тып жаночых упрыгожванняў. Упершыню пскоўскія крывічы згадваюцца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 859 годам у сувязі з іх сумесным паходам на Візантыю ў складзе войска кіеўскіх князёў Алега і Ігара. Пад 862 годам у летапісе згадваецца вараг Трувор, што пасяліўся сярод пскоўскіх крывічоў на гарадзішчы, якое ў яго гонар названае Труворавым. Пазней, у 1329 г. тут будуецца каменная цвярдыня, што дайшла да нашых дзён, і ўзнікае горад Ізборск, які ў канцы XIV – пачатку XV ст. меў пасады і гарадскі могільнік.**

У VIII ст. узнікае гарадское паселішча пад назвай Пскоў, на высокай скале ў сутоцы рэчак Вялікай і Псквы. Археолагі знайшлі ў гістарычнай частцы горада шматлікія рэшткі дахрысціянскіх ахвярнікаў, што стаялі цэлымі шарэнгамі. Яны мелі авальную форму, былі складзены з чыстага рачнога пяску і абкладзены па перыметры каменнымі плітамі. Побач ляжалі шкілеты коней, прынесеных у ахвяру. Такім чынам, горад быў буйным рэлігійным цэнтрам у крывіцкіх землях.



**Адна з заходніх вежаў Ізборскай цвярдыні «Вышка»**

Першы раз у летапісе Пскоў згадваецца пад 903 годам. З X ст. ён у складзе Кіеўскай Русі, а з XII ст. належыць Наўгародскай

дзяржаве. У 1240 г. горад захапілі крыжакі, але ў 1242 г. яго вызвалілі войскі наўгародскага князя Аляксандра Неўскага.

Самай старажытнай часткай горада з’яўляецца дзядзінец, што спачатку меў драўляныя, а потым (з XIII ст.) каменныя ўмацаванні і атрымаў назву Пскоўскі Крэмль, альбо Кром. У плане гэта няправільны шматграннік, абнесены каменнымі сценамі з вежамі, якія складзены з вапняковых пліт шэрага колеру. Найбольш вядомыя вежы маюць назвы Куцякрома (1400) і Смердзя. У сярэдзіне XIII ст. зрабілі каменную паўднёвую частку сцяны Крома, т. зв. Першы, ці Персі. Сцяна выходзіць на р. Вялікая, адкуль пачынаюцца ўмацаванні іншых гарадскіх кварталаў.

Раскапаныя археолагамі рэшткі першых дамоў гараджан уяўлялі сабою паўзямлянкі чатырохвугольнай формы памерам 3×3,5 м, заглыбленыя ў зямлю на 30–40 см. Сцены пабудоў былі абмазаныя глінай, яны ацяпляліся вогнішчамі, абкладзенымі камянямі.



**Даўмонтаў горад пасля раскопак**



Даўмонтаў горад (выява на абразе «Стрэчанне» з капліцы Уладыкавага Крыжа, прарысоўка)

З XIII ст. да Крома прыбудаваны яшчэ адзін умацаваны гарадскі квартал, які атрымаў назву Даўмонтаў горад. На працягу XIV–XV стст. тут узвялі шэсць каменных храмаў і каменныя палаты. Археолагі знайшлі рэшткі гэтых будынкаў, а таксама сляды старажытных вуліц, вымашчаных драўлянымі плахамі на лагах. Шырыня іх вагалася ад 3 да 3,15 м, а паабапал стаялі платы з абчасаных бярвёнаў дыяметрам ад 8 да 12 см. Быў знойдзены і драўляны вадаправод у выглядзе труб, што складаліся з двух жалабоў, абгорнутых бяростай. Гараджане ў гэты час жылі ў драўляных хатах плошчай у сярэднім 20–25 м$^2$.

У 1309 г. будуюць трэцяе кола гарадскіх сцен і з’яўляецца ўмацаваны Сярэдні горад. У канцы XIV – пачатку XV ст. гарадскія сцены дабудавалі і павялічылі іх таўшчыню да 4 метраў, а таксама зрабілі 6 вежаў з байніцамі. У другой палове XIV ст. узводзіцца новы каменны сабор Св. Тройцы, 20 каменных храмаў у розных частках горада і чацвёртае кола гарадскіх сцен, абнесенае глыбокім ірвом. Асобны раён горада называўся Запскоўскім і знаходзіўся на другім беразе рэчкі Псквы.

У канцы XII ст. за рэчкай Вялікай, на адлегласці 1,5 км ад дзядзінца, быў пабудаваны першы мураваны Спаса-Мірожскі сабор. Храм быў зроблены ў тэхніцы мяшанай муроўкі, дзе чаргаваліся рады тонкай цэглы — плінфы і каменных пліт. Сабор быў распісаны ўнікальнымі фрэскамі. Яшчэ адзін прыгожы сабор Нараджэння Багародзіцы быў пабудаваны ў 1310 г. у Снетагорскім манастыры. Храм быў складзены з каменнай пліты і меў шыкоўны фрэскавы роспіс.

З XIV ст. склалася самастойная пскоўская будаўнічая школа, якая стала адрозніввацца ад наўгародскай. Пскоўскія дойліды стварылі аднакупальную, трохапсідную кубічную кампазіцыю храма, а таксама асобны тып бясслуповага храма з сістэмай прыступкавых скляпенняў. Плоскія пабеленыя сцены падзялялі плоскімі лапаткамі на тры часткі



Міржскі манастыр

з паўкруглымі аркамі ў завяршэнні храма. У якасці прыкладу можна прывесці царкву Успення ў Мялетаве (1463). Адной з адметных рысаў пскоўскай школы былі высокія шматпралётныя званіцы.

Пазней, у XVI–XVII стст. у Пскове будавалі вялікія, у некалькі паверхаў, купецкія дамы з тоўстымі сценамі (каля 2 м). У сценах былі лесвіцы, пераходы, нішы і схованкі. Аконныя праёмы рабіліся ў выглядзе амбразур, зачыняліся кованымі аканіцамі і кратамі. З боку двара быў высокі ганак на шырокіх слупах з аркамі (да прыкладу — палаты Паганкіных, збудаваныя каля 1645 г.). Пскоўскіх дойлідаў запрашалі на працу ў розныя гарады, у тым ліку і ў Маскву.

У XIV–XV стст. расквітнела і пскоўская школа жывапісу. Творы вылучаюцца павышанай экспрэсіяй вобразаў, падкрэсленасцю блікаў і выразнасцю мазка пэндзля. Гэта фрэскі вышэйзгаданых сабора Нараджэння Багародзіцы і царквы Успення. Да другой паловы XIV ст. адносяцца унікальныя абразы «Сабор Маці Божай» і «Параскева Пятніца, Варвара і Ульяна».

У XV ст. узнікае славуты Пскоўска-Пячорскі манастыр у мясцовасці Пячора, які меў абароннае значэнне. У 1473 г. збудавалі першую падземную пячорную Успенскую царкву. У XVI ст. вакол манастыра ўзнікае пасад, які абнеслі разам з манастыром мураванай сцяной з 9 вежамі. Уваход ішоў праз Святыя вароты з вежай. Падземныя пячоры маюць даўжыню каля 200 м. У XVI ст. у манастыры зрабілі шматпралётную двух'ярусную вежу-званіцу з гадзіннікам. У XVI–XVII стст. тут будуюць 4 царквы, якія дайшлі да нашых дзён.



Выгляд на Кром з поўначы

У 1465 г. узнікае пятае кола гарадскіх сцен Пскова. Горад дзяліўся на 7 канцоў, з іх два — у Запскоўі. Канцы падзяляліся на сотні. За межамі горада з'явіліся рамесныя слабоды. У цэнтрах канцоў, альбо слабод, пачалі будаваць храмы, якія адначасова былі і складамі зброі.

У XVI ст. гарадскія сцены мелі даўжыню 9 км і 37 вежаў, з якіх вылучалася вежа Грамячая, збудаваная ў 1524 г.

Пскоўская дзяржава была невялікай і займала тэрыторыю ўздоўж рэк Вялікая і Нарова. З поўдня на поўнач яна мела даўжыню каля 300 км пры шырыні каля 100 км. Акрамя рэчак, Пскоўская зямля мела і два буйныя возеры — Чудское і Пскоўскае.

Вышэйшы орган улады — народнае веча, якое выбірала спачатку аднаго, а потым з 1420 г. — двух пасаднікаў, канчанскіх стараст і соцкіх. Існавала ўрадавая рада на чале з запрошаным (наёмным) князем, які кіраваў баявой дружынай і служыў за грошы (корм). Была і судовая калегія — гаспода, у якую ўваходзілі выбарныя чальцы з ліку баяр.

Пскоўскае грамадства складалася з баяр, але не вельмі багатых, купцоў, рамеснікаў і вольных сялян, якіх звалі земцы альбо сябры. Бедныя сяляне бралі зямлю ў арэнду і называліся ізорнікі. А халопаў тут не было.

Вялікі ўклад у атрыманне Псковам незалежнасці ад Ноўгарада зрабіў князь Даўмонт. Гэты Нальшчанскі князь у 1263 г. забіў Міндоўга, заснавальніка ВКЛ, і ў 1265 г. з дружынай у 300 чалавек уцёк у Пскоў, ратуючыся ад войска сына Міндоўга — Войшалка. У 1266 г. ён прымае хрысціянства і імя Цімафей і абіраецца князем. Доўгі час ён ваюе з крыжакамі, а таксама з Полацкам і нават забівае полацкага князя Гердзеня. Пасля смерці князя кананізавалі як Святога Цімафея — абаронцу Пскова, а яго меч лічыўся сімвалам незалежнасці.

У часы Гедыміна Пскоў хацеў канчаткова вызваліцца з залежнасці ад Ноўгарада, і таму яго адносіны з ВКЛ значна палепшыліся. Актыўна дапамагаў пскоўцам зяць Гедыміна Давыд Гарадзенскі. Калі крыжакі ў 1323 г. асадзілі Пскоў, ён адагнаў іх ад горада і знішчыў сценабітныя машыны крыжакоў.



Сёння ў Пскове можна набыць гарэлку «Даўмонт»

У 1341 г. пскоўцы звярнуліся па падтрымку да Альгерда, і ён прыйшоў ім на дапамогу разам з Кейстутам. Сын Альгерда Андрэй быў ахрышчаны і стаў пскоўскім князем з 1342 па 1345 г. Яго намеснікам быў таксама выхадзец з ВКЛ — Юры Вітаўтавіч. У 1342 г. пры абароне Пскова ад крыжакоў загінуў сын полацкага князя Воіна — Любка.

У 1348 г., пасля падпісання з Ноўгарадам Болатаўскай дамовы, Пскоўская дзяржава канчаткова стала незалежнай. Аднак духоўная ўлада засталася ў руках наўгародскага ўладыкі, які раз у тры гады прыязджаў у Пскоў і здзяйсняў царкоўны суд.



Запскоўе. Царква Казьмы і Дзям'яна

У XV ст. эканоміка Пскова знаходзілася на ўздыме. Сяляне вырошчвалі шмат жыта, а таксама пшаніцу, авёс, ячмень. На гародах збіралі добрыя ўраджаі рэпы, цыбулі і капусты. Пскоўскі лён актыўна вывозіўся ў краіны Прыбалтыкі. Актыўна развівалася рыбалоўства, выраблялiся вялікія лодкі — учаны. Славіліся і мясцовыя рамеснікі, якія шылі адзенне, апрацоўвалі металы і скуры, выраблялі солад



Выгляд цвярдыні ў Пячорах

і малолі муку. Пскоўскія муляры запрашаліся на працу ў Масковію і іншыя краіны Усходняй Еўропы. У Пскове таксама квітнеў выраб званоў. Актыўна развіваўся і гандаль з суседзямі — Цвярской дзяржавай, Ноўгарадам, Разанню, ВКЛ, а таксама з нямецкімі краінамі. З 1424 г. Пскоў наладзіў чаканку ўласнай срэбранай манеты з выявай рысі — герба горада.

У XV ст. Пскоў стаў праводзіць прамаскоўскую палітыку і спадзяваўся такім чынам захаваць сваю незалежнасць. Ён падтрымліваў Масковію ў войнах з Ноўгарадам і ВКЛ, асабліва падчас вайны 1500–1503 гг. Але гэта не дапамагло пскоўцам, бо Масковія не хацела мець у сябрах незалежную рэспубліку.

13 студзеня 1510 г. маскоўскае войска ўвайшло ў Пскоў, быў спушчаны са званіцы вечавы звон як сімвал волі і незалежнасці. 300 самых багатых сем'яў пскоўскіх баяр і купцоў адправілі ў ссылку. Прычым дазвалялі ўзяць з сабою толькі тое, што апранута на целе. Таму на дзяцей апраналі па 2–3 футры, хавалі залатыя манеты ў жаночую бялізну. Як гэта нагадвала раскулачванне ў сталінскія гады!

Да сённяшняга часу захаваліся пскоўскія летапісы XIV–XVII стст. у колькасці 25 спісаў. Найбольш цікавы летапісны збор 1450–1460-ых гг., які вёўся пры Троіцкім манастыры.

Зноў Пскоў адраджаецца ў канцы XVIII ст., калі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. пскоўская правінцыя

ператварылася ў губерню з цэнтрам у г. Апочка і ўвайшла ў склад Беларускага генерал-губернатарства. Да 1775 г. яно мела правінцыі — Віцебскую, Вялікалуцкую, Дзвінскую, Полацкую і Пскоўскую.

У 1776 г. ад Пскоўскай губерні аддзялілі Полацкую, а цэнтрам пазасталай часткі стаў Пскоў, які быў губернскім горадам да 1927 г.


Герб Пскова

У 1918 г. Пскову і Пскоўшчыне наканавана было стаць месцам, дзе зарадзілася ядро найбольш баяздольнага вайсковага фармавання незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, а менавіта злучэнне Станіслава Булак-Балаховіча. У пачатку лістапада 1918 г. каля станцыі Карамышава (за 20 км на ўсход ад Пскова) полк С. Булак-Балаховіча перайшоў на бок Паўночнай арміі белых. Будучы яшчэ ў званні ротмістра С. Булак-Балаховіч быў прызначаны камандзірам асобнага коннага атрада. Змагаўся ён (пасля адыходу немцаў і белых з Пскова ў Эстонію 26 лістапада 1918 г.) у раёне Пячоры, на поўдзень ад Пскоўскага возера.

25 снежня 1918 г. часткі Паўночнай арміі падпарадкаваліся ўладзе незалежнай Эстоніі. Армія была пераўтворана ў Паўночна-Заходні корпус, які быў падзелены на дзве групы ў аператыўных адносінах. Адна яго група дзейнічала ў раёне Нарвы, другая — на пскоўскім кірунку. У пскоўскай групе і змагаўся С. Булак-Балаховіч. За ўдзел у вызваленні Тарту ад бальшавікоў Балаковіч атрымаў у студзені 1919 г. званне падпалкоўніка.

15 мая 1919 г. полк і іншыя часткі, падпарадкаваныя ў гэтай аперацыі С. Н. Булак-Балаховічу, занялі горад Гдоў, за што С. Балаховіч атрымаў званне палкоўніка. Далей полк браў удзел у пскоўскай аперацыі. У выніку яе 25 мая 1919 г. Пскоў быў заняты эстонскай арміяй і часткамі белых. Балаховіч быў прызначаны на пасаду камандуючага Пскоўскага раёна. За ўдзел у баях за Пскоў галоўнакамандуючы корпусам генерал А. П. Радзянка прысвоіў С. Булак-Балаховічу званне генерал-маёра, а з частак, падпарадкаваных яму, утварыў асобную зводную дывізію.

Пасля паразы Паўночна-Заходняй арміі пад Петраградам С. Булак-Балаховіч ваяваў на Пскоўшчыне і ў Эстоніі. Але канфлікт паміж




Паштоўка да дня народзінаў С. Булак-Балаховіча

беларусам С. Булак-Балаховічам і расійскімі манархістамі быў непазбежны. У выніку Балаховіч нават арыштаваў генерала Юдзеніча.

Калі абазначылася замірэнне паміж Эстоніяй і Савецкай Расіяй, генерал С. Булак-Балаховіч, памятаючы добра пра сваё беларускае паходжанне, прапанаваў падпарадкаваць свой атрад ураду БНР. Яго атрад у 1200 чалавек меў у сваім складзе 75 адсоткаў беларусаў-жаўнераў і палову афіцэраў-беларусаў. Адрад прыняў за свой штандар беларускі нацыянальны бела-чырвона-белы сцяг і какарды на фуражках з нацыянальным гербам «Пагоня». Генерал Булак-Балаховіч атрымаў дазвол ад эстонскіх уладаў набіраць у сваю вайсковую адзінку добраахвотнікаў і з іншых частак былой Паўночна-Заходняй арміі, пераважна беларусаў і палякаў.

Пасля звароту Булак-Балаховіча да вайскова-дыпламатычнай місіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі, якую ўзначальваў у Рызе палкоўнік К. Езавітаў, 22 студзеня 1920 г. Рада міністраў БНР прыняла Беларускі атрад «у склад войска БНР». Шэф вайскова-дыпламатычнай місіі Рады БНР К. Езавітаў афіцыйна звярнуўся 8 лютага 1920 г. да галоўнакамандуючага польскай арміяй Ю. Пілсудскага, каб той даў дазвол перавесці асобны атрад генерал-маёра Булак-Балаховіча з Эстоніі ў Беларусь. Пскоўская старонка дзейнасці С. Булак-Балаховіча закрылася.

У 1924 г., калі Віцебская губерня ўвайшла ў склад БССР, ад яе адрэзалі Веліжскі, Невельскі і Себежскі паветы і перадалі ў Пскоўскую губерню РСФСР. Пры гэтым некаторыя воласці, напрыклад Веліжскага павета, мелі да 72% беларускага насельніцтва. У лістападзе 1928 г. беларускія ўлады прапаноўвалі перадаць у БССР Веліжскі, Невельскі і Себежскі паветы, пры гэтым яны спасылаліся на тое, што ў 1926 г. ленінградская абласная арганізацыя ВКП(б) была згодная

на далучэнне Веліжскага павета да БССР.

Ёсць звесткі, што ў часы хрушчоўскай адлігі выканкам Невельскага раёна звяртаўся ў Вярхоўны Савет БССР, каб увайсці ў склад Беларусі. Аднак пытанне станоўча не было вырашана.




Гарэлка «Невельская». На этыкетцы герб Невеля з «Пагоняй»

Нядаўна гістарычна-архітэктурны цэнтр г. Пскова і прыродна-гістарычны аб'ект «Ізборск» у якасці адзінай намінацыі «Вялікі Пскоў» уключаны ў папярэдні спіс ЮНЕСКА аб'ектаў сусветнай спадчыны і зарэгістраваны ў Цэнтры сусветнай спадчыны.

# Вялікае княства Цвярское

**Доўгі час савецкія гісторыкі запэўнівалі беларусаў, што яны ніколі раней не мелі дзяржаўнасці і першая ў свеце беларуская дзяржава ўтварылася ў Смаленску 1 студзеня 1919 г. Праўда, пра памеры Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь, якая некалькі тыдняў існавала ў этнаграфічных межах рассялення беларусаў, стараліся не гаварыць, бо хутка абрэзалі нашу тэрыторыю больш чым напалову.**

**Прайшлі гады. Зараз кожны вучань ведае пра нашу першую дзяржаву — Полацкае княства, пра Вялікае княства Літоўскае, Беларускую Народную Рэспубліку. Аднак, калі паглядзець на этнаграфічную карту Беларусі, надрукаваную ў розных рускіх, нямецкіх і іншых выданнях пачатку XX ст., можна заўважыць, што яна значна большая, чым усходнія межы ВКЛ. Цікава, як там апынуліся беларусы, як захаваліся аж да Першай сусветнай вайны са сваёй мовай, звычкамі, нават строямі? І гэта ў той час, калі ўжо з XV ці з XVI ст. тут у асноўным існавалі маскоўскія ўлады, што мелі велізарны досвед у асіміляцыі паняволеных народаў. Дзе зараз шматлікія фіна-ўгорскія і цюркскія плямёны — народы, якія трапілі адначасова з часткай беларусаў у склад Масковіі ў XIV–XVI стст.?**



**Выток Волгі ля ваколіцы вёскі Волгавярхоўе на захадзе Асташкаўскага раёна Цвярской вобласці**

**Беларусы мацней супраціўляліся асіміляцыі, бо мелі больш высокі культурны і палітычны ўзровень, бо мелі не адну, а шмат розных дзяржаваў у розныя часы. Толькі нашчадкі крывічоў, якія ўзгадваюцца ў летапісах апошні раз у XII ст, мелі ў XIV–XV стст. чатыры самастойныя дзяржавы: Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае, Вялікае княства Смаленскае, Вялікае княства Цвярское і Пскоўскую рэспубліку. Гэтыя дзяржаўныя ўтварэнні, хоць часам і варагавалі паміж сабой, вельмі часта выступалі разам супроць ворагаў: крыжакоў, татараў, а потым і супраць Масковіі, якая паступова набірала моц і магутнасць.**

**Наша гаворка пойдзе пра самую невядомую зараз краіну крывічоў, галоўнага суперніка Масквы ў XIII–XIV стст., — Вялікае княства Цвярское, на тэрыторыі якога бярэ пачатак найбуйнейшая рака Еўропы Волга і велізарным сапфірам блішчыць возера Селігер.**

Узнікла гэта краіна на землях, заселеных смаленскімі крывічамі, у XIII ст. і існавала амаль да канца XV ст.

Горад Цвер узнік у XII ст. і спачатку належаў Ноўгараду, а з 1209 г. перайшоў пад уладу Уладзіміра-Суздальскага княства. Яго росквіт прыпадае на XIII–XV стст., калі ён стаў буйным культурным і рамесным цэнтрам. Цвярскія купцы гандлявалі з гарадамі Прыбалтыкі і Каўказа, Блізкага Усходу і Сярэдняй Азіі. Найбольш вядомы з іх — Афанасі Нікіцін, які ў 1466–1472 гг. стаў першым еўрапейцам, што здзейсніў вандроўку ў Індыю. Гэта быў адукаваны чалавек, валодаў арабскай, татарскай і персідскай мовамі. Спачатку па Волзе ён дабраўся да горада Дэрбента, адтуль пераехаў у Баку і Персію. З Персіі трапіў у арабскі порт Армуз, а потым па моры дабраўся да Індыі. Назад ён вяртаўся праз Персію і горад Трапезунд — порт на Чорным моры. Пераплыўшы праз Чорнае мора, высадзіўся ў

**Помнік Афанасію Нікіціну ў Цверы**





Мікола-Слупская (Николо-Столбенская) пустынь, мужчынскі манастыр на Слупскай выспе (Столбенском острове), заснаваны ў 1594 г.

Крыме ў горадзе Кафа (зараз Феадосія). Пераадолеўшы доўгі шлях з Крыма, ён крыху не даехаў да дому і восенню 1472 г. памёр пад Смаленскам. Шмат разоў выдаваліся яго ўспаміны «Хождение за три моря». У 1955 г. у Цвяры землякі паставілі Нікіціну помнік, зроблены з бронзы і граніту.

У пачатку XIII ст. Цвер — гэта цэнтр Пераяслаў-Залескага княства. Але пасля разгрому Уладзіміра-Суздальскай зямлі мангола-татарамі Цвер атрымлівае ў 1247 г. незалежнасць пры князю Яраславе Яраславічы, родным браце Аляксандра Неўскага. З 1264 г. ён становіцца вялікім князем уладзімірскім. У наступным годзе ў Цверы ўзнікае епіскапская кафедра, якую ўзначаліў былы полацкі епіскап Сімяон. Другім цвярскім епіскапам у 1289–1316 гг. быў Андрэй, сын полацкага князя Гердзеня.

Сталіца новай дзяржавы, як некалі і Полацк, не магла існаваць без мураванага сабора. І ён быў закладзены ў 1285 г. князем Міхаілам Яраславічам, яго маці княгіняй Аксінняй і епіскапам Сімяонам. Пакалькі будаўніцтва храма ішло доўга, у яго сярэдзіне зрабілі часовую драўляную царкву, якая дзейнічала падчас будаўніцтва. Асвяціў храм у імя святога Спаса Праабражэнскага епіскап Андрэй у 1290 г.

Як бачым, нават назва храма была сугучна назве знакамітай Спаса-Праабражэнскай царквы, пабудаванай у XII ст. Ефрасінняй По-

лацкай. Праз два гады храм распісалі фрэскамі, і ён быў кафедральным, галоўным храмам новай краіны. Неўзабаве да яго прыбудавалі два малыя храмы (прыдзелы). У адным з іх у 1323 г. і быў пахаваны епіскап Андрэй. У 1399 г. князь Міхаіл Аляксандравіч капітальна адрамантаваў царкву. Спаскі сабор стаў першым мураваным храмам на тэрыторыі Паўночна-Усходняй Русі пасля татарскага разгрому 1238 г. Такім чынам, Цвер апярэдзіла Маскву ў галіне мураванага будаўніцтва. У XVII ст. царкву некалькі разоў перабудоўвалі, а ў 1935 г. яна загінула. Храм быў зроблены з белага каменю і, магчыма, быў аздоблены разьбою. У 1992 г. на месцы храма быў знойдзены кавалак белакаменнай разьбы ў выглядзе пляцёнкі.

Яшчэ адну мураваную царкву пачалі будаваць цверцы ў 1323 г. у Фёдараўскім манастыры. Збудаваў храм у імя святога Фёдара ігумен манастыра Іван Цараградзец. Гэта таксама быў белакаменны храм, які знішчылі ў 1773 г. Падчас раскопак на месцы храма археолагі знайшлі шмат кавалкаў белакаменных блокаў (у тым ліку адзін разны) і вялікапамернай цэглы.

У XIV ст. у Цверы на беразе Волгі стаяў яшчэ адзін храм Міхаіла Архангела. Даследчыкі лічаць, што яго збудаваў кіраўнік цвярскога войска тысяцкі Міхаіл Шатэн і потым тут хавалі цвярскіх тысяцкіх. Аднак невядома, ці гэта быў драўляны, ці мураваны будынак.

У 1369 г. князь Міхаіл Аляксандравіч умацаваў Цвер драўляным крамлём, а ў 1372 г. узвёў вакол земляны вал. Зараз культурны слой Цвярскога крамля мае таўшчыню ад 4 да 5,6 см, у ім добра захоўваецца арганіка і асабліва вырабы са скуры.

Вельмі актыўна развівалася ў Цверы выяўленчае мастацтва. Мясцовыя мастакі ў XIII–XV стст. мелі ўласную жывапісную школу. Найбольш вядомыя абразы і мініяцюры да рукапісаў. Яны вылучаюцца экспрэсіяй вобразаў і лінейнасцю пісьма.

Таксама ў Цверы вяліся і ўласныя летапісы, прычым некаторыя рукапісныя шэдэўры дайшлі да нашых дзён. Сярод іх вылучаецца «Хроніка Георгія Амартола».

Да буйных цвярскіх гарадоў можна аднесці Кашын, Ксняцін, Зубцоў, Старыцу (дзе здабывалі белы камень для будаўніцтва), Холм, Мікулін і Дарагабуж. На мяжы ВКЛ, Вялікага Ноўгарада, Маскоўскай дзяржавы і Цверы стаяў горад Ржэў, дзе беларуская прысутнасць была зафіксавана яшчэ на этнаграфічных картах XIX – пачатку XX ст. Пэўны час Ржэвам адначасова валодалі і ВКЛ, і Ноўгарад, а жыхары горада сваю даніну дзялілі напалам паміж двума вышэйзгаданымі ўладальнікамі.

У XIV ст. змаганне паміж цвярскімі і маскоўскімі князямі за ярлык на вялікае ўладзімірскае княжэнне ўзмацнілася. Як напісаў адзін сучасны рускі гісторык, на баку цвярскіх князёў былі правы старшынства, асабістае геройства, юрыдычныя і маральныя сродкі. На баку маскоўскіх — грошы і майстэрства прыстасавання да абставін. У гэты час Цвер наладзіла сяброўскія адносіны з ВКЛ. У 1320 г. дачка Гедыміна Марыя выйшла замуж за цвярскога князя Міхаіла, а неўзабаве дачка Кейстута выйшла за князя Івана Міхайлавіча. Даволі часта палкі Цверы ваявалі разам з войскамі ВКЛ супраць крыжакоў. У змаганні з цвярскімі князямі маскоўскія ўвесь час абапіраліся на Арду і татарскія войскі. Так, маскоўскі князь Юры Міхайлавіч знішчыў у Ардзе свайго сваяка Міхаіла Цвярскога, але неўзабаве быў сам забіты ягоным сынам.

У 1327 г. Цвер узначаліла паўстанне супраць Арды. У горадзе быў забіты татарскі пасланнік і перабіты ягоны аддзел. Тады залатаардынскі хан даручыў маскоўскаму князю Івану Каліце пакараць цверцаў. Каліта ўзначаліў татарскае войска, знішчыў паўстанцаў і дашчэнту разрабаваў Цвярскую дзяржаву. За гэта ў 1328 г. ён атрымаў тытул вялікага князя.



Паўстанне ў Цверы супраць татарскага пасла Чалкана ў 1327 г. Мініяцюра з Летапіснага зводу XVI ст.

Аднак Цвер паступова адрадзілася і з дапамогай вялікага князя літоўскага Альгерда, які ў 1347 г. другі раз ажаніўся з цвярской княжной Юльянай, працягвала змагацца з Масквою. У лістападзе 1368 г. Альгерд падтрымаў цверцаў, пайшоў на Маскву, асадзіў яе і тры дні стаяў пад сценамі горада, пакуль не атрымаў выкуп.

У 1370 г. маскоўскі князь Дзмітры зноў нападае на Цвер. Альгерд робіць другі паход на Маскву і бярэ яе ў аблогу 6 снежня 1370 г. У гэты час цвярскі



Царква Нараджэння Багародзіцы ў в. Горадня Канакоўскага раёна Цвярской вобласці, пабудавана ў цэнтры старажытнага г. Вярцязіна ў другой палове XIV ст.

князь атрымлівае ў Ардзе ярлык на валоданне Уладзімірскім княствам. У 1372 г. войскі ВКЛ на чале з Вітаўтам і Кейстутам зноў уварваліся ў Масковію, каб падтрымаць свайго хаўрусніка. У 1375 г. маскоўскі князь Дзмітры арганізаваў своеасаблівы «крыжовы паход» на Цвер, мабілізаваўшы вайсковыя дружыны 19 удзельных князёў. Цвярскі князь Міхаіл мужна абараняўся, аблога Цверы доўжылася 5 тыдняў, але горад не здаваўся. Тады захопнікі разбурылі і знішчылі іншыя паселішчы вакол горада. Князь Міхаіл прапанаваў памірыцца, што і было зроблена.

У 1385 г. цвярскі князь Васіль Міхайлавіч ажаніўся з дачкой кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, і сувязі з дынастыяй Гедзімінавічаў зноў узмацніліся. Гэтаму спрыяла і тое, што сын вялікага князя Альгерда і цвярской княжны Ягайла ў 1386 г. стаў польскім каралём. У 1430 г. вялікі князь Вітаўт разам з маскоўскім князем Васілём Васілевічам запрасіў на сваю каранацыю і цвярскога князя Барыса Аляксандравіча. Шэсць тыдняў балявалі госці ў князя Вітаўта, але каранацыя не адбылася, бо на дарозе праз Польшчу карону скралі, і Вітаўт неўзабаве памёр. Аднак сувязі цвярскіх князёў і Гедзімінавічаў засталіся моцнымі, бо ад Альгерда цвярская княжна нарадзіла акрамя знакамітага Ягайлы яшчэ сем сыноў.

Найбольшы росквіт эканомікі і культуры цвярской дзяржавы прыпадае на першыя дзве трэці XV ст., калі ў Масковіі ішлі доўгія грамадзянскія войны і набегі на Цвер спыніліся.

У пачатку XV ст. цвярскі князь Іван Міхайлавіч чаканіць свае грошы. Шырокая слава ідзе пра цвярскіх гарматнікаў, лепшых на

Русі. У сярэдзіне XV ст. у пісьмовых крыніцах згадваецца імя знакамітага майстра-гарматніка Мікулы Крачэтнікава.

Апошні росквіт дзяржавы адбываецца пры князі Барысе Аляксандравічы. Вядома яго асабістая зброя — рагаціна (від дзіды) з надпісам, што гэта рагаціна вялікага князя Барыса Аляксандравіча. Рукаяць яе абкладзена срэбрам і мае шмат гравіровак. Сярод іх сцэны барацьбы, палявання, гутаркі, мыцця ў лазні, пачастунку і г. д.

Аднак пры Іване III Масковія зноў узмацнілася, вызвалілася ад ардынскай залежнасці і захапіла землі Ноўгарада. Наступіла чарга і Цверы. Спачатку тут, як у Ноўгарадзе, Пскове альбо Разані, была створана сярод баяр свая «пятая калона», якую Масква падкупіла грашыма. Вялікі князь літоўскі Казімір, стаўшы адначасова і польскім каралём, не захацеў падтрымаць ні Ноўгарад, ні Цвер. У верасні 1485 г. войскі Івана III узялі ў аблогу Цвер. Праз некалькі дзён падкупленыя баяры перайшлі на бок Масквы, і цвярскі князь Міхаіл Барысавіч з невялікай дружынай здолеў дабрацца да межаў ВКЛ, а яго маці, княжну Настассю, узялі ў палон і вывезлі ў Маскву. «І так скончылася Вялікае княства Цвярское», — сумна адзначыў летапісец у Валынскім кароткім летапісе.



**Рагаціна цвярскога вялікага князя Барыса Аляксандравіча**

Згубіўшы пасля Ноўгарада свайго апошняга надзейнага саюзніка на Усходзе, ВКЛ стала неўзабаве несці вялікія паразы ад Масковіі і ў 1513 г. страціла Смаленск. Толькі бітва пад Оршай часова прыпыніла маскоўскую агрэсію да пачатку Лівонскай вайны.

Новы цар Масковіі Іван IV Жахлівы не забыўся пра Цвер і яе насельнікаў, тым больш што менавіта там часта ўспаміналі былое вольнае жыццё, калі была свая ўлада, шчыльна звязаная з дынастыяй Ягелонаў. У снежні 1569 г. войскі Івана Жахлівага з усіх бакоў акружылі Цвер і стаялі пяць дзён. Спачатку абрабавалі святароў, пачынаючы

з епіскапа, потым гараджан. Напрыканцы зноў уварваліся ў горад і забілі мноства простых людзей, сярод іх шмат жанчын і дзяцей. Па загаду Івана IV прывялі палонных палачанаў і немцаў, пасеклі на кавалкі і целы пакідалі ў Волгу пад лёд. Потым разграмілі Таржок і Ноўгарад.



Царква «Белая Тройца» (Троіцкая, што за Цьмакой) у Цверы, помнік архітэктуры XVI ст.

Прайшоў час...

У XVIII ст. Цвер паступова адбудоўваецца, а з 1775 г. становіцца цэнтрам губерні. І нягледзячы на стагоддзі асіміляцыі і этнічныя чысткі Івана Жахлівага, беларуская прысутнасць у некаторых паветах Цвярской губерні застаецца і ў XIX ст. Паводле перапісаў, беларусамі запісалася каля 125 тысяч чалавек, якія жылі

Старавольжскі мост цераз Волгу, пабудаваны ў 1897–1900 гг.



ў Ржэўскім, Зубцоўскім і Асташкаўскім паветах. Найбольш захоўвалі сваю беларускасць сяляне, што жылі на берагах рэчкі Туд, якая ўпадае ў Волгу. Яны захоўвалі мову, адпаведнае аддзенне і нават гралі на дудзе. Гэтых прыволжскіх беларусаў называлі тудаўлянамі. У 1903 г. іх налічвалася каля 45 тысяч чалавек. Нягледзячы на сталінскія тэрор і ваенныя дзеянні, калі ў 1941 г. немцы захапілі Цвер, прыкметы беларушчыны сярод тудаўлян былі зафіксаваныя мясцовымі краязнаўцамі нават у сярэдзіне 60-ых гадоў мінулага стагоддзя.

Аднак этнічная крывіцкая памяць захоўвалася па ўсёй тэрыторыі Цвярской губерні. Дастаткова было ўзнікнуць спрыяльным умовам, каб яна прачнулася. Так, Бежацкі раён знаходзіцца на паўночным усходзе сучаснай Цвярской вобласці, але ён даў Беларусі двух выдатных знаўцаў мовы і літаратуры. Гэта Іван Замоцін і Мікола Байкоў.



**Замоцін Іван Іванавіч** нарадзіўся 1 лістапада 1873 г. у вёсцы Крывуліна Бежацкага павета Цвярской губерні ў сям'і беззямельнага (былога прыгоннага) селяніна. Рана аўдавеўшы, маці Івана Іванавіча пераехала ў Пецярбург, дзе працавала служанкаю. Адзінага любімага сына аддала ў прытулак. Толькі дзякуючы клопатам гаспадыні, у якой жыла і працавала яго маці, хлопчыка, які меў незвычайныя здольнасці да навукі, удалося ўладкаваць на вучобу ў Пскоўскую гімназію за «казённы кошт». У 1897 г. закончыў Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут.

Іван Іванавіч Замоцін у 1922 г. у ліку іншых расійскіх вучоных пераехаў у Мінск, дзе быў абраны прафесарам кафедры гісторыі рускай літаратуры універсітэта, а з 1931 г. — Мінскага педагагічнага інстытута. Адначасова І. Замоцін працаваў у Інстытуце беларускай культуры, у 1928 г. стаў акадэмікам АН БССР, у 1929 г. — членам-карэспандэнтам АН СССР. Пераехаўшы ў Мінск, І. Замоцін плённа працаваў у галіне беларускага літаратуразнаўства. Ён першы паставіў імя Якуба Коласа побач з імёнамі вядомых пісьменнікаў свету, першы напісаў рэцэнзіі на паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка». І. Замоцін стаяў ля вытокаў беларускай літаратуразнаўчай навукі. 4 красавіка

1938 г. арыштаваны, высланы ў Комі АССР, дзе памёр у турэмнай бальніцы ў 1942 г.



**Байкоў Мікалай Якаўлевіч** нарадзіўся 22 лютага 1889 г. у г. Бежацку Цвярской губерні ў сям'і святара. Пачатковую адукацыю атрымаў у Бежацкай мужчынскай духоўнай вучэльні, сярэднюю — у Цвярской духоўнай семінарыі, вышэйшую — у Маскоўскай духоўнай акадэміі (скончыў у 1913). Накіраваны выкладчыкам філасофскіх і педагагічных дысцыплін у Менскую духоўную семінарыю. З 1918 г. чытаў лекцыі ў Менскім настаўніцкім інстытуце. Працаваў на розных пасадах у галіне адукацыі. З 1921 г. вучоны сакратар навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у 1922–1928 г. — слоўнікавай камісіі Інбелкульта, потым Інстытута мовазнаўства АН БССР. Атрымаў вядомасць як аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, але асабліва як укладальнік слоўнікаў: «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924, разам з М. Гарэцкім), «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925), «Расійска-беларускі слоўнік» (1928, абодва разам з С. Некрашэвічам), «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (1927, разам з А. Бараноўскім). Ужываў сярод іншых літаратурныя псеўданімы Крывіч і Мікола Крывіч. Расстраляны ў 1946 г.

У пасляваенны час мела месца новае нарастанне беларускай прысутнасці ў Цверы, звязанае з асаблівасцямі будаўніцтва вайскова-прамысловага комплексу СССР. У Цверы былі размешчаны галоўныя ўстановы Войскаў Супрацьпаветранай абароны краіны: Вайсковая акадэмія СПА і галаўны навукова-даследчы інстытут СПА, а ў Мінску ў 50-ыя гг. XX ст. размясцілася Мінская вышэйшая інжынерная радыётэхнічная вучэльня, пазней Мінская вышэйшая інжынерная зенітная ракетная вучэльня. Мінскія выпускнікі як спецыялісты былі на галаву вышэй за выпускнікоў іншых вучэльняў, таму многія з іх аказваліся ў НДІ ў Цверы, а іншыя паступалі ў акадэмію. Пры гэтым частка заставалася ў акадэміі на пасадах выкладчыкаў, беларусы станавіліся начальнікамі вядучых кафедраў і аддзелаў. Большасць з іх — дактары і кандыдаты ваенных і тэхнічных навук. Само сабой у

Цверы склалася беларускае зямляцтва з элітнай часткі афіцэрства, моцнае беларускае лобі. Лідарам і душой зямляцтва быў старшы выкладчык акадэміі, кандыдат ваенных навук, палкоўнік Вікенці Чорны (родам з Клецка). Актыўныя ролі выконвалі В. Шувярткоў



**Галоўны корпус Цвярской каманднай акадэміі імя Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава**



**1-ая група завочнага факультэта Цвярской акадэміі (выпуск 1992 г.) 1-ы рад 2-і справа Станіслаў Суднік, 2-і рад 2-і справа Міхаіл Ананіч, 2-і рад 3-і злева Віктар Бычко**

Палкоўнік Вікенці Чорны (крайні справа) і падпалкоўнік Станіслаў Суднік (другі справа) у Мінску на плошчы Незалежнасці ў 1992 г.



(Клецк), Я. Яўменчык, І. Прыступюк, Г. Казлоў, беларусы з ліку слухачоў акадэміі.

У канцы 80-ых – пачатку 90-ых гг. мінулага стагоддзя зямляцтва набыло ярка выражаныя нацыянальныя рысы. Адбылося гэта пасля паступлення ў 1988 г. на завочны факультэт з высокіх пасадаў у войску Віктара Бычко (родам з Іўеўскага раёна, узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі», служыў у сістэме Галоўнага штаба Войск СПА, Станіслава Судніка (родам з-пад Нясвіжа, медаль «За баявыя заслугі», служыў на буйнейшым палігоне Войск СПА), Міхаіла Ананіча (родам з Глыбокага), Міхаіла Дубовіка (родам з Узды, медаль «За баявыя заслугі», служыў у Маскоўскай акрузе СПА). У акадэміі загучала беларуская мова.

Былі ўстаноўлены сувязі з нацыянальнымі суполкамі ў Беларусі. У акадэмію пайшла адраджэнцкая літаратура.

Пасля распаду Савецкага Саюза на кафедрах акадэміі пачалася распрацоўка Стратэгіі будаўніцтва Узброеных Сілаў Беларусі. Група афіцэраў, у тым ліку Вікенці Чорны і Станіслаў Суднік, прыехала ў Мінск, пабыла на прыёмах у С. Шушкевіча і В. Кебіча, але паразумення не знайшла. Магутны навуковы патэнцыял цэлай акадэміі аказаўся ў Беларусі не патрэбным.



Вучаніца беларускага нядзельнага класа ў Цверы Наталля Чорная

Напачатку 1992 г. у Цверы намаганнямі палкоўніка В. Чорнага, падпалкоўнікаў В. Шувярткова і С. Судніка быў адкрыты беларускі нядзельны клас на базе сярэдняй школы № 23, што на вул. М. Горкага. У той час да вайскоўцаў у Цверы ставіліся вельмі добра і да беларусаў таксама, на мітынгах называлі не інакш, як братамі, таму ніякіх праблем арганізацыйнага плану не ўзнікла. У клас было набрана каля 15 дзяцей рознага ўзросту, якія беларускую мову амаль не чулі, але з першых урокаў яна загучала з вуснаў малых беларусаў зусім натуральна, без ніякага акцэнту. Заняткі па беларускай мове, літаратуры і беларусазнаўству вёў Станіслаў Суднік. Дзеці займаліся ахвотна і паказвалі неблагія поспехі. Падчас вучобы яны цалкам усведамлялі сябе беларусамі, і гэтыя паўгода беларускага навучання аказалі сур'ёзны ўплыў на фарміраванне іхняга светапогляду, на ўсведамленне сябе грамадзянамі суседняй, маладой незалежнай дзяржавы.

Вось як склаліся лёсы некаторых вучняў гэтага беларускага класа:

- **Юлія Казлова** з адзнакай скончыла Цвярскі дзяржаўны політэхнічны універсітэт, аспірантуру гэтага універсітэта;
- **Наталля Чорная** з залатым медалём скончыла ліцэй. Тройчы перамагала на абласных алімпіядах па англійскай мове, адзін раз была 2-ой на Усерасійскай алімпіядзе па англійскай мове. Скончыла Цвярскі дзяржаўны універсітэт. Вучыцца ў Вашынгтонскім універсітэце ЗША;
- **Вераніка Шувярткова** з адзнакай скончыла Цвярскі дзяржаўны універсітэт;
- **Марына Шувярткова** скончыла Цвярскі дзяржаўны універсітэт.

На жаль, праз столькі гадоў адсачыць лёсы ўсіх вучняў не так проста. Некаторыя з іх выехалі ў Беларусь, тым не менш, як бачна, беларуская прысутнасць у Цверы захоўваецца. Беларусы знаходзяцца на генеральскіх і палкоўніцкіх пасадах у расійскім войску, вучацца і працуюць, проста жывуць у прыгожым крывіцкім горадзе Цвер.

Напрыканцы свайго аповеду пра забытую беларускую дзяржаву хачу прывесці цытату з кнігі аднаго з сучасных расійскіх гісторыкаў, які жыве ў Краснаярску, Андрэя Буроўскага: «Там, дзе ваююць Масква і Літва, ваююць Еўропа і Азія. Невыпадкова ж мяжа гэтых частак свету з XV ст. і да гэтага часу ўпарта праводзіцца праз тэрыторыю Русі. І выбар Суздалем і Цвер'ю паміж Вялікім княствам Літоўскім і Масквой — гэта не проста выбар васала паміж двума сюзерэнамі і не проста рашэнне, у якую дзяржаву ўвайсці, паболей і памацней. Гэта выбар паміж Еўропай і Азіяй». Дарэчы, невыпадкова еўрапейцы на сваіх картах побач з ВКЛ на ўсходзе, на месцы Масковіі змяшчалі надпіс «Вялікая Татарыя», бо да 1480 г. Масковія была часткай вялікай азіяцкай дзяржавы Залатой Арды.

Таму, каб зноў не апынуцца ў складзе новай «еўразійскай» дзяржавы, нам трэба добра ведаць сваю гісторыю. І зусім не выпадкова звесткі пра гісторыю і культуру Цвярской дзяржавы ў расійскіх падручніках і энцыклапедыях знайсці вельмі цяжка. Цвер і зараз засталася для Масквы Карфагенам, які абавязкова павінен быць разбураны.

Бальшавікі ў 1931 г. нават змянілі назву гэтага старажытнага горада на Калінін, каб нічога не сведчыла пра былую славу вольналюбівых цверцаў. Аднак рухнуў СССР, Цвер зноў з'явілася на геаграфічнай карце Еўропы, а мы ніколі не павінны забываць пра беларускую прысутнасць на берагах Волгі і пра тое, што Волга, якую расійцы называюць вялікай рускай ракой, пачынаецца на крывіцкай (беларускай) зямлі, як і Днепр, як і Заходняя Дзвіна.

*Маім далёкім продкам,*
*жыхарам Мсціслаўшчыны,*
*прысвячаецца*

# Вялікае княства Смаленскае

**У VIII ст. тэрыторыю Смаленшчыны, дзе жылі плямёны дняпроўскіх балтаў, пачалі засяляць крывічы, якія асімілявалі мясцовае насельніцтва і пачалі называцца «смаленскія крывічы». Ёсць звесткі, што разам з крывічамі сюды трапілі і заходнія славяне, якія пад ціскам германскіх плямёнаў, асабліва саксаў, пачалі перасяляцца ў басейн Дняпра і Сожа. Так, суседзі крывічоў — радзімічы прыйшлі, як сведчыць летапісец, разам з вяцічамі з захаду, «ад ляхаў». У гэты час сюды трапляюць і варагі, якія на Дзвіне і Дняпры праклалі гандлёвы шлях, што звязаў народы Паўночнай і Усходняй Еўропы з краінамі Азіі, асабліва з арабскім халіфатам і Візантыяй. У IX ст. на тэрыторыі Смаленшчыны ўзнікаюць першыя гарадскія паселішчы, гэта Гнездава на рацэ Днепр, а пазней і Смаленск на адлегласці 12 км на ўсход ад Гнездава. Некаторыя даследчыкі лічаць, што жыхары Гнездава і перасяліліся пазней на месца Смаленска.**

Вакол Гнездава знаходзіцца вялізарны курганны могільнік. Яго раскопкі выявілі унікальныя ўпрыгожванні, якія належалі славянам, варагам і фіна-уграм. Аднак у пачатку IX ст. значная частка жыхароў пакінула Гнездава, і на першае месца выходзіць Смаленск, які ўпершыню згадваецца ў летапісе пад 863 годам, амаль разам з Полацкам.

Смаленск адразу стаў буйным гандлёвым цэнтрам, і некаторыя навукоўцы выводзяць яго назву ад ад слова «смаліць» — рамантаваць, прапітваць смалою днішчы і карпусы купецкіх караблёў, якія плылі па Дняпры ў Чорнае мора.

У 863 г. варажскія князі Аскольд і Дзір хацелі захапіць Смаленск, але не здолелі гэта зрабіць. Толькі ў 882 г. варажскі князь Алег, які кіраваў Ноўгарадам, далучыў землі смаленскіх крывічоў да сваёй дзяржавы і прымусіў іх плаціць яму даніну. У гэтым жа годзе ён захапіў Кіеў і ўтварыў новую дзяржаву — Кіеўскую Русь са сталіцай у Кіеве.



Смаленскае княства ў канцы XII – пачатку XIII ст. (паводле Г. А. Ластоўскага)

Мясцовыя жыхары плацілі кіеўскім князям даніну, якую звозілі ў канкрэтныя месцы — пагосты, што сталі цэнтрамі (адміністрацыйнымі і рэлігійнымі) у вясковай мясцовасці.

Па загаду кіеўскага князя Уладзіміра пасля 988 г. смаленскія крывічы прымаюць хрысціянства, а кіраваў імі ажно 40 гадоў сын Уладзіміра князь Станіслаў. Жыў ён у Гнездаве. Але паступова

мясцовыя князі пераехалі ў Смаленск і зрабілі сваю рэзідэнцыю на дзядзінцы, на Саборнай гары. Тут, дарэчы, жыў сын Яраслава Мудрага Вячаслаў, які стаў смаленскім князем у 1054 г.

Пасля знікнення Кіеўскай Русі Смаленск належаў кіеўскаму князю Уладзіміру Манамаху і яго нашчадкам. У 1101 г. ён збудаваў першы мураваны храм у Смаленску — Успенскі сабор. Манамах далучыў да Смаленскага княства землі вяцічаў і землі балцкага племені голядзь. У 1116 г. Манамах напаў на Полацкую дзяржаву і разам са смалянамі зрабіў паход на Мінск, а таксама далучыў да Смаленскага княства полацкі горад Копысь.

Памёр Манамах у 1125 г. Смаленскае княства ўзначаліў яго ўнук Расціслаў Мсціслававіч, які і заснаваў дынастыю незалежных смаленскіх князёў. На мапе сярэднявечнай Еўропы з’явілася новая крывіцкая дзяржава. Расціслаў заснаваў і смаленскае епіскапства. Таксама пры ім з’явіўся і першы заканадаўчы дакумент «Устаў Расціслава», які адлюстраваў эканамічную і палітычную структуру новай дзяржавы. Наступным смаленскім князем стаў яго старэйшы сын Раман. Пры ім узмацнілася роля



**Смаленск. Царква Пятра і Паўла. Усходняя частка. XII ст.**



**Смаленск. Царква Іаана Багаслова. Паўднёвы фасад. Канец XII – пачатак XIII ст. Рэканструкцыя**

смаленскага веча, мацавалася мясцовае баярства, узнікаюць удзельныя княствы. Першым стварылася ўдзельнае княства на поўначы Смаленшчыны з цэнтрам у горадзе Тарапец. Тут князем стаў малодшы сын Рамана — Мсціслаў.

На месцы Рамана апынуўся яго брат Давыд. Ён у 1187 г. задушыў паўстанне гараджан, справакаванае галодным годам, і пакараў смерцю шмат знакамітых баяраў. Давыд меў магутную наёмную дружыну, захапіў полацкія землі на Заходняй Дзвіне і актыўна гандляваў з краінамі Заходняй Еўропы.



Смаленск.
Царква Іаана Багаслова.
Рэканструкцыя плана

У XII ст. тэрыторыя Смаленскага княства значна павялічылася. Пасля захопу полацкага Копыся князь Расціслаў адабраў у чарнігаўскіх князёў землі паўночных радзімічаў. У XII ст. тут узніклі буйныя гарады Мсціслаў, Рослаў, Крэчут (Крычаў) і Прупой (Слаўгарад). На ўсходзе Смаленшчыны з'явіліся ў гэты час Дарагабуж і Ельня. Шлях з Дняпра на Волгу кантраляваў горад Вязьма.



Плінфа са знакамі з сабора на Пратоцы. Канец XII – пачатак XIII ст. Раскопкі М. Вароніна. 1962–1963 гг.

У канцы XII ст. у Смаленск з Полацка прыязджае будаўнічая арцель, і пачынаецца будаўніцтва мураваных храмаў і княжацкага палаца. Узнікае смаленская школа дойлідства. Храмы мелі звонку аздабленне ў выглядзе двухпрыступкавых плоскіх пілястраў

з тонкімі паўкалонкамі, унутры былі распісаны фрэскамі і мелі падлогі з керамічных рознакаляровых паліваных плітак. З іх найбольш захавалася ў Смаленску царква Міхаіла Архангела, збудаваная ў канцы XII ст. Вышыня храма 35 м. Былі мураваныя храмы і ў некаторых іншых гарадах, напрыклад у Рославе.

У пачатку XIII ст. вусце Заходняй Дзвіны захапілі крыжакі, таму ўплыў Смаленска на полацкія землі значна павялічыўся. Пад яго ўплыў трапілі Віцебскае і Друцкае княствы. У 1229 г. была падпісана гандлёвая дамова з немцамі і Смаленскам, Полацкам і Віцебскам аб гандлі па Заходняй Дзвіне. Нямецкія купцы з'явіліся ў Смаленску і нават збудавалі сабе мураваны храм круглай формы (ратонду).

Аднак у 1230 г. Смаленск напаткалі адразу некалькі трагедый: землятрус, неўрадлівы год, голад і эпідэмія чумы, ад якой памерлі тысячы чалавек, у тым ліку і смаленскі князь. Неўзабаве да Смаленшчыны ў 1238 г. наблізіліся войскі хана Батыя. Аб змаганні смалян з мангола-татарамі распавядае «Аповесць пра Меркурыя Смаленскага». Смаляне выстаялі, аднак пачынаючы з 60-ых гг. XIII ст. мусілі плаціць даніну Залатой Ардзе.

У XII–XIII стст. Смаленскае княства становіцца адной з найбуйнейшых культурных земляў сярод іншых старабеларускіх княстваў.

У адным з гнездаўскіх курганоў знайшлі вялікае глінянае начынне — карчагу-амфару з надпісам «Гороушна». Так тады называлі гарчыцу. Навукоўцы датуюць гэты надпіс сярэдзінай X ст. і адносяць да аднаго з самых першых усходнеславянскіх надпісаў, зробленых кірылічным алфавітам.

У XII ст. пры князю Расціславе і яго сынах Смаленск становіцца значным культурным і адукацыйным цэнтрам. Князь Раман стварыў тут гарадскія вучэльні, дзе выкладалі настаўнікі, запрошаныя з Візантыі і краін Заходняй Еўропы. Вельмі адукаванымі былі і мясцовыя святары Рыгор і Фама. Са Смаленска паходзіць кіеўскі мітрапаліт Клімент. Умелі чытаць і пісаць і простыя людзі, жыхары Смаленска. Пра гэта сведчаць знаходкі археолагамі берасцяных грамат у культурным пласце горада. Таксама маюцца і надпісы, выдрапаныя на сценах смаленскіх храмаў. Існаваў і Смаленскі летапіс, які складаўся з XIII да пачатку XV ст. Гэты твор прасякнуты ідэяй захавання і ўмацавання незалежнасці Смаленскай дзяржавы.

На захадзе суседам Вялікага княства Смаленскага ў XIV ст. становіцца Вялікае княства Літоўскае, а на ўсходзе — Вялікае княства

Маскоўскае — улус Залатой Арды. На мяжы XIII–XIV стст. Мажайскае ўдзельнае княства захапілі маскоўскія войскі. Аднак смаленскія князі бяруць пад часовы кантроль бранскія землі. Пасля шлюбу з віцебскай княжной будучы вялікі князь Альгерд далучае да ВКЛ Віцебскае княства і выходзіць на межы са Смаленскім. Смаленскі князь Іван прызнае Гедыміна, бацьку Альгерда, напрыканцы 1320–ых гг. сваім «старэйшым братам» з мэтай захаваць гандлёвы шлях па Заходняй Дзвіне з ганзейскімі гарадамі.



Першыя смаленскія манеты са стаўпамі і львом

У 1331 і 1333 гг. маскоўскія войскі робяць два напады на Смаленск, але ён адбіваецца і спыняе выплату даніны Залатой Ардзе. Смаленск становіцца саюзнікам ВКЛ, і ў 1348 г. смаленскія войскі ўдзельнічаюць у бітве з крыжакамі на рацэ Страве на баку ВКЛ, прычым адзін са смаленскіх князёў загінуў у гэтай бітве.

У 1352 г. на Смаленшчыну з Заходняй Еўропы прыходзіць эпідэмія чумы. Шмат людзей у розных смаленскіх гарадах памерла, і дзяржава аслабела. Скарыстаўшыся гэтым, вялікі князь Альгерд далучае да ВКЛ Мсціслаў, Крычаў і Рослаў. Але потым падпісвае саюзную дамову са смаленскім князем Святаславам, і яны разам робяць паход на Маскву. Пасля смерці Альгерда ўлада ў ВКЛ перайшла да Ягайлы, які у 1385 г. пасля падпісання Крэўскай уніі становіцца адначасова і польскім каралём. Яго старэйшы брат, полацкі князь Андрэй вырашыў з дапамогай крыжакоў і смаленскага князя Святаслава захапіць уладу ў ВКЛ. Святаслаў спачатку паспрабаваў захапіць Віцебск і Оршу, а потым асадзіў Мсціслаў, каб вярнуць сабе Мсціслаўскае княства. Аднак войскі Ягайлы 7 траўня 1386 г. разбілі пад Мсціславам смалян, забілі князя Святаслава і асадзілі Смаленск. Смаленскае веча заплаціла вялікі выкуп, і князем стаў сын Святаслава Юры. Ён мусіў прысягнуць на вернасць Ягайлу і стаць яго васалам.

У гэты час да ўлады ў ВКЛ праходзіць князь Вітаўт, жанаты з дачкой смаленскага князя Святаслава — Ганнай. Ён вырашыў далучыць





**Пенязь смаленскі з кірылічнай літарай «Ю» і львом**

Смаленшчыну да ВКЛ. У 1395 г. ён захапіў у палон смаленскіх князёў, ліквідаваў Вялікае княства Смаленскае і пасадзіў тут сваіх намеснікаў Васіля-Яманта Тулунтавіча і Васіля Барэйкавіча. Пры іх з'яўляюцца першыя смаленскія манеты з выявай зямельнага герба Смаленска — ільва.

Аднак князь Юры здолеў пазбегнуць палону і ўцёк. Пасля паразы Вітаўта ў 1399 г. у вайне з Залатой Ардой на рацэ Ворскле Юры ў 1401 г. захапіў Смаленск і кіраваў ім да 1404 г., пакуль Вітаўт ізноў і ўжо канчаткова не заняў горад і княства. Юры працягнуў традыцыю біцця смаленскай манеты. На манетах Юрыя быў усё той жа смаленскі леў, а заміж стаўпоў была выбіта кірылічная літара «Ю».

У 1410 г. «тры смаленскія палкі» ўзялі чынны ўдзел у знакамітай Грунвальдскай бітве. Гэта былі палкі з Оршы, Мсціслава і Смаленска. Аднак у рускіх і савецкіх падручніках іх упарта называюць: «тры рускія смаленскія палкі». Яны выратавалі сітуацыю ў цэнтры баявога шыхту саюзных войскаў і стрымалі крыжацкую навалу, нягледзячы на вялізныя страты.

У красавіку 1440 г. жыхары Смаленска паднялі ўзброенае паўстанне супраць намесніка вялікага князя ВКЛ ваяводы Андрэя, і смаленскім князем стаў мсціслаўскі князь Юры Сямёнавіч. Да яго далучыліся жыхары Віцебска і Полацка. Новы князь ВКЛ Казімір восенню 1440 г. выступіў супраць паўстанцаў. Юры збег у Ноўгарад, а войскі Казіміра ўзялі Смаленск і іншыя гарады. Паўстанне згасла.

У XV ст. назіраецца росквіт Смаленска. Смаленскай зямлёй кіруе намеснік вялікага князя, прадстаўнік мясцовых феадалаў у Сойме і Радзе ВКЛ. Існавала і смаленскае веча, якое вырашала надзённыя пытанні жыцця горада і вясковага наваколля. Намеснік меў і мясцовую раду. У яе ўваходзілі смаленскі епіскап, маршалак і іншыя гарадскія службовыя асобы. Мяшчане Смаленска абіралі сабе свайго прадстаўніка — старасту. Смаленскія землі падзяляліся на воласці,

якімі кіравалі цівуны. Прывілеі жыхароў Смаленска былі зафіксаваныя ў вялікакняскіх граматах 1404, 1442, 1505 гг. Побач са Смаленскай зямлёй існавалі аўтаномныя Мсціслаўскае, Вяземскае і Дарагабужскае княствы.

На землях цэнтральнай Смаленшчыны з 1404 г. існуе Смаленскае ваяводства. У гэты час Смаленск становіцца адным з буйнейшых старабеларускіх культурных цэнтраў, дзе квітнее летапісанне і духоўная літаратура.

У канцы XIV ст. у Пустынскім Успенскім манастыры пад Мсціславам Лука Смалянін стварае славуты Смаленскі псалтыр, напісаны на пергаменце, аздоблены 3 мініяцюрамі, 22 застаўкамі, 150 ініцыяламі з выявамі людзей, жывёл, розных фантастычных істот і складаным плеценым арнаментам. Пры аздабленні тэксту выкарыстана фарба сіняга, зялёнага і чырвонага колеру, а таксама золата. У 1657 г. па загаду патрыярха Нікана падчас маскоўскай акупацыі Смаленскі псалтыр вывезены на в. Кій Анежскай губы Белага мора. Зараз знаходзіцца ў Маскве, у Гістарычным музеі.

У XV ст. у Смаленску напісана Смаленская хроніка — старажытнабеларускі літаратурны твор, а таксама такія гістарычна-літаратурныя творы, як «Пахвала Вітаўту» і «Беларуска-літоўскі летапіс», дзе апісаны розныя падзеі на тэрыторыі Смаленшчыны і ВКЛ, а таксама сумежных землях.

**Смаленскі замак у XV ст. (паводле Г. А. Ластоўскага)**



У канцы XV ст. пры двары смаленскіх епіскапаў манах Аўраамка склаў вялікі летапісны зборнік памерам 450 старонак. Ён атрымаў назву «Летапіс Аўраамкі». Даследчыкі лічаць, што менавіта ў Смаленску ў XV ст. быў напісаны Радзівілаўскі летапіс, які пазней належаў Янушу Радзівілу, потым трапіў у Кёнінгсберг, а пазней, у XVIII ст., у Санкт-Пецярбург, дзе знаходзіцца і зараз. Летапіс мае каля 600 малых каляровых малюнкаў, якія зараз ілюструюць нашыя падручнікі і энцыклапедыі. Пакінулі свае ўспаміны і смаленскія вандроўнікі. Гэта архімандрыт Агрэфій, які апісаў сваю вандроўку ў Палесціну ў 1370 г. і смаленскі духоўнік Ігнацій. Апошні суправаджаў мітрапаліта Пімена ў 1389 г. у паездцы ў Канстанцінопаль і пакінуў літаратурны твор, прысвечаны гэтай падзеі. Выдатным помнікам прыгожага пісьменства Беларусі першай паловы XV ст. з'яўляецца летапісная «Аповесць пра паўстанне ў Смаленску». Даследчыкі вызначаюць высокі мастацкі ўзровень гэтага твора і яго выдатную старабеларускую мову.

Аднак у канцы XV ст. мірнае жыццё Смаленшчыны скончылася. Маскоўскі князь Іван III абвясціў сябе «Гасударом усяе Русі» і вырашыў захапіць беларускія землі, пачанаючы са Смаленшчыны. Спачатку былі невялікія набегі на памежнае Вяземскае княства. Вялікая вайна пачалася ў 1492 г. Зімой 1493 г. маскоўскія войскі захапілі Вязьму, а ў чэрвені 1500 г. — Дарагабуж. 25 ліпеня 1500 г. на рацэ Ведрашы пад Дарагабужам войска ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім было разбіта вялікім маскоўскім войскам, а Астрожскі трапіў у маскоўскі палон.

У 1501 г. маскоўцы асадзілі Смаленск, але ўзяць яго не здолелі і адступілі.

Новая вайна пачалася ў 1512 г. Летам 1514 г. 80 тысяч маскоўскіх ваяроў на чале з Васілём III, маючы 300 гармат, з усіх бакоў абклалі Смаленск і распачалі штурм. Горад быў захоплены. Пасля перамогі Астрожскага ў верасні 1514 г. пад Оршай смаляне на чале са смаленскім епіскапам Варсанофіем пачалі рыхтаваць паўстанне. Аднак іх выдаў здраднік. Кіраўнікоў паўстання забілі. Епіскапа выслалі ў манастыр. Смаленскіх баяр і мяшчан гвалтам перасялілі пад Маскву, а Смаленск засялілі маскоўцамі. Аднак ВКЛ не прызнала захоп Смаленска.

Новая ўлада зрабіла большасць смаленскіх зямель дзяржаўнымі і засяліла іх сялянамі з цэнтра Маскоўскай дзяржавы. Таксама будаваліся праваслаўныя манастыры, якія былі адначасова пунктамі абароны падчас вайны.




Смаленск. XVII ст.

У пачатку XVI ст. Смаленск меў драўляныя ўмацаванні (дубовыя сцены і вежы). У паўднёва-заходняй частцы дзядзінца стаяла мураваная вежа, падобная да Камянецкай. Таксама і гарадскі пасад быў умацаваны валам і парканам (сцяной з завостраных бярвёнаў).

ВКЛ не раз спрабавала вярнуць Смаленск. Гэта паходы 1535, 1544, 1552–1553 гг., але яны выніку не далі. Падчас Лівонскай вайны Смаленск атрымаў новыя ўмацаванні. Мураванай невысокай сцяной абнеслі Саборную гару — рэзідэнцыю епіскапа, таксама некалькі мураваных вежаў збудавалі на пасадзе і з заходу злучылі іх паміж сабою мураванай сцяной. Аднак Сцяпан Батура да Смаленска не дайшоў.

Прайграўшы Лівонскую вайну, маскоўскія ўлады вярнулі ВКЛ Вяліж і пачалі ўмацоўваць Смаленск. У снежні 1595 г. сюды прыехаў мясцовы дойлід Фёдар Конь, які ўзначаліў будаўніцтва мураваных умацаванняў Смаленска, узяўшы за ўзор Маскоўскі Крэмль, зроблены італьянскімі майстрамі. Будаўніцтва пачалося вясной 1596 г. і доўжылася шэсць гадоў. На будоўлі працавала каля 20 тысяч чалавек. Даўжыня муроў склала 6,5 км, вышыня 10–13 м, а таўшчыня — 4–6 м. Мелася таксама 38 вежаў рознай формы: круглыя, шматгранныя і прамавугольныя. Былі і вежы-брамы. Асабліва прыгожай была Фралоўская вежа каля моста праз Днепр.

Муры былі складзены з тоўстай чырвонай цэглы. Сцены звонку бяліліся вапнай і белай фарбай. На будаўніцтва прыязджаў нават цар Барыс Гадуноў. Зараз засталося 18 вежаў і каля 3 км муроў.

У першай палове XVII ст. Смаленск зноў стаў сведкам шматлікіх войнаў. У верасні 1609 г. войскі караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III узялі Смаленск у аблогу. Яна доўжылася 20 месяцаў, і ў ліпені 1611 г. Смаленск быў узяты войскамі ВКЛ і Польшчы.

Большасць Смаленшчыны, акрамя Вязьмы, па Дэўлінскай дамове 1618 г. вярнулася ў склад ВКЛ. Было зноў адноўлена Смаленскае ваяводства, якое складалася са Смаленскага і Старадубскага паветаў.

У Смаленску тады жыло каля 11 тысяч жыхароў, таксама на Смаленшчыне былі такія буйныя гарады, як Красны, Рослаў, Дарагабуж і Белы. Усе гэтыя гарады атрымалі магдэбургскае права. Змяніўся і склад насельніцтва. Прыехала шмат беларусаў, з'явіліся і яўрэі, асабліва ў мястэчках. Смаленскае праваслаўнае святарства прызнала унію. Большасць смаленскай шляхты была каталіцкай. Яна спрыяла распаўсюду розных каталіцкіх манаскіх ордэнаў, у тым ліку і езуітаў.

У Смаленску адкрыўся езуіцкі калегіум, дзе вучыліся дзеці мясцовай шляхты Цэнтрам праваслаўнай рэлігіі быў Бязюкаў манастыр каля Дарагабужа.

**Манахі-дамініканцы на вуліцы Смаленскай, 1640 г. (паводле Г. А. Ластоўскага)**





Смаленская ратуша, прыстасаваная пад «Прыказную ізбу». Пачатак XVIII ст. (паводле Г. А. Ластоўскага)

У 1632 г. пачалася новая вайна за Смаленск. Маскоўскія войскі на чале з ваяводам Міхаілам Шэйнам узялі Дарагабуж і асадзілі Смаленск. Аблога ішла 10 месяцаў, пакуль не прыйшло войска Рэчы Паспалітай і ў сваю чаргу не акружыла войска маскоўцаў. Шэін капітуляваў. Смаленшчына засталася ў складзе ВКЛ.

Яшчэ адна вайна пачалася вясной 1654 г. Спачатку царскія войскі захапілі Дарагабуж і Рослаў і ў чэрвені абклалі з усіх бакоў Смаленск. Пасля доўгай аблогі, у верасні залога здала горад і без перашкод пакінула яго. Большасць мясцовай смаленскай шляхты прысягнула на вернасць цару Аляксею Міхайлавічу і захавала свае маёнткі.

Паводле Андрусаўскай дамовы 1667 г. значная частка Смаленшчыны (акрамя Мсціслаўшчыны) перайшла пад уладу рускага цара. Сюды перасялілі шмат палонных беларусаў з-пад Оршы, Дуброўны і Віцебска. Смаленшчына заставалася этнічнай беларускай тэрыторыяй.

У пачатку XVIII ст. смаленская шляхта брала актыўны ўдзел у войнах, якія вёў Пётр I. Конны полк смаленскай шляхты ўдзельнічаў у Крымскім і Азоўскім паходах, а за бітву пад Нарвай атрымаў ад цара Пахвальную грамату. Таксама мясцовыя беларусы склалі смаленскія пяхотныя і драгунскія палкі. У верасні 1708 г. шведскія войскі прыйшлі на Мсціслаўшчыну, і 10 верасня пад вёскай Раёўкай адбыўся бой шведаў і рускага войска, у якім шведы страцілі каля



Святлейшы князь Рыгор Пацёмкін-Таўрычаскі

тысячы чалавек і павярнулі на поўдзень, на Украіну.

У 1708 г. была створана Смаленская губерня з 17 гарадамі. Былы смаленскі ваявода баярын Салтыкоў стаў першым смаленскім губернатарам. У XVIII ст. у Смаленску з'явілася духоўная семінарыя і цыфірная школа для дзяцей дваран і купцоў. Аднак мясцовая шляхта сваіх дзяцей адпраўляла вучыцца ў Віленскі, Пражскі і Кракаўскі універсітэты.

У канцы XVIII ст. Смаленскую губерню падзялілі на 12 паветаў: Смаленскі, Бельскі, Вяземскі, Гжацкі, Дарагабужскі, Духаўшчынскі, Ельнінскі, Красненскі, Парэцкі, Рослаўскі, Сычэўскі і Юхноўскі. Гэты падзел існаваў да пачатку 1918 г.

Пасля I падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. Расійская імперыя захапіла і заходнюю Смаленшчыну, якая ўваходзіла ў Мсціслаўскае ваяводства. На Смаленшчыне ў вёсцы Чыжава Духаўшчынскага павета ў 1739 г. нарадзіўся адзін з уплывовых дзеячоў эпохі Кацярыны II князь Рыгор Пацёмкін-Таўрычаскі.

Ён атрымаў тытул князя, званне генерал-фельдмаршала, быў прэзідэнтам вайсковай калегіі. З 1785 г. — галоўнакамандуючы Чарнаморскага флоту і кіраўнік Чарнаморскага адміралцейства. Па яго загаду былі заснаваны гарады Херсон, Мікалаеў і Севастопаль (1783) як база Чарнаморскага флоту. Дарэчы, род Пацёмкіных карыстаўся гербам «Пагоня», што выглядаў як збройная рука з мячом у залатым полі, якая ў замаху выходзіць з-за блакітнага воблака.

Менавіта яму пасля 1772 г. дастаўся Крычаў з ваколіцамі, дзе ён збудаваў сабе палац у псеўдагатычным стылі, а таксама мануфактуру па вырабу ветразяў і канатаў для Чарнаморскага флоту. У 1780 г. Кацярына II наведала Мсціслаў, Магілёў, дзе мела сустрэчу з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II. Яны разам пабывалі і ў Смаленску, і нават на радзіме князя Пацёмкіна.

Акрамя Крычава з 1772 г. Пацёмкін атрымаў ва ўласнасць горад Дуброўна на Віцебшчыне, заснаваў там некалькі мануфактур і першую ў Расійскай імперыі гадзіннікавую фабрыку, дзе выраблялі кішэнныя, насценныя і камінныя гадзіннікі, якія карысталіся вялікім попытам.

У 1812 г. праз Смаленск на Маскву пракацілася войска Напалеона, і Смаленшчына зноў была спалена і разрабавана. У агні гэтай вайны і знік славуты Полацкі летапіс. Аднак потым на працягу сотні гадоў войнаў на Смаленшчыне не было, і край паступова развіваўся, маючы аўтахтоннае беларускае насельніцтва. У 1904 г. у Вільні выходзіць праца Яўхіма Карскага «Беларусы», у якой паведамляецца, што беларуская мова гучыць на большай частцы тэрыторыі Смаленскай губерні. Гэтая звесткі адлюстраваны і на складзенай ім «Этнаграфічнай карце Беларускага племені». З межамі рассялення беларусаў на Смаленшчыне ў асноўным пагадзіўся і другі беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі.

Падчас Першай сусветнай вайны, калі немцы акупуюць значную частку Беларусі, у Смаленск пераязджаюць жыць і працаваць Янка Купала, Максім Гарэцкі і іншыя беларускія дзеячы. Дэлегаты ад Смаленшчыны бралі ўдзел у Першым Усебеларускім з’ездзе ў снежні 1917 г. у Мінску.

25 сакавіка 1917 г. была абвешчана БНР у этнаграфічных межах рассялення беларусаў. Мусілі і бальшавікі прызнаць Смаленшчыну беларускай тэрыторыяй, калі 30 снежня 1918 г. ствараюць часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі на чале са Зміцерам Жылуновічам і абнародуюць адпаведны Маніфест. У адпаведнасці з ім большая частка Смаленскай губерні, акрамя некалькіх паветаў (Гжацкага, Сычэўскага, Вяземскага і Юхнаўскага), увайшла ў склад Савецкай Беларусі, а Смаленск да 5 студзеня 1919 г. быў яе сталіцай. БССР дзялілася на 7 раёнаў: Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гродзенскі і Баранавіцкі.

У склад Смаленскага раёна ўваходзілі паветы: Смаленскі, Бельскі, Духаўшчынскі, Парэцкі, Дарагабужскі, Ельнінскі, Красненскі і Рослаўскі.

Аднак ужо 16 студзеня бальшавікі адабралі ад БССР Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні і далучылі іх да РСФСР. 11 ліпеня 1919 г. Мсціслаўскі павет Магілёўскай губерні быў далучаны да Смаленскай губерні. 26 верасня 1919 г. да Смаленскай губерні далучылі частку Аршанскага павета Віцебскай губерні, а 27 ліпеня 1922 г. — Горацкі павет.

У 1924 г. да БССР зноў далучылі 16 паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў. Аднак са складу Смаленскай губерні ў БССР вярнулі толькі Горацкі і палову Мсціслаўскага павета разам з Мсціславам. Так, у складзе РСФСР засталіся славутыя



Айзек Азімаў

Любавічы — мястэчка, дзе ў XIX ст. пад кіраўніцтвам Шнэўр-Залмана ўзнікла вялікая суполка хасідаў, прадстаўнікоў яўрэйскага рэлігійна-містычнага руху, якія пачалі называцца «любавіцкія хасіды». З 1940 г. цэнтрам дзейнасці любавіцкіх хасідаў стаў Нью-Йорк. Недалёка ад Мсціслава ў в. Пятровічы Шумяцкага раёна ў 1920 г. нарадзіўся славуты амерыканскі пісьменнік-фантаст, навуковец-біяхімік, прафесар Бостанскага універсітэта Айзек (Ісак) Азімаў. Крыху далей на хутары Загор'е Пачынкаўскага р-на ў 1910 г. нарадзіўся славуты рускамоўны паэт і грамадскі дзеяч, рэдактар часопіса «Новый мир» Аляксандр Твардоўскі. Ён добра ведаў беларускую мову, перакладаў на рускую вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова і іншых нашых паэтаў, а таксама прысвяціў Беларусі і шмат уласных вершаў.

9 сакавіка 1934 г. у в. Клушына Гжацкага раёна Смаленскай вобласці нарадзіўся Юрый Аляксеевіч Гагарын — першы касманаўт планеты Зямля. Паводле сведчанняў людзей, якім даводзілася сустракацца і гутарыць з Ю. Гагарыным, ён вельмі ахвотна кантактаваў з беларусамі. Гагарын гаварыў, што ён надзвычай прыязна ставіцца да беларусаў. Магчыма, яго продкі паходзілі з беларусаў, паколькі Смаленшчына ў канцы XIX стагоддзя больш як на палову складалася з беларусаў і гаварыла па-беларуску.



Аляксандр Твардоўскі

Маскоўская пісьменніца Лідзія Абухава напісала дакументальную кнігу пра першага касманаўта, шмат пра яго расказвала, а сярод іншага паведамляла і пра тое, што любімым вершам маленькага Юры Гагарына быў знакаміты «Хлопчык і лётчык» Янкі Купалы.

У другой палове 20-ых гг. мінулага стагоддзя беларускія камуністы ставілі



Юрый Гагарын

пытанне аб вяртанні яшчэ некалькіх паветаў Смаленшчыны, у першую чаргу тых тэрыторый, што некалі ўваходзілі ў Магілёўскую губерню. Перапісы насельніцтва сведчылі, што ў гэты час 75–80% насельніцтва большасці смаленскіх паветаў лічылі сябе беларусамі і былі за ўз'яднанне з БССР. У гэтыя часы ў Смаленску дзейнічала беларуская секцыя пры губернскім аддзеле асветы, пры Смаленскім універсітэце існавала беларускае студэнцкае зямляцтва, працавалі беларускія школы, хатычытальні і чырвоныя куткі. Аднак у пачатку 1930-ых усю беларускую дзейнасць на Смаленшчыне забаранілі, і пачаліся сталінскія рэпрэсіі і чысткі.

У Смаленску ў 1956 г. нарадзіўся Уладзімір Навумаў, які з верасня 2000 г. па красавік 2009 г. займаў пасаду міністра ўнутраных спраў Беларусі.

Надзвычай пацярпела Смаленшчына падчас апошняй вайны. У 1941–1943 гг. на яе тэрыторыі ішлі ваенныя дзеянні, і большасць мясцовага насельніцтва альбо загінула, альбо было эвакуявана на Усход. Нават і зараз у некаторых раёнах Смаленшчыны жыве па 10 і меней тысяч насельніцтва. З іх беларусамі сябе лічаць толькі 29 тысяч чалавек (звесткі 2000 г.). Там не менш у 1964 г. да Беларусі было далучана восем вёсак былой Аслянскай воласці Мсціслаўскага павета і тэрыторыя плошчай 2256 гектараў. Гэты былі землі калгаса «Путь к коммунизму».

Восенню 1990 г. група дэпутатаў ВС БССР у Маскве (сярод іх быў і аўтар артыкула) сустрэлася з дэпутатамі ВС РСФСР ад Смаленскай вобласці, каб абмеркаваць пытанне аб пераходзе некаторых раёнаў Смаленшчыны ў склад БССР, асабліва тых, дзе пасля вайны амаль не засталося насельніцтва. Была ідэя перасяліць туды ахвяр Чарнобыльскай катастрофы з забруджаных тэрыторый. Нашу ідэю сустрэлі добра. Гаворка ішла аб магчымым рэферэндуме, і смаленскія дэпутаты лічылі, што большасць іх выбаршчыкаў прагаласуе за вяртанне ў БССР. Гэтаму адпавядалі і настроі грамадзян. Падчас пад'ёму нацыянальных рухаў у пачатку 90-ых гг. XX ст. у рэспубліках СССР у Алма-Аце ўсе

смаляне ўвайшлі ў беларускае таварыства «Бацькаўшчына», а не ў нейкае рускае таварыства.

Але пачаліся падзеі ў Вільнюсе, потым жнівеньскі путч 1991 г. — і СССР развалiўся. Беларусь стала незалежнай краінай.

Аднак дэлімітацыі дзяржаўнай мяжы з Расіяй пакуль не зроблена, і яна практычна не пазначана на мясцовасці. Некаторыя жыхары Смаленшчыны, асабліва на мяжы з Беларуссю, не забылі сваё паходжанне і беларускую мову. Таму гісторыя Смаленшчыны і яе гістарычны лёс яшчэ чакаюць аб'ектыўных даследчыкаў.

*Напісана ў Гданьску на вул. Смаленскай (ліпень 2007 г.)*

# Северская зямля

**Севяране — гэта славянскае племя, суседзі нашых радзімічаў, што засялілі раку Дзясну і яе прытокі. У XI ст. землі радзімічаў і севяран, а таксама часткова палян і вяцічаў уваходзяць у Чарнігаўскае княства. Першым князем тут быў Мсціслаў Уладзіміравіч (з 1024 г.). У XI ст. у склад княства ўваходзяць Гомель, Чачэрск і Рэчыца, прычым з 1160 г. Гомель (тады яго называлі Гомій) стаў цэнтрам удзельнага княства. У сярэдзіне XII ст. чарнігаўскія князі нават валодалі Слуцкам, Клецкам і Рагачовам. Паўночныя землі радзімічаў адышлі да Смаленскага княства. Пазней там узнікла ўдзельнае Мсціслаўскае княства, як складовая частка Вялікага княства Смаленскага. У складзе Чарнігаўскага княства паступова склалася Ноўгарад-Северскае княства.**

Яно ўзнікае на землях севяранаў і часткова вяцічаў у 1096–1097 гг. Першым князем быў Алег Святаславіч. У другой палове XII ст. жыхары княства вядуць вайну з полаўцамі. У выніку няўдалага пахода 1186 г. князя Ігара і ўзнік твор «Слова пра паход Ігаравы», у якім ёсць цікавыя звесткі пра старажытную Беларусь. З 1238 г. Ноўгарад-Северскае княства ўваходзіць у склад Бранскага княства.

Горад Бранск як славянскае паселішча ўзнікае ў 985 г. на беразе рэчкі Дзясна. Спачатку ён называўся Брынь, потым Дзябранск. У летапісе як горад Чарнігаўскага княства згадваецца ў 1146 г.

Пасля таго як мангола-татары ў 1239 г. разбурылі і знішчылі Чарнігаў, ацалелы чарнігаўскі князь Раман у 1246 г. пераносіць у Бранск сталіцу з Чарнігава. Неўзабаве, у XIII ст. бранскія князі адначасова мелі і тытул князёў чарнігаўскіх. У Бранску тады знаходзілася рэзідэнцыя чарнігаўскіх епіскапаў. Але ў 1285–1297 гг. бранскія князі пераходзяць пад уладу смаленскіх князёў.

Першы раз вярхоўную ўладу ВКЛ бранскія князі прызналі ў 1339 г. Аднак у 1352 г. яны пераходзяць пад сюзерэнітэт Масквы. Але неўзабаве, каля 1360 г., у Бранску адбылося паўстанне, у якім перамаглі прыхільнікі ВКЛ, і князь Альгерд пасадзіў на бранскі пасад князя Рамана Міхайлавіча Чарнігаўскага. Бранская епархія была падначалена Літоўскай метраполіі, незалежнай ад Масквы.



Дзяньга старадубскага князя Аляксандра Нарымунтавіча з кірылічнай легендай. Канец 1360-ых гг.

У Старадубе ў гэты час вялікім князем Альгердам быў пасаджаны на княжанне Аляксандр Нарымунтавіч. Пры ім у Старадубе пачалі біць уласную манету — старадубскую дзяньгу. Дзяньгу рабілі спосабам, запазычаным у Залатой Ардзе. Срэбра выцягвалася ў доўгі дрот, які пасля нажніцамі разразалі на кавалачкі і расплюшчвалі вытнем молата.

Бранскі князь Раман у 1363 г. перайшоў на бок Масквы. Войскі Альгерда занялі княства, і новым князем стаў Зміцер Альгердавіч, сын Альгерда. У 1380 г. ён прыйшоў на дапамогу маскоўскаму князю і прывёў на Кулікоўскае поле палкі са Старадуба і Бранска. Менавіта ён разам з Андрэем Полацкім і Дзмітрыем Баброкам-Валынскім быў ініцыятарам паходу маскоўскага войска за Дон насустрач хану Мамаю. На Кулікоўскім полі ён кіраваў першым рэзервам Дзмітрыя Данскога на левым флангу, за ім стаялі войскі валынскага ваяводы.

У персанальным змаганні з татарамі вызначыўся манах Аляксандр Перасвет, які паходзіў з бранскіх баяраў і нарадзіўся ў северскім горадзе Любечы. Потым Зміцер загінуў у бітве на р. Ворскле. Вітаўт вярнуў былое княства Раману Міхайлавічу, які зноў вярнуўся з Масквы ў ВКЛ і пазней загінуў у Смаленску ў 1401 г. З 1465 г. бранскім княствам кіруюць князі Мажайскія да 1500 г.

У часы Альгерда і Вітаўта назіраецца ўздым северскай зямлі. Расквітнелі северскія гарады: Бранск, Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Пуціўль, Старадуб, Трубчэўск і Почап.

Князь Альгерд пасадзіў у забраных северскіх гарадах сваіх сыноў. У Бранску — Зміцера Карыбута, у Трубчэўску — Андрэя Вогунта, у Чарнігаве — Канстанціна Скіргайлу. Былі збудаваны драўляныя замкі ў Почапе, Радагошчы, Рыльску і Пуціўлі. Вітаўт паставіў вялікія вайсковыя залогі ў Гомелі і Любечы. Бранскі князь Зміцер Карыбут пачынае біць сваю манету.



**Северскія землі знаходзіліся амаль у геаграфічным цэнтры ВКЛ 1345–1430 гг.**

У гэты час на тэрыторыі былой Северскай зямлі набірае сілу Старадубскае княства. Яно склалася пасля 1454 г., калі мажайскі князь Іван Андрэевіч уцёк з Масквы ў ВКЛ і атрымаў у вотчыну гарады Гомель і Старадуб. І гэта не было выпадковым, бо яго бацька, сын Дзмітрыя Данскога, князь Андрэй Дзмітрыевіч, ажаніўся з дачкою старадубскага князя Аляксандра Патрыкеевіча, Аграфенай. У 1465 г. да княства далучылі Бранск, у 1496 г. — Чарнігаў, і ў 1499 г. — Хацімль.



❋ **Манета Зміцера Карыбута Бранскага**

Варта адзначыць, што ў 1486 г. жыхары Бранска паўсталі і забілі свайго князя Андрэя, сына мажайскага князя Івана. З гэтага часу Бранскам кіруюць велікакняскія намеснікі. Старадубскія князі мелі свой двор, сваіх баяр і сваё войска (палкі). 1499 г. князь Сямён Іванавіч атрымаў тытул «князь Старадубскі».

У канцы XV ст. сітуацыя на ўсходзе ВКЛ ускладняецца. Пачынаецца экспансія суседняга Маскоўскага княства на захад. У 1500 г. маскоўскія войскі на чале з Якавам Захар'іным захапілі Бранск. Старадубскі князь Сямён Мажайскі прысягнуў Івану III Маскоўскаму і перайшоў са сваім княствам на яго бок. Пры гэтым прыхапіў горад Любеч і прыняў удзел у захопе Пуціўля.

Восенню 1501 г. войскі Шых-Ахмета, цара Заволжскай Арды, захапілі Ноўгарад-Северскі і іншыя гарады Северскай зямлі, але потым адступілі, бо не дачакаліся дапамогі ад ВКЛ.

Пэўны час Старадубскае княства захоўвала аўтаномію (да 1518 г.) у складзе Маскоўіі, а потым, пасля смерці апошняга старадубскага князя Васіля, перайшло ў непасрэднае валоданне Васіля III Маскоўскага. Разам з Бранскам, Старадубам, Чарнігавам, у склад Масковіі трапіў і Гомель.

ВКЛ, вядома, не змірылася з такімі стратамі сваёй тэрыторыі. У 1534–1537 гг. адбылася вялікая вайна, якая атрымала назву Старадубская. Войскамі ВКЛ кіраваў гетман Юры Радзівіл. У ліпені 1535 г. быў вернуты Гомель, а потым і Старадуб (29 жніўня 1535 г.). Пры штурме старадубскага замка быў узяты вялікі палон. Вяртанне Гомеля выклікала вялікую радасць ва ўсёй нашай дзяржаве, аднак Старадуб утрымаць не ўдалося. Граніца паміж Гомелем і Старадубам павінна была быць на аднолькавай адлегласці — 50 вёрстаў, але потым яна пасунулася на ўсход бліжэй да Старадуба.

У расійскіх архівах захаваўся збор дакументаў гетманскай канцылярыі Юрыя Радзівіла, якія датуюцца 1534–1536 гг. З іх можна даведацца пра планы ваенных дзеянняў, дэталі баявых аперацый,

стан вайсковай дысцыпліны, унікальныя звесткі пра стан і рамонт дарог і будаўніцтва мастоў. Радзівілаўскі архіў часоў Старадубскай вайны чакае ўдумлівых беларускіх даследчыкаў.

Сітуацыя на карысць ВКЛ і Рэчы Паспалітай змянілася ў пачатку XVII ст., калі Маскоўская дзяржава саслабела. У выніку вайны з Масковіяй у 1618 г. былі вернуты Старадуб, Почап, Трубчэўск, Ноўгарад-Северскі і Чарнігаў, але Бранск і Пуціўль засталіся ў Расіі.

У складзе Смаленскага ваяводства быў створаны Старадубскі павет, які належаў ВКЛ, а Ноўгарад-Северскі і Чарнігаўскі паветы ўтварылі Чарнігаўскае ваяводства ў складзе Польшчы (Кароны).

Паўночная частка вернутых северскіх земляў, што ўвайшлі ў Старадубскі павет (1625), склала тры ўезды: Старадубскі, Почапскі і Трубчэўскі. У 1644 г. Трубчэўскі ўезд перадалі Расіі, а ў 1646 г. да Старадубскага павета далучылі Лоеўскую і Любечскую воласці Кіеўскага ваяводства.

У 1648 г. на тэрыторыі Кароны (Польшчы) пачалося ўкраінскае паўстанне на чале з Багданам Хмяльніцкім. Яго войскі асадзілі Ноўгарад-Северскі, дзе была вялікая залога і шмат шляхты. Казакі адразу не змаглі захапіць добра ўмацаваны горад, але мясцовыя жыхары ноччу выкапалі падземны ход пад сцяною цвердзі, упусцілі праз яго казакоў, разам з імі знішчылі варту і адчынілі гарадскую браму. Горад быў захоплены, а залога ліквідавана.

**Мапа Украіны часоў паўстання Багдана Хмяльніцкага**






Тэрыторыя гетманскай Украіны XVII ст. у складзе Расійскай імперыі

У гэтым жа годзе быў захоплены і Старадуб. Аднак мясцовая шляхта здолела ўцячы на захад, дзе атрымала назву «эзгулянты», захавала свае пасады і нават у розных месцах ВКЛ збіралася на соймікі. У 1670 г. старадубская шляхта атрымала Гожскае староства і мясцовасць Клейвы ў Гродзенскім павеце, а таксама землі ў Ковенскім і Вількамірскім паветах ВКЛ. З 1667 г. яна праводзіла свае соймікі ў Вільні, а з 1777 г. у Жыжморах Троцкага павета.

У Чарнігаве ў 1648 г. быў заснаваны казацкі полк.

Новая вайна пачалася ў 1654 г., калі Расія напала разам з украінцамі на Рэч Паспалітую. У 1654 г. на Беларусь пайшло 18 тысяч казакоў Нежынскага, Чарнігаўскага і Ахотніцкага палкоў на чале з Іванам Залатарэнкам. Расійскае войска пад кіраўніцтвам ваяводы Трубяцкога выйшла з Бранска і захапіла Рослаў, Мсціслаў, Дуброўна і Шклоў. Казакі Залатарэнкі ўзялі Чачэрск і Гомель.

Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. Чарнігаўскае і Смаленскае ваяводствы (разам са Старадубскім паветам) адышлі да Расіі. Аднак Северская зямля апынулася ў межах гетманскай Украіны, што ўваходзіла ў склад Расіі на правах аўтаноміі: Чарнігаў і Старадуб мелі самакіраванне і сталі цэнтрамі казацкіх палкоў. У сваю чаргу палкі дзяліліся на сотні з цэнтрамі ў гарадах ці мястэчках. На чале палкоў стаялі палкоўнікі. Адзін з іх, старадубскі палкоўнік Іван Скарападскі стаў украінскім гетманам у 1708 г.

Пасля ліквідацыі ўкраінскай аўтаноміі ў 1802 г. была створана Чарнігаўская губерня, якая існавала да 1925 г. Паводле перапісу 1897 г., у губерні жыло 3 321 900 чалавек, з іх беларусы складалі 5% і жылі ў асноўным у Суражскім, Мглінскім, Старадубскім і Чарнігаўскім паветах. Найбольш беларусаў жыло ў Суражскім павеце (85–90%).

Два паветы з беларускім насельніцтвам — Бранскі і Трубчэўскі адносіліся з 1778 г. да Арлоўскай губерні. Найбольш значным горадам тут быў Бранск, які Аркадзь Смоліч назваў самым усходнім беларускім горадам.



Аўтограф і партрэт гетмана Івана Скарападскага

Сярод помнікаў гісторыі Бранска славуты беларускі географ называе Свенскі манастыр, шырока вядомы сярод багамольцаў усходняй Беларусі.

На ўсіх гэтых землях моцна трымалалася памяць пра іх прыналежнасць да Вялікага княства Літоўскага і еднасць насельніцтва з беларускім этнасам. Так, Эдвард Вайніловіч, старшыня Мінскага аграрнага таварыства, згадвае ў сваіх успамінах, што ў 1901 г. на ўрачыстасцях з нагоды 25-годдзя таварыства з-за Дняпра прысутнічаў прадстаўнік Старадубскага



Размяшчэнне казацкіх палкоў гетманскай Украіны ў XVIII ст.

Бранск над Дзясною
(паводле А. Смоліча)



Навазыбкаў
(паводле А. Смоліча)



аграрнага таварыства Чарнігаўскай губерні, «якога мы спецыяльна ўшаноўвалі».

Напрыканцы 1917 г. Украіна абвясціла сваю незалежнасць, якая была прызнаная бальшавікамі, і Чарнігаўская губерня ўвайшла ў яе склад. Неўзабаве, 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана БНР.

У сакавіку 1918 г. Чарнігаўшчыну акупавалі нямецкія войскі і знаходзіліся на тэрыторыі губерні да студзеня 1919 г. Пасля абвяшчэння ў Смаленску БССР вырашана ў яе складзе ўтварыць Гомельскі раён у складзе Суражскага, Лалінскага і Старадубскага паветаў у адпаведнасці з даследаваннямі Я. Карскага і М. Доўнар-Запольскага. Аднак ужо ў канцы студзеня бальшавікі адарвалі ад Беларусі яе




Мапа Гомельскай губерні ў складзе РСФСР




Узбуйненне БССР у 1924 і 1926 гг.

ўсходнюю частку. У 1919 г. яны стварылі новую, Гомельскую губерню ў складзе Расіі і далучылі да яе Мглінскі, Навазыбкаўскі, Суражскі і Старадубскі паветы Чарнігаўскай губерні і частку Мінскай губерні. Існавала Гомельская губерня да 6 снежня 1926 г.




Мапа БССР 1927 г., на якой пазначаны прылеглыя спрэчныя тэрыторыі

Пасля яе ліквідацыі ў склад БССР передаваліся Гомельскі і Рэчыцкі ўезды. Адначасова з ліквідацыяй Гомельскай губерні была ўтворана Бранская, у якую і ўключылі частку Усходняй Беларусі. Бранскія ўлады адразу выказалі прэтэнзіі на Добруш, каб забраць сабе папяровы камбінат. Аднак Калінін сказаў, што тады беларусы запатрабуюць раёны з беларускім насельніцтвам, якія засталіся ў складзе РСФСР. Размова ішла пра Клінцоўскі ўезд Браншчыны.

На карце Беларусі, надрукаванай у газеце «Звязда» ў 1927 г. Старадубскі павет быў пазначаны як спрэчная тэрыторыя. У лістападзе 1928 г. кіраўнікі БССР І. Васілевіч і М. Галадзед прапаноўвалі передаць Беларусі Навазыбкаўскі і Клінцаўскі ўезды былой Гомельскай губерні. Але сталінскія рэпрэсіі спынілі працэсы ўзбуйнення БССР на поўначы і ўсходзе. Як і Смаленшчына, Браншчына моцна пацярпела падчас апошняй вайны. Потым быў Чарнобыль. Аднак праявы беларушчыны там захаваліся. У савецкі перыяд былі рэгулярныя памкненні жыхароў Бранскай вобласці, і ў першую чаргу Старадубскага раёна, вярнуцца ў склад Беларусі, і таму невыпадкова ў Бранскім універсітэце студэнты вывучаюць беларускую мову. Дарэчы, вядомы беларускі архітэктар-рэстаўратар Валеры Слюнчанка, які аднавіў Полацкую Сафію, нарадзіўся ў Старадубе і добра ведаў беларускую мову.

У Старадубе нарадзіўся сённяшні галоўны рэдактар найбуйнейшай газеты Беларусі «Беларусь сегодня» Павел Якубовіч. У адным са сваіх інтэрв'ю Павел Якубовіч гаворыць: «Я нарадзіўся ў Старадубе, які можна назваць горадам як расійскім, так і беларускім. Ён належаў Вялікаму княству Літоўскаму, а ў савецкія часы быў часткай

Гомельшчыны, хоць раней адносіўся да расійскіх раёнаў...»

У XXI ст. імкненне жыхароў Бранскай вобласці ўз'яднацца з Беларуссю не знікае. У 2008 г. у шэрагу раёнаў Бранскай вобласці прайшлі народныя сходы, на якіх прымаліся звароты да мясцовых Саветаў з патрабаваннем далучэння гэтых раёнаў да Беларусі.


Старадубскі беларус Валера Слюнчанка

У лістападзе 2008 г. на прэс-канферэнцыі ў Маскве, прысвечанай праблемам сацыяльнага развіцця Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, было зададзена пытанне з нагоды гэтых народных сходаў. Начальнік Галоўнага ўпраўлення інфармацыйнай палітыкі і грамадскіх сувязяў апарата адміністрацыі Смаленскай вобласці Юры Глебаў заявіў, што ў Смаленскай вобласці такіх сходаў заўважана не было, хоць жыхароў памежных раёнаў вобласці звязваюць цёплыя партнёрскія адносіны з жыхарамі наваколляў Віцебска і Магілёва. Глебаў адзначыў: «Тое, што вырашана на мясцовых Саветах, не з'яўляецца кіраўніцтвам да дзеяння. Гэта не адпавядае расійскай Канстытуцыі». Член Савета Федэрацыі ад Уладзімірскай вобласці Яўген Ільюшкін, сказаў: «Пытанне аб далучэнні таго або іншага рэгіёна да братэрскай Рэспублікі Беларусі стаяць не можа. Мы выступаем за тое, каб мяжа Расіі была пастаянная. Мяжа Расіі павінна быць недатыкальнай. Калі такое пытанне будзе пастаўлена, то я, як член Савета Федэрацыі, буду галасаваць супраць» (Звязда. — 2008. — 12 лістап. — № 213).


Павел Якубовіч

Тым не менш, пытанне тое, аказваецца, стаіць.

# Старадубская вайна

**Зусім нядаўна ў сродках масавай інфармацыі гучалі словы аб тым, што больш сваяцкага і брацкага народа ў беларусаў, чым расійскі, няма і ніколі не было. А калі згадаць ранейшую савецкую і царскую прапаганду, асабліва кніжачку «Народ издревле нам родной», то шмат хто ў гэта мог і паверыць. Праўда, пасля нядаўняй «газавай» вайны фанфары крыху сціхлі, тым больш што падчас «памаранчавай» рэвалюцыі на Украіне імперскае аблічча сённяшняй Расіі зноў яскрава праявілася.**

**Таму сёння ёсць падстава згадаць пра шматлікія беларуска-расійскія войны XVI–XVII стст., якія прынеслі нашаму народу незлічоныя страты. Гаворка пойдзе пра адну з гэтых войнаў, якая ў расійскіх сучасных гістарычных крыніцах атрымала назву Старадубская вайна.**

Гэтая вайна пачалася за вяртанне ў склад ВКЛ былога Старадубскага княства. Яно было ўтворана ў 1454 г. як удзел князя Івана Мажайскага, які ўцёк у ВКЛ ад Васіля II — маскоўскага ўладара.

У 1499 г. ягоны сын Сямён, які афіцыйна называўся князем Старадубскім, атрымаў ад вялікага князя Аляксандра пацвярджэнне на сваю вотчыну ў складзе гарадоў Старадуб, Гомель, Чарнігаў, Бранск, Карачаеў і Хоцімль.

Аднак восенню 1500 г. князь Сямён разам з уладальнікам Ноўгарад-Северскага княства Шамяцічам перайшлі на бок Івана III. За гэта іх княствы мелі ў складзе маскоўскай дзяржавы пэўную аўтаномію, бо яны разам з Разанню ў першай чвэрці XVI ст. засланялі Маскву ад татарскіх набегаў. У 1518 г. Старадубскае княства перайшло ў валоданне Васіля III і спыніла сваё існаванне.

Прычынай вайны стала жаданне ВКЛ узяць рэванш за шматлікія паразы ў папярэдніх войнах канца XV – пачатку XVI ст., калі былі страчаны вялікія тэрыторыі, у тым ліку гарады Смаленск, Чарнігаў, Старадуб і Гомель.

У 1533 г. памёр маскоўскі князь Васіль III, а ў канцы 1533 г. супроць Масковіі выступіла Крымскае ханства. Віленскі вальны сойм ухваліў ваенны падатак на 3 гады.

У пачатку красавіка 1533 г. было сабрана паспалітае рушэнне колькасцю каля 24 тысяч чалавек пад Менскам. У жніўні войска ВКЛ на чале з гетманам Юрыем Радзівілам у колькасці 20 тысяч чалавек прыйшло пад Магілёў, дзе падзялілася на два корпусы. Адзін корпус рушыў на Смаленск, а другі ў Северскую зямлю пад Старадуб. Звернемся да тагачаснай пісьмовай крыніцы:

*«Тых часоў адпусцілі есма ад нас гетмана нашага вялікага пана Юрыя Мікалаевіча Радзівіла і з іншымі гетманамі і з войскамі нашымі вялікімі, і з гарматамі ў зямлю непрыяцеля нашага Маскоўскага на Северу, і казалі есма ім, Бога ўзяўшы на помач, замкаў нашых айчызных северскіх здабываці. І калі б Бог мілы дапамог, найперш замка Гом'я дастаці або агнём яго спаліці...»*

Справа пачыналася цяжка. Корпус на чале з Вішнявецкім не здолеў узяць Смаленск, а аддзел, якім кіраваў Неміровіч у Северскай зямлі, захапіў толькі замак Радагошч. Войскі ВКЛ мусілі вярнуцца, а зімою 1535 г. войскі маскоўцаў напалі на Беларусь і дайшлі да Браслава і Навагрудка, палячы і рабуючы вёскі і мястэчкі.

Каб працягнуць вайну, ВКЛ наняло ў Польшчы 5000 жаўнераў, а таксама атрымала дапамогу кароннага войска ў выглядзе 1000 вершнікаў. У канцы мая войска сабралася пад Рэчыцай. На гэты раз ваенныя дзеянні былі больш паспяховымі. У ліпені нашыя войскі разам з польскімі аддзеламі рушылі ў Северскую зямлю. 16 ліпеня быў вызвалены Гомель, жыхары якога самі адчынілі браму моцна ўмацаванага Гомельскага замка.

**Гомельскі замак. Малюнак з мапы XVI ст.**



*«...паведаючы аб вялікай ласцы мілага Бога і аб шчаслівай фартуне, якую Богастваральнік за справаю вашай міласці гаспадару яго міласці тых часоў напачатку пашчасціць рачыў, іж ваша міласць замак непрыяцельскі моцны і абаронаю здольны Гомей да рук гаспадарскіх узялі: яка ж князь Дзмітры Абаленскі, бачачы моцнае аблажэнне вашае міласці, сам з баяры тамашнімі з онага замка выйшаў і вашай міласці яго падаў; і некаторыя баяры і людзі прысягу ўчынілі, хоцячы гаспадару нашаму яго міласці верна служыці. А тое се стала без вялікага накладу гаспадарскага і вашай міласці».*

Пазней былі ўзятыя гарады Почап і Радагошч, а 29 жніўня, пасля месячнай аблогі, і Старадуб. Старадубскага ваяводу Фёдара Аўчыну ўзялі ў палон.

Весткі пра вяртанне Гомеля, які з 1501 г. належаў маскоўцам, выклікалі вялікую радасць у ВКЛ.

Жыгімонт І загадаў намеснікам з бліжэйшых да Гомеля гарадоў тэрмінова выслаць прафесійных будаўнікоў для ўзвядзення новых гарадскіх умацаванняў. Гэта было зроблена вельмі тэрмінова і своечасова, бо неўзабаве войскі ВКЛ пакінулі ўзятыя раней гарады, акрамя Гомеля, і вярнуліся дамоў.

Аднак на тым Старадубская вайна не скончылася. Наўгародскія і маскоўскія войскі, прысланыя маскоўскім уладаром, уварваліся ў Полацкую зямлю і збудавалі там, на мяжы з Масковіяй, два замкі — Себеж і Завалач, а на сваёй тэрыторыі, побач з мяжою, — замак Веліж.

Зімою 1536 г. войска ВКЛ хацела захапіць Себеж, аднак гэта не атрымалася. Летам 1536 г. маскоўцы былі разбіты пад Крычавам, і вайна практычна спынілiся. 27 сакавіка 1537 г. у Маскве падпісалі перамір'е на 5 гадоў, па якому Себеж і Завалач перадавалі Масковіі, а Гомель з ваколіцамі — ВКЛ. У 1542 г. перамір'е зноў падоўжылі на 5 год на тых жа ўмовах.

Адразу пасля вяртання Гомеля ў 1535 г. вялікі князь літоўскі Жыгімонт заснаваў Гомельскае староства, як асобнае дзяржаўнае ўтварэнне ў складзе гаспадарскіх Падняпроўскіх воласцяў. У 1560 г. Гомель атрымаў свой герб, а з 1565 г. Гомельскае староства знаходзіліся ў складзе Рэчыцкага павета Менскага ваяводства. У гэты час у склад староства акрамя Гомеля ўваходзілі 32 вёскі пад кіраўніцтвам дзяржаўцы.

Асобнымі вёскамі валодалі непасрэдна мясцовыя баяры і шляхта. Вёска Пляса належала гомельскай Троіцкай царкве, а вёска Слепка



Юры Радзівіл (1480–1541), сын і брат канцлераў ВКЛ Мікалая Радзівілавіча і Мікалая Мікалаевіча Радзівілаў. Ён быў кіеўскім ваяводам, гарадзенскім старастам, троцкім кашталянам і гетманам найвышэйшым (1531–1541). Гэта прафесійны ваяр, які шмат год змагаўся з маскоўцамі. Падчас Аршанскай бітвы 8 верасня ён кіраваў лёгкай кавалерыяй.

Ягоны сын Мікалай Руды таксама стаў гетманам і вызначыўся падчас Лівонскай вайны, а малодшая дачка, прыгажуня Барбара стала жонкай караля Жыгімонта Аўгуста. Менавіта Юры стаў заснавальнікам літоўскай (біржайскай) лініі роду Радзівілаў

была падаравана Віленскаму касцёлу св. Станіслава і ўвайшла ў склад яго маёнтка Стрэшын.

У 1640 г. у Гомельскае староства ўваходзіла 40 сёл з 202 дамамі. Яно было злучана дарогай з Рагачовам. У такім выглядзе староства існавала да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

У беларускай гістарычнай энцыклапедыі Старадубская вайна называецца як пятая вайна з Масковіяй, а ў падручніках звестак пра яе практычна няма. Толькі Мікола Ермаловіч крыху піша пра гэтыя падзеі ў сваёй кнізе «Беларуская дзяржава — ВКЛ». Нядаўна арыгінальныя матэрыялы пра вышэйзгаданую вайну надрукавалі асобнай кнігай рускія гісторыкі.

Такім чынам, у 2007 г. споўнілася 470 год з часоў першага вяртання Гомеля ў склад Беларусі, апошняе вяртанне адбылося ў 1926 г.

# Надбужская краіна

**У сваёй знакамітай «Геаграфіі Беларусі» Аркадзь Смоліч да Надбужскай краіны адносіў паветы Бельскі, Беластоцкі ды Берасцейскі. Гэта тэрыторыя вакол Буга і яго прытокаў: Нарвы, Нурца, Бабра, Мухаўца і іншых. Лёс гэтай беларускай тэрыторыі надзвычай цікавы і даволі драматычны.**

Нашы далёкія продкі дрыгавічы разам з валынянамі жылі тут пачынаючы з X ст. У другой палове XII – пачатку XIII ст. тут існуюць гарады Драгічын-Надбужскі, Бранск, Мельнік і Бельск. Побач існавала балтыйскае племя яцвягаў. Далей на захад жылі мазуры. Самым значным з гарадоў быў Драгічын-Надбужскі. У пачатку XX ст. тут была высокая Замкавая гара, што ўздымалася на 45 сажняў над Бугам. На ёй былі бачныя замкавыя муры і сутарэнні. У XIX ст. інспектар Беластоцкага жаночага інстытута Мікалай Авенарыюс правёў раскопкі на старажытным гарадзішчы і знайшоў шмат свінцовых пломбаў, што прывязваліся да розных тавараў. У XII–XIII стст. гэтай тэрыторыяй валодалі галіцка-валынскія князі. Адзін з іх, славуты Даніла Галіцкі ў XIII ст. нават каранаваўся ў Драгічыне.



Драгічын над Бугам



Замкавая гара ў Драгічыне. Сучасны выгляд

У часы Гедыміна, з 1316 г. Надбужская краіна ўваходзіць у склад ВКЛ. Менавіта ў гэты час Гедымінам і быў заснаваны Беласток, як невялікае паселішча. У 1426 г. Вітаўт падарыў Беласток Мацею з Цікоціна. Паступова гэтая тэрыторыя стала называцца Падлессе, як зямля, якая размешчана каля Лесу (Белавежскай пушчы). Актыўна развіваўся горад Бельск як цэнтр Бельскай зямлі. Другі па памерах тут быў Бранск, які ў 1493 г. атрымаў магдэбургскае права і карыстаўся дзяржаўным гербам «Пагоняй».



Царква Дабравешчання Багародзіцы ў Супраслі

У 1498 г. навагрדскі ваявода і маршалак ВКЛ А. Хадкевіч пры ўдзеле смаленскага архіепіскапа Іосіфа Солтана сярод Блудаўскай пушчы заснаваў мужчынскі Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр. У 1510 г. тут збудавалі абарончы мураваны храм — шэдэўр беларускай готыкі — царкву Дабравешчання Прасвятое Багародзіцы. У архітэктуры гэтага храма творча пераасэнсаваныя полацкія архітэктурныя



**Руіны царквы Дабравешчання Багародзіцы ў Супраслі. 1944 г.**



**Фрэскі з царквы Дабравешчання Багародзіцы ў Супраслі**



**Царква Дабравешчання Багародзіцы ў манастырскім комплексе Супрасля. Сучасны выгляд**

традыцыі XII ст. У 1557 г. інтэр’еры царквы былі распісаны фрэскамі пад кіраўніцтвам сербскага мастака Нектарыя.

Манастыр стаў буйным цэнтрам беларускай праваслаўнай культуры. Тут склаліся самабытныя багаслоўска-філасофская, іканаграфічная і архітэктурная школы, а таксама харавое спеўнае мастацтва (супраслеўскі распеў). Тут пісалі летапісы, былі ювелірныя і пераплётныя майстэрні, мелася унікальная бібліятэка. У пачатку XVII ст. манастыр стаў уніяцкім. З 1722 г. тут была галоўная рэзідэнцыя базыльянскага ордэна.

Летам 1944 г. падчас ваенных дзеянняў галоўны храм манастыра быў ператвораны ў руіны. У 1964–1966 гг. 30 фрагментаў знакамітых фрэсак XVI ст. былі знятыя са слупоў храма, закансерваваныя і перанесеныя ў Беластоцкі музей. У 1984 г. улада вярнула руіны храма праваслаўнаму манастыру, і мясцовыя беларусы пачалі адбудоўваць сваю святыню. У 1999 г. асноўныя будаўнічыя работы былі скончаны.

Да сярэдзіны XVI ст. мяжа ВКЛ на захадзе доўгі час не мянялася. На мяжы ВКЛ, Польшчы і Прусіі на беразе рэчкі Лекі (Элкі) быў пастаўлены трохбаковы капец з мураванай калонай, на якой былі прымацаваныя шчыты з гербамі трох краін.

Напярэдадні Люблінскай уніі 5 сакавіка 1569 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст адабраў у ВКЛ Падлессе і далучыў яго да Польшчы (Кароны). Падлессе пачынаюць называць Падляшшам, каб тапанімічна ўзаконіць перадачу зямель ВКЛ Польшчы. Неўзабаве ў 1584 г. новы гаспадар Беластока Пётр Весялоўскі будуе ў мястэчку мураваны касцёл Святой Тройцы. Але мясцовыя сяляне засталіся праваслаўнымі, а пазней далучыліся да уніі. Пасля ліквідацыі уніі ў XIX ст. насельніцтва Беластоцкага і Бельскага паветаў засталося праваслаўным, а вось значная частка беларусаў Аўгустоўскага павета перайшла ў каталіцтва і хутка апалячылася з дапамогай польскага касцёлу.



Заходнія межы ВКЛ, абазначаныя на мясцовасці гетманам польным Юрыем Радзівілам

Пэўны росквіт Беласточчыны адбыўся ў XVIII ст. З 1659 г. Беласток аддалі гетману Чарнецкаму ў пажыццёвае валоданне. Потым паселішча перайшло да яго зяця Яна Браніцкага. У 1697 г. пачалі будаваць у стылі барока палац, які пасля перабудовы ў 1728–1758 гг. стаў унікальным палацава-паркавым комплексам і быў названы «падляскі Версаль». У 1723 г. Беласток атрымаў магдэбургскае права, і ў 1745–1761 гг. была збудавана мураваная ратуша з высокай вежай і гадзіннікам. Побач з ёю паўсталі мураваныя крамы, горад умацавалі мураванай сцяной з 4 вялікімі брамамі. У гэтыя часы палац Браніцкіх меў тэатр,

сад, аранжарэі, вадасховішчы і два звярынцы.

У мястэчку Семяцічы Бельскага павета княгіня Ганна Сапяжанка заклала бібліятэку, фізічны і натуралістычны кабінеты, музей старасвеччыны і шмат мануфактур. Таксама яна стварала кааператывы для сваіх сялянаў, клапацілася пра іх дабрабыт.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Беласточчына ў 1795 г. трапіла часова ў склад Прусіі. У 1802 г. уладальнікі Беластока графы Патоцкія прадалі горад каралю Прусіі Фрыдрыху Вільгельму за 270 970 талераў. Прусакі забрукавалі цэнтральныя вуліцы горада Баярскую і Варшаўскую і забудавалі іх двухпавярховымі мураванымі дамамі.

У горадзе ўзнік новы прамысловы квартал, з’явіліся першыя фабрыкі. Але паводле Тыльзіцкага міру 1807 г. горад і прылеглая тэрыторыя перайшлі да Расійскай імперыі.

У 30-ых гг. XIX ст. была зроблена мытная мяжа паміж расійскай часткай Польшчы (Царствам Польскім) і Беларуссю. Шмат польскіх фабрыкантаў перавезлі ў Беласток, які зноў быў аднесены да Беларусі, свае фабрыкі, каб не плаціць мыта. Насельніцтва горада, якое ў 1857 г. складалася толькі з 14



**На карце падзелаў Беларусі паказаны ўваход Беласточчыны ў склад Прусіі**



**Кафедральны сабор св. Мікалая ў Беластоку, 1846 г.**

тысяч чалавек, да 1914 г. павялічылася ў 6 разоў. Тут было каля 300 прадпрыемстваў, дзе працавалі 6 тысяч рабочых. У асноўным яны выраблялі розныя тканіны, мыла, шылі вопратку.

Заходнія землі ВКЛ прынялі самы актыўны ўдзел у паўстанні 1863 г. Тут, у Мастаўлянах, 2 лютага 1938 г. нарадзіўся кіраўнік паўстання 1863 г. Кастусь Каліноўскі, у Ялоўцы яго хрысцілі. Род Каліноўскіх паходзіць з Беласточчыны. Яго продкі амаль сто гадоў валодалі маёнткам Калінава ў Бранскай зямлі. У 1835 г. бацька К. Каліноўскага пабудаваў ткацкую фабрыку ў Мастаўлянах, дзе і нарадзіўся беларускі герой. Тут, у Саколцы, з 1859 г. лясной школай кіраваў Валеры Урублеўскі, бліжэйшы паплечнік Кастуся Каліноўскага і найбольш таленавіты кіраўнік баявых атрадаў паўстання. Вучні гэтай школы былі самымі падрыхтаванымі ваярамі паўстання. Белавежская пушча была апорным пунктам для атрадаў Урублеўскага. Тут ішлі самыя жорсткія баі. Адсюль апошнія атрады паўстанцаў адышлі на Люблiншчыну, каб прадоўжыць змаганне ў Польшчы.

У другой палове XIX – пачатку XX ст. у Беластоку было і культурнае жыццё. Тут дзейнічае жаночы інстытут для шляхетных дзяўчат, у 1900 г. збудавалі новы вялікі неагатычны касцёл.

Тут нарадзіўся і дзейнічаў знакаміты Людвік Лазар Заменгоф (1859–1917). У 1887 г. ён выдаў пад псеўданімам Д-ro Esperanto праект



Кастусь Каліноўскі



Мастаўляны. Сучасны выгляд



Касцёл у Ялоўцы, дзе хрысцілі Кастуся Каліноўскага

штучнай дапаможнай мовы эсперанта. Неўзабаве гурткі аматараў мовы эсперанта пашырыліся па ўсёй Еўропе. Дарэчы, акрамя Беластока Заменгоф з 1893 па 1897 г. жыў і працаваў у Гародні, дзе ёсць вуліца, названая ў яго гонар.

У 1882 г. у Бельску нарадзіўся славуты беларускі архітэктар і педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў і архітэктуры Беларусі Іосіф Рыгоравіч Лангбард. З 1932 г. жыве і працуе на Беларусі, дзе спраектаваў шэраг унікальных будынкаў у стылі канструктывізму (Дом урада, галоўны корпус АН БССР, Оперны тэатр і інш.).

Пасля выхаду ў свет «Нашай нівы» на Беласточчыне пачынаецца беларускі адраджэнцкі рух. Аднак варта адзначыць, што вельмі моцна на гэты край паўплывала Першая сусветная вайна. У 1915 г. шмат жыхароў было прымусова выселена ў Расію, калі ішоў наступ нямецкіх войскаў. Бежанцы здолелі вярнуцца толькі пасля 1921 г., калі гэтыя землі адышлі да Польшчы. Аднак менавіта тут у часы нямецкай акупацыі нарадзілася беларускае школьніцтва. У снежні 1917 г. у беластоцка-гарадзенскай навучальнай акрузе было 46 беларускіх школаў, вясной 1918 г. — 79, а ў 1919 г. — ужо 153.



Людвік Заменгоф



Іосіф Лангбард

У часы акупацыі Беласток, Супрасль, Гайнаўка, Крынкі мелі добрую прамысловасць і свой рабочы клас, дзе большасць было беларусаў. 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана БНР, Беласточчына павінна была ўвайсці ў яе склад. Калі ў Смаленску ў пачатку 1919 г. абвясцілі БССР, у ёй прадугледзелі існаванне такой адміністрацыйнай адзінкі, як Гродзенскі раён, які складаўся з Аўгустоўскага, Сакольскага і Беластоцкага паветаў.

11 лістапада 1918 г. сваю незалежнасць абвясціла Польшча і адразу стала прэтэндаваць на суседнія беларускія землі. Брытанскі прэм'ер-міністр Дэвід Лойд-Джордж, адзін з кіраўнікоў «вялікае чацвёркі» на Версальскай мірнай канферэнцыі, які блізка знаўся з польскімі дыпламатамі, заўважыў пра адноўленую Польшчу: «Упіўшыся маладым віном свабоды, якое налілі саюзнікі, яна зноў уявіла сябе нястомнаю гаспадыняю Цэнтральнае Еўропы. Самавызначэння ёй было мала. Яна прагла Галіцыі, Украіны, Літвы і часткі Беларусі. Волевыяўленне іх жыхароў адразу б засведчыла непрыняцце яе панавання. Гэтак хутка яе лідэры адкінулі права кожнага народа абараніць сабе дзяржаўнасць».

Найбольш красамоўным абаронцам такога падыходу да ўсходніх земляў быў Раман Дмоўскі, кіраўнік Польскай нацыянальна-дэмакратычнай партыі.



Царква св. Мікалая ў Бельску Падляскім, XVIII ст., здымак 1920 г. Знішчана ў час апошняй вайны

5 лютага 1919 г. у Беластоку падпісалі польска-нямецкую дамову аб замене нямецкай акупацыі Заходняй Беларусі на польскую. Праз тры дні Пілсудскі вылучыў Беласточчыну з-пад кантролю Сейма і варшаўскага ўрада і падпарадкаваў яе Грамадзянскаму ўраду Усходніх зямель. Новая польская ўлада ліквідавала беларускае школьніцтва, створанае ў часы нямецкай акупацыі. Некаторых настаўнікаў арыштавалі, некаторых выселілі ў Польшчу, а ўсю маёмасць канфіскавалі і перадалі польскім школам.

У сакавіку 1921 г. бальшавікі падарылі Польшчы ўсю Заходнюю Беларусь разам з Беластокам. Польская канстытуцыя 17 сакавіка 1921 г. гарантавала правы меншасцяў. У 1931 г. у Беластоцкім ваяводстве 91,1% беларусаў жылі ў вёсках, але 18,3 тыс. беларусаў былі рабочымі. На ўзмежку Белавежскай пушчы на Беласточчыне пасялілі жаўнераў з войска Булак-Балаховіча, якія ў асноўным былі каталікамі. Аднак на працягу 1918–1924 гг. у родныя вёскі з бежанства вярнуліся 600 тысяч праваслаўных беларусаў.

Трэба сказаць, што ў Белавежскай пушчы супраць палякаў дзейнічалі беларускія партызаны. Некаторыя іх аддзелы мелі да 200 жаўнераў. Росквіт партызанскага руху прыпадае на 1924 г. З ім актыўна змагалася польская ўлада. У маі 1923 г. у Беластоку судзілі 45 партызанаў.

У ліпені 1924 г. польскія ўлады дазволілі выкарыстоўваць беларускую мову ў штодзённым жыцці і ствараць беларускія школы. Аднак у паветах Бельскім, Беластоцкім і Сакольскім адчыніць беларускія школы не дазволілі. Тым не меней тут дзейнічала Таварыства беларускай школы. Беластоцкі аддзел ТБШ налічваў 526 чалавек, меў сваю кнігарню і філію Віленскага беларускага банка. Дзейнічалі розныя секцыі, у тым ліку харавая, тэатральная і літаратурная. У 1935 г. ТБШ у Беластоку зачынілі ўлады.

Летам 1924 г. праваслаўная царква ў Польшчы стала аўтакефальнай і незалежнай ад Маскоўскага Патрыярхату. Усіх вернікаў было 4,1 млн., з іх беларусаў — 32%. У 1935 г. у Беластоку стварылі Таварыства праваслаўных палякаў імя Ю. Пілсудскага. Мэта — паланізацыя літургіі і казанняў. Усіх праваслаўных у беластоцкім ваяводстве было 300 тыс. чалавек, палякаў — 62 800, рускіх — 20 тыс., астатнія — не вызначыліся.

З верасня 1939 г. беластоцкая праваслаўная царква была пад юрысдыкцыяй варшаўскага мітрапаліта. З 1941 г. тут кіраваў гродзенскі біскуп Бенедыкт, які казаў пра беларусізацыю праваслаўнай царквы. Сітуацыя не змянілася і пасля вайны. У чэрвені 1948 г. Масква

прызнала самастойнасць праваслаўнай царквы Польшчы, і, такім чынам, праваслаўным беларусам вельмі пашанцавала.

У верасні 1939 г. савецкія войскі перайшлі польскую мяжу, занялі Беласточчыну і 29 верасня спыніліся на лініі Керзана. Трэба патлумачыць, што ў 1919 г., калі Чырвоная Армія ішла здабываць Варшаву, міністр замежных спраў Брытаніі Керзан прапанаваў Леніну спыніць свае войскі на мяжы з этнічнай Польшчай і абазначыць яе на геаграфічнай мапе. У 1920 г. Антанта пацвердзіла гэтую лінію. Таму Сталін і прытрымліваўся яе, калі з Гітлерам падзяліў Польшчу ў 1939 г.

Менавіта ў Беластоку 28–30 кастрычніка 1939 г. адбыўся Народны сход Заходняй Беларусі, дзе 929 дэлегатаў выказалі просьбу аб

**Беласточчына ў складзе БССР у 1939 г.**





Народны сход у Беластоку галасуе за ўваходжанне Заходняй Беларусі ў склад СССР і БССР

уваходжанні ў СССР і аб'яднанні з БССР. Упершыню на Беласточчыне беларуская мова набыла статус дзяржаўнай, стала вывучацца ў школах, на ёй сталі друкаваць газеты і кнігі. У 1940 г. ужо дзейнічала 270 беларускіх пачатковых школ, некалькі сярэдніх, а таксама педагагічны інстытут у Беластоку.

Пасля нападу Германіі на СССР 19 кастрычніка 1941 г. Гітлер далучыў Беласточчыну да Рэйха і падпарадкаваў яе гаўляйтэру Усходняй Прусіі з сядзібай у Кёнінсбергу (Каралеўцы). Беластоцкая акруга была асобнай адміністрацыйнай адзінкай у складзе Прусіі.

Летам 1941 г. беларускія калабаранты стварылі ў Беластоку Беларускі народны камітэт, які з 1942 г. арганізаваў курсы беларускай і нямецкай моваў, ладзіў канцэрты, займаўся школьніцтвам і пашырэннем народных рамёстваў. Летам 1943 г. на базе БНК узнікла Беларускае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднанне. Яго філіі стварыліся ў Гайнаўцы, Белавежы, Міхалове і іншых мястэчках. У Бельскім павеце ў 1941–1944 гг. дзейнічала 38 прыватных беларускіх школаў. З лета 1943 г. немцы ліквідавалі польскія школы і дазволілі беларускія ў паветах Беластоцкім і Сакольскім.

Летам 1944 г. Беласточчына зноў стала савецкай. Падчас адступлення немцаў была ўзарваная славутая супрасльская абарончая царква XVI ст. Паўстала пытанне аб аднаўленні незалежнасці Польшчы, але ў зусім іншых межах і пад кіраўніцтвам камуністаў.

Польская дэлегацыя на Маскоўскай канферэнцыі (19–22 кастрычніка 1944 г.) афіцыйна прызнала лінію Керзана як усходнюю мяжу Польшчы, але папрасіла крыху адсунуць яе на ўсход і перадаць Польшчы Беласточчыну, з часткай Белавежскай пушчы.

Сталін з гэтым пагадзіўся і на канферэнцыі ў Ялце даводзіў, што заходняя мяжа СССР з Польшчай павінна праходзіць па лініі Керзана. Саюзнікі Сталіна па антыгітлераўскім блоку не спрачаліся і вырашылі значна павялічыць тэрыторыю адноўленай Польшчы за кошт Германіі. Усе немцы з гэтых тэрыторый былі гвалтоўна выселеныя.



Беларуская сярэдняя школа ў Бельску-Падляскім, 1940 г.

У польскіх уладаў узнікла праблема, кім засяліць былыя нямецкія землі, і яны зноў звярнуліся да Сталіна, каб ён дазволіў сваім грамадзянам, якія да 17 верасня 1939 г. жылі на тэрыторыі Польшчы, перасяліцца ў аднаўленую польскую дзяржаву. Было падпісанае адпаведнае пагадненне, і масавае перасяленне пачалося. Да 1947 г. у Польшчу з СССР выехала на сталае жыццё 1 200 000 палякаў, 85 000 яўрэяў і 469 000 беларусаў. Трэба адзначыць, што шмат беларусаў, асабліва з тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны, якія былі каталікамі, запісваліся ў палякі, каб хутчэй выехаць з краіны «гулагаў» і калгасаў.



Царква св. Духа ў Беластоку на Антанюку, 1990 г.

У сваю чаргу савецкія ўлады з дапамогай польскіх чыноўнікаў стараліся перасяліць у СССР і БССР беларусаў Беласточчыны, а на іх месцы пасяліць савецкіх палякаў. Да канца 1946 г. з Беластоцкага ваяводства ў БССР

выехала 36 388 беларусаў. Найбольш з Беластоцкага павета — 12 328 чалавек (з Бельскага — 10 122 чал., з Сакольскага — 9680 чал.).

Вельмі «дапамагла» беларусам перасяляцца ў БССР Армія Краёва. На Беласточчыну з тэрыторыі Віленшчыны прыйшлі ўзброеныя акаўскія атрады, якія забівалі і калечылі людзей, асабліва настаўнікаў, палілі беларускія вёскі. Таксама забівалі і тых яўрэяў, што ацалелі ад гітлераўцаў. Аднак беларусы не спяшаліся ехаць у савецкі «рай». Яны цэлымі вёскамі перасяляліся альбо на ўсход ваяводства, альбо на былыя нямецкія землі, асабліва ў Гданьск. Цікава, што тыя беларусы, якія выязджалі ў БССР, сваю маёмасць і зямлю перадавалі сваякам і суседзям, і таму этнічны беларускі масіў на ўсходняй Беласточчыне захаваўся.

У 1946–1948 гг. Польшча дадаткова атрымала ад СССР яшчэ некалькі дзесяткаў памежных беларускіх вёсак. Сярод іх былі і Мастаўляны, радзіма Кастуся Каліноўскага.

Вельмі цікавы лёс і беларускага школьніцтва на Беласточчыне. У жніўні 1944 г. новыя польскія ўлады дазволілі з верасня існаванне школ з беларускай мовай навучання на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Таксама ў Беластоку ўзнік беларускі тэатральна-музычны ансамбль «Полымя». У кастрычніку 1944 г. было 115 беларускіх школаў, гімназіі ў Беластоку і Гайнаўцы, а таксама ліцэй і гімназія ў Бельску-Падляскім.



Царква ўваскрэсення Гасподняга ў Бельску



Манастырскі комплекс у Супраслі. Сучасны выгляд

Аднак за год вучобы колькасць школаў скарацілася да 105 з колькасцю навучэнцаў 8 тысяч. Пры стварэнні беларускіх школаў улічвалі жаданне бацькоў, мінімальная колькасць вучняў у школе павінна была быць 40 чалавек. У верасні 1945 г. ліквідавалі беларускую гімназію ў Гайнаўцы, бо ўлады спадзяваліся на выезд усіх беларусаў у БССР, і таму школы ім у Польшчы ўжо не патрэбны. Гэта палітыка ўзмацнілася ў наступных гадах.

У БССР выселілі ўсіх беларусаў, якія нарадзіліся на тэрыторыі СССР. У Беластоку ліквідавалі і ансамбль «Полымя». Кожнага мясцовага беларуса, які хацеў вучыць дзяцей на роднай мове, называлі сепаратыстам і нацыяналістам. Нешматлікая беларуская інтэлігенцыя змагалася з гэтым як магла. Людзі пісалі скаргі ў Варшаву, звярталіся па дапамогу ў амбасаду СССР.

У выніку гэтага 28 чэрвеня 1949 г. польскія камуністы вырашылі зноў адкрыць беларускія школы на Беласточчыне. У верасні гэтага

года ў ваяводстве было 24 беларускія школы, а да канца года іх стала 39. Яшчэ ў 20 школах вывучалі беларускую мову як прадмет. Адкрыліся беларускія ліцэі ў Бельску-Падляскім і Гайнаўцы. Былі створаны беларускія класы ў Беластоцкім педагагічным ліцэі. Сітуацыя значна палепшылася пасля смерці Сталіна.

У 1956 г. на хвалі палітычнага лібералізму ў Польшчы стварылася Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) і была заснавана газета «Ніва». Пры БГКТ стварылі літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа». Узніклі калектывы мастацкай самадзейнасці, клубы, бібліятэкі. Была створана кафедра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Стаў выходзіць штогоднік «Беларускі каляндар». З 1958 г. (з 1990 г. — штодзённа) ідуць радыёперадачы на беларускай мове.

У 1951 г. мястэчка Гайнаўка, вядомае з XVIII ст., стала горадам са значным беларускім насельніцтвам. Пазней тут была забудавана адмысловая праваслаўная царква. У Гайнаўцы па ініцыятыве БГКТ у 1984 г. заснавалі музей помнікаў беларускай культуры. З 1968 г. пачалася будоўля музея. Першая музейная экспазіцыя, якая налічвала 300 экспанатаў, адчынілася 27 кастрычніка 1990 г. Зараз музей мае тры будынкі, шэсць музейных залаў плошчай 2700 $м^2$.

**Троіцкі сабор у Гайнаўцы на 5000 чалавек**





Хор імя Р. Шырмы каля кафедральнага сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы. 1992 г.

У 1981 г. узнікае Беларускае аб'яднанне студэнтаў (БАС), у якім згуртаваліся студэнты Варшавы і Беластока. Пасля ўводу ў Польшчы ваеннага становішча БАС існавала падпольна. 17 снежня 1988 г. у Беластоку адбыўся першы з'езд БАСа. Гурткі БАСа дзейнічалі, акрамя Беластока, у Варшаве, Гданьску, Любліне і Ольштыне. 10 лютага 1990 г. у Беластоку была створана палітычная партыя беларусаў, якая атрымала назву «Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне» (БДА). Пасля ўваходу ў Еўрасаюз сяляне атрымалі датацыі за сваю экалагічна чыстую прадукцыю. Было дазволена ўвесці беларускую мову як дадатковую ў месцах кампактнага пражывання беларусаў. Беларусы могуць без візаў ездзіць і працаваць ці вучыцца ў любой краіне Еўрасаюза.

З Беласточчыны паходзіць беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. Вядомы ў Польшчы і свеце беларускі мастак Лёнік Тарасевіч, дэпутат шматлікіх соймаў Ян Чыквін, пісьменнік Сакрат Яновіч, гісторык, пісьменнік і фалькларыст Мікола Гайдук, гісторык Алег Латышонак ды іншыя дзеячы.

# Сярэдняя Літва

**Пасля распаду буйных імперый і таталітарных краін на тэрыторыі Еўропы і іншых кантынентаў у XX ст. утварылася шмат як сапраўдных, так і непрызнаных, часта марыянеткавых дзяржаў, якія існавалі нядоўгі час. Але нездарма пішуць, што лепей мець марыянеткавую, але дзяржаву, чым быць пад акупацыяй ці ў складзе іншай краіны, нават дэмакратычнай.**

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны і знікнення Расійскай імперыі ў 1917 г. часовыя дзяржавы ўзнікалі і на тэрыторыі Беларусі. Спробы арганізаваць такія дзяржаўныя ўтварэнні рабіліся з розным поспехам, як бальшавікамі, так і палякамі. Дастаткова прыгадаць Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Літ-Бел) альбо дзяржаву пад назвай Сярэдняя альбо Усходняя Літва.

Пасля таго, як была абвешчана БНР, а нямецкія войскі адступілі, бальшавікі мусілі ў Смаленску 1 студзеня 1919 г. абвясціць БССР у этнаграфічных межах рассялення беларусаў. Аднак ужо 16 студзеня ад БССР адлучылі на карысць Расіі Смаленшчыну, Магілёўшчыну і Віцебшчыну, а ўжо 27 лютага стварылі Літ-Бел са сталіцай у Вільні (гэта былыя Віленская, Гродзенская і Мінская губерні, тэрыторыя, якая да сярэдзіны XIX ст. мела гістарычную назву — Літва). Усё беларускае ў гэтай савецкай дзяржаве было забаронена, а ў войску пераважалі рускія салдаты. Не было тут і нічога літоўскага, акрамя кіраўніка ўрада Вікенція Міцкявічуса-Капсукаса. Бальшавікі разглядалі Літ-Бел як плацдарм для нападу на Польшчу. У чэрвені 1919 г. у войску Літ-Бела было 17 450 чырвонаармейцаў.

Польска-савецкая вайна пачалася ў лютым 1919 г. 14 лютага 1919 г. ля Бярозы-Картузскай адбылася першая бойка паміж бальшавікамі і польскімі войскамі. Ужо 19 красавіка палякі захапілі Вільню, а 28 красавіка — Горадню. Урад Літ-Бела пераехаў у Менск, але 8 жніўня ў Менск увайшлі польскія аддзелы на чале з генералам Станіславам Шаптыцкім. Літ-Бел практычна спыніла сваё існаванне.

У 1918–1919 гг. нашы суседзі літоўцы даволі паспяхова будавалі сваю дзяржаву, бо ім спачатку актыўна дапамагалі немцы, а потым і

краіны Антанты. Іх галоўнае жаданне было ўключыць у сваю дзяржаву ўсю Віленшчыну разам з нашай старадаўняй сталіцай. Бальшавікі на гэта глядзелі спачатку адмоўна, але потым, пасля акупацыі палякамі Літ-Бела, — вельмі станоўча, бо Літва аўтаматычна станавілася іх хаўруснікам у змаганні з Польшчай.

11 верасня 1919 г. урад Савецкай Расіі заявіў аб згодзе прызнаць Літоўскую дзяржаву і заключыць з ёю мірнае пагадненне. Таму 12 ліпеня 1920 г. Ленін прызнае незалежнасць Літвы і перадае ёй даўно захоплены палякамі Віленскі край разам з нашымі гарадамі Горадняй, Шчучынам, Лідай, Ашмянамі, Смаргонню і Браславам. 14 ліпеня Чырвоная Армія займае Вільню, а ў верасні перадае яе літоўцам. 31 ліпеня ў Менску абвяшчаецца ССРБ, але ў межах толькі былой Мінскай губерні.

У 1919–1920-ых гг. польскія ўлады не прызнавалі БССР і Літ-Бел, нягледзячы на заявы ўрада РСФСР аб тым, што тэрытарыяльныя спрэчкі павінны вырашацца паміж Польшчай і БССР непасрэдна. Яны таксама вялі ваенныя дзеянні з Літвой, бо хацелі захапіць не толькі Віленшчыну, але ўжо і Літву. Пад ціскам Антанты 7 кастрычніка 1920 г. у Сувалках падпісваецца польска-літоўская дамова, паводле якой Віленшчына перадаецца Літве.

Аднак Пілсудскі не збіраўся аддаваць сваю радзіму літоўцам (Юзаф Пілсудскі быў родам з Віленшчыны). Звязаны абавязкамі перад Антантай, ён у гэтай сітуацыі віртуозна разыграў «беларускую карту», інспіраваў «бунт» супраць гэтай дамовы ў частцы польскага войска, так званых «літоўска-беларускіх дывізіях». Літоўска-беларускія дывізіі існавалі ў складзе польскага войска з 1919 г., яны складаліся з «красавякаў» (у асноўным беларусаў-каталікоў заходніх рэгіёнаў Беларусі, Беласточчыны і Віленшчыны), якія не вельмі рваліся служыць у каронным войску, а больш ахвотна ішлі ў свае тутэйшыя палкі, працягваючы традыцыі «літоўскага сепаратызму».


Генерал Люцыян Жалігоўскі

Ужо на наступны дзень пасля падпісання «мірнай дамовы» з Літвой, 8 кастрычніка 1920 года «паўстала»

1-ая Літоўска-беларуская дывізія на чале з генералам Люцыянам Жалігоўскім. У канцы верасня непасрэдна перад бунтам 1-ай Літоўска-беларускай дывізіі, якая складалася з Сувалкаўскага, Гродзенскага, Віленскага і Мінскага палкоў, па загаду Пілсудскага былі перададзены найбольш баяздольныя Лідскі і Ковенскі палкі з 2-ой Літоўска-беларускай дывізіі. Жалігоўскі захапіў Вільню, абвясціў незалежнасць Віленшчыны і пайшоў на Коўна, захапіўшы па дарозе мястэчка Кейданы. Толькі ў раёне Шырвінтаса літоўцы здолелі спыніць нападнікаў. Перад тварам міжнароднай супольнасці Польшча была «чыстай». Меў месца беларуска-літоўскі канфлікт.

29 лістапада 1920 г. пад уціскам Лігі Нацый бакі заключылі пераміp’е. Стварылася фармальна незалежная дзяржава пад назвай Сярэдняя Літва. Яе нефармальным кіраўніком стаў генерал Люцыян Жалігоўскі. Гэта наш зямляк, які нарадзіўся ў Ашмянах у 1865 г.




Колішняя вуліца Жалігоўскага ў Лідзе. Існавала да 9 студзеня 1940 г.

З 1885 г. Люцыян Жалігоўскі — кадравы афіцэр рускага войска, удзельнік руска-японскай вайны. Быў камандзірам палка. З ліпеня 1917 г. знаходзіўся ў польскім корпусе генерала Доўбар-Мусніцкага, у складзе якога ваяваў з бальшавікамі ў лютым 1918 г. пад Рагачовам. Потым ваяваў у войсках генерала Дзянікіна, дзе кіраваў польскай дывізіяй.

У красавіку 1919 г. яго дывізія далучылася да польскага войска. З верасня 1919 г. Жалігоўскі кіруе войскамі, што наступалі на Менск, ён камандзір першай літоўска-беларускай дывізіі, дзе служылі мясцовыя «краёвыя» палякі. Менавіта гэтая дывізія і «ўзбунтавалася» 8 кастрычніка 1920 г. супраць перадачы Віленшчыны Літве.

Жалігоўскі абвясціў 12 кастрычніка незалежнасць Сярэдняй Літвы і фактычна ўзначаліў яе. Пазней ён быў міністрам вайсковых спраў Польшчы і да 1939 г. дэпутатам польскага сойма. Потым быў у эміграцыі, падтрымліваў польскі эмігранцкі ўрад. Памёр у 1947 г. Дарэчы, у Лідзе да 9 студзеня 1940 г. існавала вуліца, названая ў яго гонар. Зараз гэта вуліца носіць імя Фелікса Дзяржынскага, таксама нашага земляка.

Новая краіна складалася з 10 паветаў. Акрамя Вільні, найбольш буйнымі гарадамі былі Трокі, Смаргонь і Ашмяны. Горадню і Ліду палякі Жалігоўскаму не аддалі і адразу ўключылі гэтыя гарады ў склад Польшчы. На тэрыторыі Сярэдняй Літвы жыло 530 тысяч



Крыж Заслугі войскаў Сярэдняй Літвы з гербам «Пагоня» (1920)

чалавек, з іх беларусы складалі 40%. Улада была ў руках Жалігоўскага, які на асноўныя кіраўнічыя пасады вылучаў выключна «краёўцаў». Жалігоўскі прызначыў урад — Часовую кіраўнічую камісію на чале з В. Абрамовічам, які быў «краёўцам» і выступаў за федэратыўную дзяржаву накшталт былой Рэчы Паспалітай. Былі свае грошы (польская марка), сімволіка, свае ўзнагароды і нават паштовыя маркі.

Першыя маркі выйшлі 20 кастрычніка 1920 г. і мелі выяву двух гербаў: польскага арла і нашай «Пагоні». На марках 1920–1922 гг. можна ўбачыць выявы помнікаў гісторыі і архітэктуры Вільні (сярод якіх касцёл св. Ганны і Вострая брама), выявы каралевы Ядвігі і караля Ягайлы, Касцюшкі і Адама Міцкевіча. Некалькі разоў выпускаліся маркі з партрэтам Жалігоўскага. У лістападзе 1921 г. выйшла марка, прысвечаная ўваходу войска Жалігоўскага ў Вільню 9 кастрычніка 1920 г.




Паштовая марка Сярэдняй Літвы

Жалігоўскі, у адрозненне ад іншых дзяржаўных дзеячоў Польшчы, ставіўся да беларускай справы даволі прыхільна. Урад найвышэйшай рады БНР (насуперак Ковенскаму ўраду на чале з Ластоўскім) падтрымаў

новую ўладу. Была нават спроба назваць новую краіну «Заходняя Беларусь», але гэтая прапанова не прайшла.

Сярод прыхільнікаў Жалігоўскага былі Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі і ксёндз Адам Станкевіч. Тарашкевіч займаў пасаду кіраўніка беларускага сектара ў дэпартаменце асветы ўрада Сярэдняй Літвы. У 1921 г. А. Луцкевіч стварае Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, а Б. Тарашкевіч — Таварыства беларускай школы (ТБШ). Былі створаны віленская беларуская гімназія і беларуская настаўніцкая гімназія ў Барунах (Ашмяншчына). Вясною 1921 г. у Сярэдняй Літве дзейнічала 186 беларускіх школ.



**Кіраўнік беларускага сектара ў дэпартаменце асветы Сярэдняй Літвы Браніслаў Тарашкевіч**

Пільна сачыў за падзеямі ў Вільні і Янка Купала. У газеце «Звон» у 1919 годзе выходзіць яго артыкул «Уваскрашэнне польскага універсітэту ў Вільні», у якім ён называе Вільню спрэчным горадам, на які заяўляюць свае правы тры дзяржавы — Польшча, Літва і Беларусь.

Спрачаючыся ў Лізе Нацый з Літвою за Віленшчыну, Польшча хацела даказаць, што са сваімі нацыянальнымі меншасцямі яна абыходзіцца сумленна. Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічала 400 беларускіх пачатковых школ, 7 поўных школ і тры настаўніцкія семінарыі. Часткова фінансавалася беларуская культурная дзейнасць і нават беларускі нацыянальны друк. У Сярэдняй Літве існавала самастойная судовая сістэма. Краіна, аднак, залежала ад грашовых крэдытаў польскага ўрада, а эканоміка — ад стану гаспадаркі Польшчы і польскай грашовай адзінкі — маркі. У 1921 г. быў распрацаваны праект электрыфікацыі, існавала 432 прамысловыя і каля 1370 дробных прадпрыемстваў.

Аднак большасць насельніцтва краіны займалася сельскай гаспадаркай. Да 1923 г. на Віленшчыне быў выдзелены 961 зямельны ўчастак для пасялення польскіх каланістаў-асаднікаў. 6470 гаспадарак,

што належалі былым вайскоўцам і дзеячам розных арганізацый, дадаткова атрымалі ў сярэднім па 2,5 га зямлі на кожную гаспадарку. Набываць зямлю маглі толькі тыя сяляне, якія былі палякамі альбо запісваліся імі, бо належалі да каталіцкай царквы. Некаторыя вёскі рассялялі на хутары.



Генерал Стэфан Макрэцкі, выканавец абавязкаў старшыні Часовай кіраўнічай камісіі Сярэдняй Літвы.

Пасля захопу Жалігоўскім Віленшчыны Літва разарвала дыпламатычныя адносіны з Польшчай і да верасня 1939 г. знаходзілася з ёю ў стане вайны. Літву падтрымаў ковенскі ўрад БНР на чале з В. Ластоўскім, а таксама Масква. 9 студзеня 1921 г. былі прызначаны выбары ў сойм новай дзяржавы, але супраць выступіла Ліга Нацый, якая прыняла рашэнне правесці тут плебісцыт і хацела ўвесці замежныя войскі.

Аднак гэтае рашэнне аспрэчылі літоўцы і бальшавікі. Адбыліся перамовы ў Бруселі і Жэневе. Міністр замежных спраў Бельгіі Гіманс прапанаваў Віленшчыну аддаць Літве, як аўтаномную вобласць, і ўключыць Літву ў вайсковы і эканамічны саюз з Польшчай (чым не саюзная дзяржава сённяшняй Расіі і Беларусі?). Але Літва ад такога варыянту адмовілася.

Польшча пастаянна ціснула на Жалігоўскага, патрабуючы найхутчэйшага ўключэння Сярэдняй Літвы ў склад Польшчы. 16 студзеня 1921 г. выканаўцам абавязкаў старшыні Часовай кіраўнічай камісіі быў прызначаны лаяльны да Польшчы генерал Стэфан Макрэцкі родам з маёнтка Дзітрыкі Лідскага павета, які перад гэтым пэўны час камандаваў 1-ым корпусам войска Сярэдняй Літвы і кіраваў баявымі дзеяннямі на літоўскім фронце ажно да замірэння. Стэфан Макрэцкі выконваў абавязкі старшыні Часовай кіраўнічай камісіі да прызначэння 21 лістапада 1921 г. на пасаду старшыні Аляксандра Мяйштовіча. 30 лістапада 1921 г. Жалігоўскі перадаў Мяйштовічу ўсю ўладу і выехаў з Вільні ў Польшчу.

Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні ў канцы 1921 г. адмовіўся ад удзелу ў выбарах 8 студзеня 1922 г. і абвясціў байкот. Байкот у сваіх мэтах падтрымлівалі і мясцовыя літоўцы. У выніку ў выбарах

удзельнічала 64,4% выбарцаў, якія абралі толькі «прапольскіх» дэпутатаў. 20 лютага 1922 г. новы сойм Сярэдняй Літвы прыняў рашэнне аб далучэнні да Польшчы, і Ліга Нацый яго падтрымала. 24 сакавіка гэтае рашэнне пацвердзіў польскі сойм, і дзяржава спыніла сваё існаванне.

6 красавіка Сярэднюю Літву пераўтварылі ў Віленскую зямлю на правах ваяводства. У снежні 1925 г. Віленскую зямлю назвалі Віленскім ваяводствам, у якім 9 паветаў складалі землі, дзе пераважала беларускае насельніцтва. Аднак успаміны пра Сярэднюю Літву яшчэ жылі сярод мясцовых жыхароў. Напрыклад, у 1926 г. у Гародні Каміла Макрэцкая напісала паэму «1919 год, альбо Песня пра літоўска-беларускія дывізіі», дзе панавалі мясцовыя «краёвыя» настроі.

У верасні 1939 г. у сталіцу Заходняй Беларусі Вільню ўвайшлі савецкія войскі, і ўвесь Віленскі край збіраўся ўвайсці ў склад БССР. Аднак 10 кастрычніка савецкі ўрад перадаў Вільню і частку Віленшчыны (7120 км$^2$ з 457 000 жыхароў) Літве. Даведаліся ж аб гэтым беларусы толькі 1 лістапада 1939 г., пасля выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі. 2 лістапада ў Вярхоўным Савеце СССР камісар замежных спраў Вячаслаў Молатаў на гэты конт сказаў наступнае: «Віленскі край належыць да Літвы не па сваім насельніцтве. Мы ведаем, што большасць насельніцтва ў гэтым раёне — не літоўцы. Але гістарычная мінуўшчына і памкненні літоўскага народа шчыльна звязаныя з горадам Вільняй, і ўрад СССР палічыў неабходным пайсці насустрач гэтым маральным меркаванням».

У савецкія часы пра Сярэднюю Літву, у адрозненне ад Літ-Бела, не згадвалі ў школьных і універсітэцкіх падручніках. І толькі зараз гістарычная праўда вяртаецца да нас.

# Як мяняліся нашы межы ў XX ст.

**На пачатку XX ст. канчаткова склалася этнаграфічная тэрыторыя Беларусі, якая была зафіксавана паводле перапісу 1897 г. Існавалі і пэўныя геаграфічныя і гістарычныя цэнтры беларускай тэрыторыі, якія былі месцамі, дзе гадавалася і дзейнічала нацыянальная эліта. У першую чаргу гэта Вільня і Менск. Таксама можна далучыць да іх Полацк, Віцебск, Магілёў, Смаленск, а таксама некаторыя іншыя гарады, асабліва на Захадзе Беларусі. Гэта Гродна, Беласток, Слонім і Брэст.**

Аднак у XX ст. найбольш спрэчак адбылося вакол Вільні, Смаленска і Беластока — гарадоў, якія адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні беларускага менталітэту ў пераломныя моманты нашай пакручастай гісторыі.



**Вільня. Панарама Старога горада. Фота А. Суткуса, 1981 г.**

Усе беларускія філолагі, гісторыкі і пісьменнікі канца XIX – пачатку XX ст., асабліва пасля перапісу 1897 г., лічылі Вільню, Смаленск і Беласток беларускімі гарадамі. Гэта было зафіксавана Адамам Кіркорам у «Жывапіснай Расіі» (Т. 3. 1882) і Яфімам Карскім на адпаведных мапах. Перад пачаткам і ў ходзе Першай сусветнай вайны немцы таксама аднеслі гэтыя гарады да Беларусі і лічылі іх беларускімі.

У XX ст. гістарычны лёс то ўключаў іх у склад беларускіх палітычных утварэнняў (БНР, БССР ці Літ-Бел), то выводзіў іх адтуль. Прычым калі бальшавікі перадавалі іх у склад іншых краін ці рэспублік, то кіраваліся не жаданнямі іх насельніцтва ці нейкімі рэферэндумамі або плебісцытамі (доўгі час рэферэндумы ў СССР былі проста забароненыя), а надзённымі палітычнымі выгодамі.

Пасля нямецкай акупацыі Беларусі, асабліва пасля «Брэсцкага міру», у канцы 1918 г. у палітычнай гісторыі Беларусі на першае месца выходзіць Смаленск, дзе апынулася шмат беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку і Янка Купала.

Менавіта тут 30 ліпеня 1918 г. Заходняя Камуна — вобласць Расійскай — абвясціла сябе БССР. Гэта было зроблена на IV Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП(б), якая аб'явіла сябе першым з'ездам КП(б) Беларусі. Межы краіны былі вызначаны ў той жа дзень. На падставе этнічнай тэрыторыі рассялення беларусаў 31 снежня першы з'езд КП(б) абвясціў Сацыялістычную Савецкую Беларускую Рэспубліку ў Смаленску. У пачатку студзеня сябры беларускага ўрада сустрэліся з Янкам Купалам.



**Фрагмент нямецкай мапы пачатку XX ст., дзе Вільня і Беласток паказаны як беларускія гарады. Таксама ў Беластоку паказана канцэнтрацыя яўрэйскага насельніцтва**

2 студзеня 1919 г. месцам выхаду маніфеста аб ССБР



Руская мапа канца XIX ст.

абвяшчаецца Менск. 3 студзеня новы ўрад выехаў у Менск. 4 студзеня ў смаленскай газеце «Известия» выйшаў артыкул Максіма Гарэцкага «Ніхай жыве комуністічная Беларусь!».

Аднак ужо 16 студзеня ў Менск паслалі А. Іофе з мэтай падзелу ССРБ і ўтварэння Літ-Бела. У якасці буфера ён прапанаваў стварыць Літоўскую і Беларускую рэспублікі. Каб у БССР было менш нацыяналізму, вырашылі адабраць у яе Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні. 23 студзеня Смаленскі губкам абвясціў пра выхад з БССР.

2–3 лютага 1919 г. Першы з’езд Саветаў БССР пагадзіўся з выхадам з рэспублікі трох усходніх губерняў і згадзіўся на аб’яднанне з Літоўскай Савецкай Рэспублікай. 17–21 лютага 1919 г. адбыўся Першы з’езд Саветаў Літвы.

27 лютага 1919 г. утварыўся рабоча-сялянскі ўрад і ўзнікла новая Савецкая Сацыялістычная Літоўска-Беларуская Рэспубліка (Менская,



Смаленск у першай палове XVIII ст. (паводле Г. А. Ластоўскага)

Віленская, Гарадзенская і частка Ковенскай губерні) са сталіцай у Вільні.

Такім чынам, на змену Смаленску і Менску прыходзіць Вільня. Сталіца знаходзіцца там з 27 лютага да 28 красавіка 1919 г. 28 красавіка ўрад Літ-Бела пераехаў у Менск, а Вільню захапілі палякі. Другі раз Вільня стала савецкай у верасні 1939 г., а наступны раз — у ліпені 1940 г.

У 1920 г. бальшавікі дораць частку Беларусі Літве і Латвіі, якіх хочуць скарыстаць як саюзнікаў у змаганні з Польшчай. Спачатку 12 ліпеня 1920 г. быў падпісаны дагавор з Літвой, паводле якога Вільня і значная частка былой Віленскай губерні, населенай беларусамі, перадаваліся Літве. З іншых буйных гарадоў літоўцам перадавалася Гродна. У верасні ў Вільні ўжо знаходзіліся літоўскія войскі, але 9 кастрычніка іх выбілі адтуль войскі генерала Жалігоўскага, якія налічвалі 52 тысячы салдат. Літоўскі ўрад адступіў у Шаўляй (Шаўлі), а Жалігоўскі абвясціў стварэнне марыянеткавай дзяржавы «Рэспубліка Сярэдняя Літва» і правёў выбары ў мясцовы сойм. У лютым 1922 г. Сярэдняя Літва далучылася да Польшчы.

11 жніўня 1920 г. бальшавікі прызнаюць Латвію і перадаюць ёй тры паветы: Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі, заселеныя ў асноўным беларусамі. Узамен яны атрымалі права карыстацца латвійскімі партамі Лібавай і Віндавай і магчымасць выгодна гандляваць з Захадам. У маі–чэрвені 1921 г. Латвія перадала Літве гарады Мажэйкяй

і Палангу з ваколіцамі агульнай плошчай 200 км$^2$. У адказ Літва перадала Латвіі кавалак тэрыторыі ў ваколіцах Дзвінска агульнай плошчай 299 км$^2$, заселенай пераважна беларусамі. Колькасць беларусаў, спрадвеку жыўшых на сваёй зямлі, якія апынуліся ў Латвіі, павялічылася.

У 1920 г. адноўленая БССР складалася толькі з шасці паветаў былой Мінскай губерні. Таму кіраўніцтва рэспублікі пачало змагацца за вяртанне забраных гарадоў і тэрыторый. Ужо восенню 1920 г. гэта пытанне ўзняў Сакратар ЦК КПБ Кнорын. У верасні 1922 г. кіраўніцтва БССР паставіла гэта пытанне афіцыйна і абгрунтавала ўзбуйненне інтарэсамі абароны. Вялікая рэспубліка лепей абароніць заходнія межы СССР. Масква пагадзілася, але мясцовыя бюракраты, як правіла небеларусы, былі супраць. Вёска была за ўз’яднанне. Там праходзілі валасныя сходы, дзе за гэта галасавалі.

7 сакавіка 1924 г. БССР атрымала 15 паветаў. Вярнуліся гарады Полацк, Віцебск і Магілёў. Аднак аддалі далёка не ўсе землі, заселеныя беларусамі. Напрыклад, былы Мсціслаўскі павет (уезд) разрэзалі напалам, і такія мсціслаўскія мястэчкі, як Хіславічы і Пачынак, засталіся ў Расіі.

У жніўні 1926 г. беларусы папрасілі ў Маскве вярнуць Гомельскую губерню і тры паўднёвыя паветы Пскоўскай губерні з гарадамі Невель, Веліж і Себеж.

У снежні 1926 г. вярнулі толькі Рэчыцу і Гомель. У канцы 20-ых гг. ішлі перамовы аб вяртанні вышэйзгаданых паветаў разам з некаторымі паветамі Смаленскай губерні, нават надрукавалі адпаведную мапу ў «Звяздзе». Аднак неўзабаве пачаліся сталінскія рэпрэсіі, і ўсё спынілася.

У 1937 г. узнікла ідэя перанесці сталіцу БССР з Менска ў Магілёў. У Магілёве ўжо збудавалі новы Дом урада, але надышоў 1939 год, і сітуацыя кардынальна змянілася. 17 верасня гэтага года пачалося далучэнне да БССР і СССР Заходняй Беларусі, якую ў сакавіку 1921 г. бальшавікі аддалі Польшчы.

Вільня зноў стала беларускай, але не надоўга. Надышло 10 кастрычніка. У Вільні ўжо некалькі тыдняў знаходзілася Чырвоная Армія. Пачалі выходзіць беларускія газеты. Па начах арыштоўваюць беларускіх нацыяналістаў, якія нядаўна віталі прыход савецкіх войскаў і марылі пра ўваход у склад Беларусі. Ратуюцца як могуць польскія вайскоўцы і чыноўнікі, а таксама яўрэйская буржуазія. І вось раніцай Вільня прачнулася ў новай краіне — Літоўскай рэспубліцы. На вуліцах літоўскія жаўнеры і паліцэйскія. Асабліва

ўразіла віленчукоў форма літоўскіх паліцыянтаў і іх мова, на якой ніхто не размаўляў.

У савецкіх газетах надрукавана тлумачэнне Молатава, які прызнае, што ў Вільні і Віленскім краі ў большасці сваёй не жывуць літоўцы, аднак яго перадаюць Літве праз палітычныя выгоды для СССР. Кропка. Вільні больш няма на мапах Еўропы. Але з'явіўся Вільнюс.

Давайце ўявім сабе на хвіліну, што расійскую сталіцу Санкт-Пецярбург захапілі немцы і перадалі яе суседняй Фінляндыі, а новыя гаспадары далі гораду новую, зусім нязвыклую для славянскага вуха назву. Гэта прыкладна тое самае, што адчуваюць немцы, калі замест «Кёнігсберг» чуюць «Калінінград».

Вось як успамінае гэтыя кастрычніцкія дні ў Вільні 1939 г. адзін з беларускіх інтэлігентаў, жыхароў тагачаснай Вільні (правапіс аўтара цытаты):

*«22 кастрычніка 1939 года ў Вільню прыехалі начупыраныя, як пеўні, летувіскія паліцыянты, і хто ўцалеў ад арыштаў, той застаўся ў жывых. НКВД перад сваім адыходам грабіла, што можна было грабіць, ды вывозіла на ўсход...*

*28 кастрычніка летувіская паліцыя поўнасцю асадзіла места. Насіла яна сінія шынялі, чырвоныя адзнакі, з чырвонымі акалышкамі шапкі, ды гутарылі выключна па-жамойцку. Дзеля іх пацешнага выгляду ды незразумелай мовы віленчукі дасьціпна празвалі іх «калакутасамі» — індыкамі. На другі дзень у Вільню*

Сталінскі падарунак Літве ў 1939 г.






БССР у 1940 г.

*ўвайшла брыгада летувіскага войска, а за ім сьпяшаліся сотні «шаўлісаў», каб заняць цёплыя пасады.*

*Жамойцкія збройныя аддзелы ўвайшлі ў Вільню як чужыя ў чужы горад. У месцы тады ня было й 2% летувіскага жыхарства й яно гублялася ў славянскім моры. Дзеля гэтага й іхняга войска ніхто не сустракаў, ніхто не вітаў.*

*Хутка пайшлі новыя парадкі. Старых жыхароў, палякаў і беларусаў, выкідалі з гарадской управы, чыгункі, прадпрыемстваў і ўстановаў, школьніцтва, адміністрацыі. Іх месца займалі малапісьменныя наезьнікі. Хутка яны павывешвалі свае шыльды, пазмянялі назовы вуліцаў на свой лад. Зразу ўвялі жамойцкую мову ўва ўсе ўрады і ўстановы. Цяпер Вільня сталася нямой: усюды патрэбны быў перакладчык. Людзі наракалі, клялі, бунтаваліся, што ня могуць згаварыцца ў сваім родным месцы ў сваіх самых пільных жыццёвых справах».*

📖 Малецкі, Я. Пад знакам Пагоні / Язэп Малецкі. — Таронта, 1976.

Цікава, як бы выглядала Вільня зараз, каб засталася ў складзе БССР? Вось як гэта бачыць Зянон Пазьняк, дзед якога Янка Пазьняк да вайны жыў у Вільні (правапіс аўтара цытаты):

*«Зрэшты, каб з 1939 года яна (Вільня. — А. Т.) засталася б беларускай ды была б адноўленая (што меркавалі) як сталіца Беларусі, ды размясціўся б там ЦК КПБ з усімі сваімі аддзеламі ды функцыянерамі, ды ці засталося б тады што ад нашай прыўкраснай Вільні? Паразбуралі б касцёлы, пазносілі б старыя вуліцы, паўзрывалі б помнікі культуры, усё згадзілі б, збэсцілі, нават замкавую гару Гедыміна скапалі б чыноўнікі ад гарсавету і архітэктуры і ўтварылі б на яе месцы возера ці станцыю метро, як у Менску. Разбудавалі б Вільню на 2 мільёны жыхароў, наставілі б гігантаў вялікай хіміі, пассякалі б лясы, навезлі б прышлай «рабочай сілы» і ганарыліся б брыдотай і дуротай.*

*І ўсё ж душа шчыміць. Шчыміць перад бацькоўскім домам».*

📖 Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэння. Кн. 1. — 2007. С. 15.

Разам з Вільняй часова вярнуўся ў склад Беларусі і Беласток. Беласток стаў савецкім у верасні 1939 г. Менавіта тут адбыўся народны сход прадстаўнікоў Заходняй Беларусі, які прыняў рашэнне аб уваходжанні ў СССР і БССР. Беласток быў цэнтрам вобласці БССР да лета 1944 г., калі Сталін перадаў яго камуністычнай Польшчы разам з часткай Белавежскай пушчы, каб быў лес для адбудовы Варшавы. Дарэчы, летам 1944 г. мы ледзь не страцілі Полацк і Полацкую вобласць, але пра гэты крыху пазней.

У 1939 г. узніклі тэрытарыяльныя спрэчкі з Украінай на поўдні Заходняй Беларусі. У лістападзе гэтага года Хрушчоў хацеў далучыць да Украіны гарады Брэст, Пружаны, Столін, Пінск, Кобрын і Лунінец.

**Беласток (паводле «Геаграфіі» А. Смоліча)**



22 лістапада Панамарэнка і Хрушчоў абмеркавалі гэта пытанне са Сталіным. Хрушчоў спаслаўся на Налівайку і Багдана Хмяльніцкага. якія ў XVI–XVII стст. прэтэндавалі на Паўднёвую Беларусь. Аднак Сталін паслухаў Панамарэнку і сказаў, што лічыць Брэст (Літоўскі) і Белавежу ўкраінскімі несур'ёзна.

Новая пагроза ўзнікла ў жніўні 1944 г., калі Маленкоў з Хрушчовым задумалі далучыць Полацк да Расіі. 14 жніўня адбылася нарада ў Сталіна, на якой Панамарэнка даказаў, што Полацк разам з вобласцю з'яўляецца беларускім.

*«У таварыша Панамарэнкі былі тры аргументы, якія і перамаглі ў спрэчцы са Сталінам. Першы быў у тым, што Полацк ужо даўно, больш за 20 гадоў, быў у складзе савецкай Беларусі. Другі, ён вельмі цікавы, — Полацк з'яўляецца радзімай вялікага беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Але самым істотным было тое, што Беларусь і так ужо тэрытарыяльна пацярпела: аддалі Літве некалькі раёнаў, цяпер збіраюцца аддаць Польшчы Беласточчыну, а калі аддадуць і Полацк, дык беларусы гэтага ніяк не зразумеюць і моцна пакрыўдзяцца. Сталін падумаў і пагадзіўся».*

Зенькович, Н. Чья Белоруссия? Границы. Споры. Обиды. — М., 2000.

Трэба сказаць, што ў жніўні 1940 г., калі незалежную Літву ператварылі ў ЛССР, Сталін перадаў ёй яшчэ адзін кавалак Заходняй Беларусі з гарадамі Свянцяны, Салечнікі і Друскенікі. За валоданне Друскенікамі літоўскія і беларускія бальшавікі спрачаліся некалькі месяцаў, але



Сталін мяняе межы краінаў

перамаглі літоўцы. Такім чынам, яшчэ каля дзвюх тысячаў квадратных кіламетраў беларускай тэрыторыі ўвайшлі ў склад Літоўскай ССР.

10 жніўня 1945 г. быў прыняты закон аб Савецка-Польскай мяжы. Згодна з ім Польшча атрымала амаль усю былую Беластоцкую вобласць і два раёны Брэсцкай вобласці з гарадамі Беласток, Аўгустаў, Бельск, Ломжа, Гайнаўка і іншымі. У 1950 г. Польшча атрымала дадаткова яшчэ некалькі беларускіх вёсак. Такім чынам, Беларусь стала адзінай краінай — заснавальніцай ААН і пераможцам у вайне з фашызмам, якая страціла частку сваёй этнічнай тэрыторыі.

У часы кіравання Мікіты Хрушчова, які ў 1954 г. ласкава перадаў Крым ад Расіі Украіне, існавалі планы перадачы БССР Калінінградскай вобласці РСФСР. На картах малявалі «калідор» для беларусаў да Балтыйскага мора праз Літву і Польшчу. Пры гэтым Гародню хацелі аддаць Літве. Але гэтыя планы не здзейсніліся, а ў выніку БССР атрымала ў 1964 г. восем вёсак на Усходзе, якія далучыліся да Мсціслаўскага раёна.

У снежні 1991 г. на мапе Еўропы з’явілася незалежная Рэспубліка Беларусь у межах 1964 г. Аднак напрыканцы існавання СССР пытанне аб беларускіх межах узнялося зноў. Прэзідыум ВС БССР паставіў пытанне аб лёсе Вільні. Была прынятая адпаведная заява. Маўляў, калі Літва выходзіць з СССР, то Беларусь будзе прэтэндаваць на Віленскі край. Маскоўскія стратэгі таксама палохалі літоўскіх незалежнікаў планамі стварэння ў Віленскім краі польскай аўтаноміі, накшталт Прыднястроўскай рэспублікі. Была спроба арганізаваць узброены канфлікт на беларуска-літоўскай мяжы, калі невядомыя расстралялі літоўскіх мытнікаў. Аднак пасварыць паміж сабой літоўцаў і беларусаў (па ўзоры армянска-азербайджанскага канфлікту) не атрымалася.

У гэты ж час спрабавалі зрабіць нейкую «яцвяжскую» аўтаномію са сталіцай у Пінску. У гэтым горадзе нават выдавалі газетку на невядомай мове (на грунце заходнепалескага дыялекту беларускай мовы). Аднак і гэта авантура з трэскам правалілася. У жніўні–верасні 1991 г. некаторыя маскоўскія палітыкі выказваліся ў тым сэнсе, каб Беларусь аддала Расіі Віцебшчыну і частку Магілёўшчыны.

Пасля абвяшчэння незалежнасці паўстала пытанне аб дакладным вызначэнні межаў Беларусі. За савецкім часам была вызначана толькі адна мяжа — з Польшчай. Гэта былая мяжа СССР з калючым дротам. Потым былі вызначаны межы з Латвіяй і Літвой. Аднак з Літвой узніклі спрэчкі за валоданне чыгуначнай станцыяй Гадуцішкі, якая знаходзілася быццам на літоўскай тэрыторыі, але ў савецкія

часы ўваходзіла ў склад Беларускай чыгункі. Толькі восенню 1994 г. беларускі бок, які раней патрабаваў ад Літвы грашовую кампенсацыю за выкарыстанне станцыі, перадаў яе Літве бязвыплатна. 26 кастрычніка 1996 г. Беларуссю быў ратыфікаваны дагавор аб Беларуска-Літоўскай мяжы. Дамова юрыдычна вызначыла і замацавала дзяржаўную мяжу на аснове «савецкай» лініі 1940 г.

З Украінай дэлімітацыя мяжы ў асноўным зробленая, але пакуль не падпісаная. Самыя нявызначаныя межы Беларусі — з Расіяй. Я думаю, што ў гэтым пытанні ў самы бліжэйшы час узнікнуць праблемы, асабліва калі будзе ўведзеная прыватная ўласнасць на зямлю. У якасці прыкладу прывяду інфармацыю, якая з’явілася ў СМІ ў канцы ліпеня 2007 г. Леснікі нацыянальнага парка «Себежскі» ў Пскоўскай вобласці Расіі заявілі, што іх беларускія калегі з Верхнядзвінскага лясгаса seклі лес на расійскай тэрыторыі. Як высветлілася, у беларускага боку таксама былі паперы на гэтую тэрыторыю. Да таго ж бакі выявілі пяць участкаў лесу, якія ўвогуле нікому не належалі. Вырашылі, што на гэтых тэрыторыях лес секчы не будзе ніхто (Народная воля. — 2007. — 26 ліп. — № 119–120).

Зразумела, што сёння межы ў Еўропе недатыкальныя. Гэта — палітычны аспект праблемы. Але як быць з рознымі інтэрпрэтацыямі межаў, тэрыторыяў у падручніках, навуковых даследаваннях, шматлікіх мапах, што выдаюцца ў розных краінах?

Гэтыя мапы нам проста трэба ведаць. Для гэтага і існуе гістарычная думка, каб былі спрэчкі, канферэнцыі, дыспуты. Не трэба шыла хаваць у мяшку, бо яно можа каго-небудзь і ўкалоць. Гісторыя сведчыць, што нічога нязменнага няма. У тым ліку і межаў. Як бы мы ні хацелі, але межы мяняліся, мяняюцца і будуць мяняцца. Іншая справа, як гэта будзе адбывацца. Так, у Еўропе адбыўся зусім унікальны выпадак падзелу Чэхаславаччыны. Чэхі і славакі селі за стол і ўсё падзялілі пабратэрску. Ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзіяў паміж імі зараз няма, а мяжа адкрытая. Іншы выпадак — распад Югаславіі. Мы бачылі, колькі крыві там пралілося. З гэтай нагоды вельмі важна мець гістарычнае абгрунтаванне і паважаць іншы бок.

Калі мы ставім перад сабой мэту зноў далучыцца да сваёй страчанай культуры і гістарычнай спадчыны, то самая цывілізаваная перспектыва для Беларусі — гэта ўвайсці ў Еўрасаюз. Тады ў Вільню ці Беласток мы будзем ездзіць без візаў. Самае галоўнае, каб мы ведалі сваю гісторыю і яе помнікі, маглі наведваць нашы гістарычныя гарады без візаў і перашкодаў.

# Аповед пра невядомыя войны




**У пачатку 2006 г. «Издательство АСТ» (Россия, Республика Тува) пад рубрыкай «Невядомыя войны» выдала кнігу Анатоля Тараса «Войны Московской Руси с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV–XVII вв.».**

**Гэта салідны том аб’ёмам 50 друкарскіх аркушаў і накладам 3000 асобнікаў вельмі хутка выклікаў цікавасць сярод аматараў беларускай гісторыі. Рэцэнзентам гэтага навукова-папулярнага выдання з’яўляўся беларускі гісторык і дыпламат, былы старшыня Таварыства дружбы «Беларусь — Польшча» Леанід Лойка. Паспрабуем і мы пагартаць гэтую цікавую і арыгінальную кнігу і выказаць сваю думку наконт некаторых навуковых гіпотэз і фактаў, пададзеных на яе старонках.**

Для напісання сваёй працы аўтар выкарыстоўвае грунтоўныя публікацыі гісторыкаў XIX, XX і пачатку XXI ст. з розных краін. Сярод іх пераважаюць рускія і беларускія крыніцы, ёсць таксама польскія, украінскія і літоўскія. Істотным недахопам з’яўляецца тое, што назвы ўсіх беларускамоўных і, магчыма, некаторых украінамоўных публікацый у спісе літаратуры А. Тарас чамусьці прывёў у рускім перакладзе, а гэта недапушчальна. Тым больш, што шмат якія публікацыі, напрыклад Міколы Ермаловіча, на рускую мову яшчэ не перакладаліся.

Варта зазначыць, што аўтар не ўзгадвае ў гэтым спісе працы знакамітых беларускіх гісторыкаў Міколы Улашчыка і Анатоля Грыцкевіча, археолага Георгія Штыхава — аўтара шматлікіх школьных падручнікаў па гісторыі Беларусі, пісьменнікаў Уладзіміра Арлова, Вольгі Іпатавай, Канстанціна Тарасава і іншых. Пры гэтым шмат якія яго высновы, а таксама ілюстрацыі супадаюць з

іх публікацыямі. Такія адносіны да сваіх папярэднікаў наўрад ці можна вітаць.

Слабае веданне сучаснай беларускай археалогіі і этналогіі прыводзіць аўтара да розных памылак і недакладнасцей. Напрыклад, на стар. 11 ён піша, што ў Полацкае княства ўваходзіла сённяшняя Мінская вобласць. Насамрэч паўднёвая Міншчына з яе гарадамі Слуцкам і Клецкам — гэта землі дрыгавічоў, якія ніколі не належалі Полацкай дзяржаве.

На стар. 13 А. Тарас адзначае, што ў антычныя часы на тэрыторыі Беларусі жылі кельты, але гэта ніяк не пацвярджаецца вынікамі археалагічных даследаванняў. Вядома, нейкія сувязі з кельтамі праз гандаль і іншыя кантакты ў мясцовых плямёнаў (балцкіх і раннеславянскіх) былі. Але сцвярджаць, што тыя трывала жылі на нашай зямлі, ніяк не выпадае.

Аўтар прытрымліваецца версіі, што слова «Літва» паходзіць ад «Люцічы» і спачатку мела форму «Лютва». Версія цікавая, але варта было б разгледзець і іншыя тлумачэнні гэтай назвы, асабліва зробленыя літоўскімі гісторыкамі, і паспрачацца з імі.

Даволі арыгінальная думка аўтара наконт таго, што ў старажытнасці слова «літва» адносілася да баявой дружыны, прычым аргументацыя грунтуецца на аналізе беларускага і рускага фальклору.

Аўтар таксама абыходзіць пытанне балцкага (некаторыя лічаць — фіна-угорскага) племені Літва і тэрыторыі яго рассялення. Дастаткова толькі прыгадаць спрэчкі паміж Ермаловічам і Улашчыкам аб месцазнаходжанні летапіснай Літвы.

Апавядаючы пра паходжанне беларускага герба «Пагоня», аўтар прыводзіць толькі адну версію, ігнаруючы іншыя. У першую чаргу гэта працы Міхася Ткачова, які падрабязна тлумачыць гістарычнае паходжанне гэтага слова.

Ігнаруе аўтар і працу Алеся Белага «Хроніка Белай Русі», прысвечаную паходжанню тэрміна «Белая Русь». Згадваецца чамусьці толькі праца Вітаўта Чаропкі, беларускага пісьменніка, які прафесійным гісторыкам не з’яўляецца.

Пра беларусаў-ліцвінаў, жыхароў Смаленшчыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны, згадваюць ужо рускія крыніцы XVII ст. Невыпадкова, што, захапіўшы ў 1772 г. Усходнюю Беларусь, Кацярына II стварыла «Беларускую губерню», у якую часткова ўвайшлі вышэйзгаданыя землі. Пра беларусаў пісалі і некаторыя рускія пісьменнікі яшчэ першай паловы XVIII ст.

Варта адзначыць, што спачатку беларусамі рускія называлі сялян і мяшчан, беларускую шляхту называючы літвою ці палякамі. І гэта, відаць, не выпадкова. Рэч Паспалітая — канфедэрацыя «двух народаў» — палякаў і ліцвінаў. Але тады народам называлі толькі шляхту. Сяляне і мяшчане народам не былі, бо не мелі права галасаваць на сойміках і соймах. Таму невыпадкова, што ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. ліцвінамі былі Касцюшка, Адам Міцкевіч (яго радзіма — гэта «мая Літва»), Радзівілы, Сапегі і г. д. Іх сяляне не мелі нацыянальнасці да адмены прыгону ў 1861 г., і таму менавіта яны сталі першымі беларусамі ў канцы XIX ст.

Аднак, згодна з перапісам 1897 г., беларусамі ўжо называліся і прадстаўнікі нашай шляхты, прычым сярод усёй шляхты яны складалі большасць. Дарэчы, менавіта з дробнай шляхты выйшлі ідэолагі беларускага адраджэння і новай беларускай нацыі Францішак Багушэвіч і Янка Купала. Таму нельга пагадзіцца з аўтарам, які на стар. 19 сцвярджае, што «толькі пасля 1945 г., дзякуючы русіфікатарскай палітыцы партыйнага кіраўніцтва СССР і БССР, тэрмін «беларусы» паступова распаўсюдзіўся і ў сельскай мясцовасці».

Большасць жыхароў Беларусі ўсвядомілі сябе беларусамі яшчэ ў 1897 г. падчас перапісу, а потым дзякуючы абвяшчэнню БНР 25 сакавіка 1918 г. У 1921 г. у Рызе прадстаўнікі бальшавіцкай Расіі і Польшчы ўжо добра ведалі, што яны дзеляць па-жывому менавіта беларускі народ. Іншая справа, што ў БССР, асабліва ў 20-ыя гг. XX ст., нацыянальнасць «беларус» была канчаткова замацавана, а ў Заходняй Беларусі рабілася ўсё, каб зменшыць колькасць нацыянальна свядомых беларусаў. Таму і з'явіліся тады на Палессі «тутэйшыя», а шмат каталікоў запісалася палякамі. Частка іх нашчадкаў лічыць сябе палякамі і зараз, але роднай мовай называе беларускую.

Нельга пагадзіцца з аўтарам у тым, што сённяшнія літоўцы (летувісы) не мелі сваёй пісьменнасці. Мелі, пачынаючы з XVI ст., але гэта была мова літоўскага касцёла, бо пасля таго, як жмудзінаў і іншых балтаў ахрысцілі ў XIV ст., яны не разумелі казань у касцёле ні на латыні, ні па-польску. Таму на іх мове ў першую чаргу стваралі рэлігійныя тэксты. І толькі Данелайціс у канцы XVIII ст. канчаткова зрабіў гэтую мову літаратурнай, агульнай для нашчадкаў аўкштайтаў і жмудзінаў.

Але аўтар мае рацыю ў тым, што архіўных дакументаў часоў ВКЛ на гэтай мове не вядома. Таму і называе большасць літоўскіх гісторыкаў старажытнабеларускую мову ВКЛ «канцылярскай». Але сённяшні

літовец на гэтай мове — мове «літоўскіх» князёў — у адрозненне ад беларуса нічога не зразумее. Вельмі падрабязна аўтар спыняецца на ўзнікненні ВКЛ і яго ранняй гісторыі. На яго думку, першы князь, а потым кароль дзяржавы, Міндоўг быў яцвягам, што вельмі спрэчна.

Памыляецца А. Тарас, калі піша, што нашу старадаўнюю сталіцу Вільню (стар. 41) Сталін падарыў літоўцам вясной 1940 г. Гэта адбылося ў кастрычніку 1939 г. Іншая справа, што ў 1940 г. да Літоўскай ССР было далучана яшчэ некалькі раёнаў БССР, у тым ліку і славуты горад-курорт Друскенікі.

Трэба сказаць, што князь Гедымін ніяк не мог заваяваць на Падляшшы горад Гайнаўку, бо гэты горад узнік зусім нядаўна. На стар. 42 аўтар паведамляе, што горад Віцебск у 947 г. заснавала кіеўская княгіня Вольга, але ніякіх доказаў у падтрымку гэтага гістарычнага міфа ён не прыводзіць.

Блытаецца аўтар кнігі пры апісанні нашчадкаў князя Гедыміна. На стар. 44 ён адзначае, што ад старэйшага сына Гедыміна Манвіда пайшлі вядомыя рускія арыстакратычныя роды, напрыклад Булгакавы і Галіцыны. Але на суседняй стар. 45 піша, што Манвід, які памёр у 1343 г., дзяцей не меў.

Ёсць памылкі і пры апісанні старажытнай Гародні. Так, А. Тарас паведамляе, што Давыда Гарадзенскага пахавалі «каля сцяны Барысаглебскага манастыра» (стар. 55). Але ў той час гэтага манастыра яшчэ не было, ён узнік у XV ст., быў драўляны і нейкіх асаблівых «сценаў» проста не меў. Аднак ёсць паданне, што Давыда пахавалі каля Барысаглебскай Каложскай царквы, збудаванай у XII ст.

Недакладнае і апісанне гарадзенскага дзядзінца, пазней мураванага замка. У XII ст. гэта быў адзіны дзядзінец на Беларусі, які меў не толькі драўляныя, але і мураваныя ўмацаванні — сцены, складзеныя з тонкай цэглы-плінфы. Рэшткі гэтых сцен прасочаны падчас раскопак, і А. Тарас прыводзіць на стар. 55 іх рэканструкцыю (праўда не згадваючы аўтара). Потым, у XIII ст. сярод гэтых умацаванняў з'яўляецца мураваная круглая вежа — стоўп ці «данжон». Менавіта так выглядаў гарадзенскі замак у час князя Давыда. На стар. 53 спадар Тарас паведамляе, што мураваны замак пабудаваны тут пасля 1398 г., але на стар. 89 піша, што Ягайла яшчэ ў 1390 г. захапіў у Гародні спачатку драўляны горад (Ніжні Замак), а потым мураваны Верхні Замак (якога тады яшчэ не існавала).

Памыляецца аўтар кнігі, калі піша, што зараз беларускія татары кампактна пражываюць у Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці

(стар. 89). На самай справе гэта Іўеўскі раён Гродзеншчыны. Менавіта тут, у Іўі, існавала адзіная ў БССР мячэць. Зараз татары маюць свае храмы не толькі ў Іўі, але і ў Слоніме, Навагрудку, Смілавічах і іншых населеных пунктах Беларусі.

Вельмі добра апісана ў кнізе Грунвальдская бітва і ўдзел у ёй беларусаў. Дарэчы, аўтар нядаўна быў на Грунвальдскім полі. Там па-ранейшаму няма ніякіх згадак пра беларусаў, але ёсць дзяржаўны сцяг Літоўскай рэспублікі.

А. Тарас падрабязна асвятляе ўстойлівы міф пра ўдзел у бітве «трох рускіх смаленскіх палкоў». На самай справе гэта беларускія палкі з Оршы, Мсціслава і Смаленска. Акрамя іх згадваюцца яшчэ 17 харугваў з тэрыторыі сённяшняй Беларусі, у тым ліку з Менска і Полацка.

Каштоўнасць кнігі ў тым, што палітычная і ваенная гісторыя Беларусі і Расіі падаецца паралельна, пры гэтым маецца інфармацыя пра гісторыю Лівоніі, Польшчы, Швецыі, Крымскага ханства, Украіны і некаторых іншых суседзяў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Кніга змяшчае шмат ілюстрацый і цытат з публікацый як рускіх, так і беларускіх гісторыкаў розных часоў, палітычных поглядаў і кірункаў. Вельмі добрая, лаканічная і даступная мова кнігі, шмат кароткіх біяграфій розных асоб.

Шкада толькі, што А. Тарас нічога не піша пра беларускага гісторыка Лаўрэна Абэцэдарскага і яго паслядоўнікаў, якія замацавалі ў школьных і універсітэцкіх падручніках, і нават у акадэмічных выданнях савецкай пасляваеннай Беларусі, шмат тых міфаў, якія ён грунтоўна абвяргае. Толькі адзінкі тады змагаліся з імі. Гэта Мікола Улашчык, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч і Міхась Ткачоў (калі не лічыць публікацый беларускай эміграцыі).

Вельмі падрабязна апісана Лівонская вайна. Адзінае, што можна дадаць, гэта тое, што частка Лівоніі, якая стала калоніяй ВКЛ, засталася ёю і пасля стварэння Рэчы Паспалітай, была агульнай уласнасцю Кароны і ВКЛ да 1795 г. (т. зв. кандамініум). Пры апісанні Люблінскай уніі варта было б расказаць пра захоп Польшчай Падлесся і пра шляхецкі рэферэндум на Украіне. У выніку яго Мазырскі павет выйшаў са складу Кіеўскага ваяводства і назаўжды застаўся ў складзе ВКЛ.

Вельмі дакладна сфармуляваў спадар Тарас вынікі Лівонскай вайны для насельніцтва Прыбалтыкі. «Поўнае разграбленне Лівоніі маскавітамі і жахлівыя здзекі з насельніцтва выклікалі ўсеагульную нянавісць жыхароў Прыбалтыкі да маскавітаў. Праз 130 год гэтыя

пачуцці абнавілі войскі Пятра I, якія ўварваліся ў Эстляндыю, Ліфляндыю і Курляндыю. Усе 20 год Паўночнай вайны рускія салдаты зноў рабавалі і палілі, гвалтавалі і забівалі жыхароў гэтых краін. Прайшло яшчэ 180 год, і ў 1940 г. сюды рушылі матарызаваныя орды «чырвоных рускіх», следам за якімі прыйшлі камісары НКУС. Зноў пачаліся рабаванні (зараз ужо пад лозунгам ліквідацыі гарадской і вясковай буржуазіі), зноў пачаліся пакаранні смерцю і высяленні. Між іншым, сучасныя рускія, не жадаючы нічога ведаць аб злачынствах, неаднаразова зробленых іх продкамі, вельмі крыўдзяцца на «коварных и неблагодарных» прыбалтаў: “За что они так не любят русских?”» І да гэтых слоў Анатоля Тараса нельга нічога дадаць.

Значную частку кнігі займаюць падзеі XVII ст. у Расіі, т зв. «Смутное время». Аўтар вельмі падрабязна расставіў палітычныя акцэнты і зрабіў вельмі дакладныя высновы з падзей тых далёкіх часоў. Цытую: «Але маскавіты што ў XVII ст, што ў XX былі і застаюцца перакананымі, што адказнасць за любыя дзеянні прыватных асоб з іншых краін нясуць улады гэтых краін. Па сённяшні дзень яны адстойваюць сваю ўлюбёную тэорыю змовы (хазараў, яўрэяў, татараў, масонаў, палякаў, каталіцкага касцёла, езуітаў, шведаў, немцаў, амерыканцаў, ісламскіх фундаменталістаў — патрэбнае падкрэсліць) супраць безабароннай Русі. Ва ўсім і заўсёды вінаватыя толькі замежныя ворагі і ўнутраныя «агенты ўплыву». Пры гэтым яны катэгарычна не жадаюць хоць зрэдку глядзець на сябе ў люстэрка».

Вельмі добра аўтар кнігі паказаў, як ужо ў пачатку XVII ст. разышліся ў розныя бакі беларуская і руская ментальнасці. З аднаго — заходняга — боку, гэта ментальнасць вольнага еўрапейскага чалавека, прадстаўніка краіны, дзе нават сяляне мелі асабістую свабоду. З другога — усходняга — гэта рабская ментальнасць азіята, нашчадка Залатой Арды, краіны, дзе чалавечае жыццё ніколі нічога не каштавала.

Прывядзём яшчэ адну цытату, у якой Анатоль Тарас тлумачыць, чаму каралевіч Уладзіслаў так і не стаў сапраўдным царом Масковіі: «Несумяшчальнасць еўрапейскай і азіяцкай ментальнасцяў не давала спадзяванняў на яго (план заняцця царскага пасаду Уладзіславам. — *А. Т.*) практычную рэалізацыю. Калі на троне не ўтрымаўся Ілжэдзмітры I, маскавіт па паходжанні, які добра ведаў нравы сваіх суайчыннікаў, то ў каралевіча, атрымаўшага еўрапейскае выхаванне, шанцаў было яшчэ меней. Русі быў патрэбны такі цар, як Пётр Вялікі, які змог бы змагацца з варварствам варварскімі метадамі».

У гэтыя часы ментальнасць беларусаў і палякаў, асабліва шляхты, была даволі блізкай, але рускія добра іх адрознівалі. Так, у грамаце Мініна і Пажарскага, якую яны ў 1611 г. разаслалі па ўсіх рускіх гарадах, гаворка ідзе пра польскіх і «літоўскіх» людзей (а не толькі палякаў) і нават пра «літоўскага», а не польскага караля.

Дарэчы, адным з кіраўнікоў войска акупантаў, які найдаўжэй за іншых сядзеў у Крамлі, быў беларус, мазырскі харунжы Восіп Будзіла са сваім палком. Менавіта ён, «палкоўнік Мазырскі», першым падпісаў 21 верасня 1612 г. адмову ад капітуляцыі на ўмовах князя Пажарскага. Дарэчы, ён напісаў успаміны аб аблозе Крамля і Масквы паўстанцамі ў 1611–1612 гг. Было б вельмі добра перакласці іх на беларускую мову і надрукаваць.

Дакладна раскрываецца ў кнізе А. Тараса і вельмі пашыраны міф пра Івана Сусаніна. Гэты міф быў прыдуманы ў пачатку XIX ст. і ўдасканалены кампазітарам Фёдарам Глінкам у 1836 г. Ён прыдумаў, што Сусанін завёў у лес вялікі польскі аддзел, дзе яны заблукалі і загінулі ад холаду і голаду. Самога ж Сусаніна палякі засеклі шаблямі. Паколькі Сусанін у Глінкі ратаваў цара, то яго опера атрымала назву «Жыццё за цара». У 1939 г. тэкст оперы перарабілі, і Сусанін ратаваў ужо не цара, Міхаіла Раманава, а жыхароў Кастрамы. У 1990 г. оперу зноў падправілі, і Сусанін зноў ратуе цара. Знайшлі нават месца падзеі, якой не было, — гэта Юсупаўскае балота, дзе паставілі помнік мужнаму рускаму селяніну.

Але гісторык Кастамараў лічыў, што Івана Сусаніна Багдашкава схапіла шайка звычайных бандытаў, т. зв. «воровских казаков», і замучыла яго з-за грошай. У 1619 г. селянін Багдан Сабенін звярнуўся да цара Міхаіла з заявай, што яго цесця Івана Сусаніна Багдашкава дапытвалі літоўскія людзі (беларусы. — *А. Т.*) на прадмет месцазнаходжання цара. Ніхто гэтыя факты не правяраў, але казка спадабалася цару і яго маці. Яны далі зяцю Івана грошы і грамату, дзе цесця аб'явілі героем.

У XIX ст. прозвішча Багдашкаў пераблыталі з імем па бацьку — Сусанін. Потым з'явіліся злосныя палякі, глухі лес і балота. У якасці сучаснага прыкладу згадаем міф пра Аляксандра Матросава.

Апошнія раздзелы кнігі прысвечаны вайне 1645–1667 гг., вайне, у якой загінуў ад рукі «братняга народа» кожны другі жыхар Беларусі і ВКЛ. Карыстаючыся працай Генадзя Сагановіча «Невядомая вайна» і іншымі пісьмовымі крыніцамі, аўтар вельмі падрабязна перадаў ход вайны, лёс насельніцтва Беларусі, страту ілюзій з боку праваслаўных

на абарону іх ад магнатаў і шляхты рускім праваслаўным царом. Падрабязна апісваецца гераічная абарона Мсціслава, Быхава, Слуцка і іншых гарадоў, паўстанне ў Магілёве і шырокі партызанскі рух супраць акупантаў на апошняй стадыі вайны. Пасля гэтай вайны мы страцілі кожнага другога беларуса, а ў некаторых мясцовасцях на ўсходзе да 70% насельніцтва.

Можна параіць аўтару зрабіць беларускамоўны варыянт кнігі і дадаць раздзел пра войны XVIII ст., асабліва пра лёс Беларусі падчас Паўночнай вайны.

Кніга спадара Тараса з'яўляецца вельмі сур'ёзным гістарычным даследаваннем, і я раю чытачам грунтоўна з ёй азнаёміцца.

# Польская гісторыя для беларусаў




**24 сакавіка 2006 г. у 212-ыя угодкі паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і напярэдадні чарговай гадавіны Дня Волі беларусаў — 25 сакавіка — польская амбасада наладзіла прэзентацыю кнігі «Нарыс гісторыі польскай дзяржавы і народа. IX–XXI стст.». Мэта выхаду ў свет гэтай кнігі — азнаямленне беларускага чытача з польскім пунктам погляду на мінулае Польшчы і цэлага акаляючага яе рэгіёну, тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.**

**Таксама гэта своеасаблівы водгук на кнігі нашых гісторыкаў Генадзя Сагановіча і Захара Шыбекі, выдадзеных у Польшчы на польскай мове пад агульнай назвай «Гісторыя Беларусі».**

**Рэдагаванне і ўкладанне тэксту кнігі зрабіў супрацоўнік польскай амбасады ў Мінску магістр Мар’ян Семаковіч, які мае беларускія карані і добра ведае беларускую мову.**

**Да выдання гэтай кнігі спрычыніліся: Міністэрства замежных спраў Польшчы, Польскі інстытут у Мінску і рэдакцыя варшаўскага выдавецтва «Дэмарт», якое падрыхтавала шыкоўныя і шматлікія каляровыя гістарычныя карты і выдала саму кнігу. Пераклала польскі тэкст на беларускую мову сп. Ганна Цішук.**

Начнём з XIV ст., калі была падпісана славутая Крэўская унія і нашы народы пачалі кантактаваць больш шчыльна. У раздзеле «Вытокі Літвы — будучай саюзніцы Польшчы» паведамляецца, што назва «Літва» паходзіць ад назвы балтыйскага племені літвінаў, якое насяляла ўзбярэжжа Балтыйскага мора ў басейне ракі Нёман. Такім чынам, наша летапісная Літва раптам перасялілася з ваколіц Маладзечна ці Навагрудка ў Жмудзь ці нават землі прусаў. Ёсць тут і вызначэнні тэрыторый «Чорная Русь» і «Белая Русь», якія ў асноўным адпавядаюць думкам нашых гісторыкаў.

Паведамляецца, што ў склад спрадвечнай (этнічнай) Літвы ўваходзілі два рэгіёны: Жмудзь на Ніжнім Нёмане і Аўкштота ў яго вярхоўях, а таксама Занямонне (колішнія землі яцвягяў).

Далей ідзе вызначэнне, якое цалкам адпавядае нашаму гістарычнаму бачанню гэтай праблемы. Цытую: «У шырокім гістарычным значэнні тэрмін «Літва» ўжываўся ў адносінах да ўсяго Вялікага княства Літоўскага, якое прыблізна займала тэрыторыю этнічнай Літвы і сённяшняй Беларусі». Праўда, аўтар тэксту сціпла прамаўчаў, што ў склад ВКЛ да 1569 г. уваходзіла Падлессе (Падляшша) і значная частка сённяшняй Украіны.

Даволі цьмяна апавядаецца пра дзейнасць Міндоўга. Сказана, што ў першай палове XIII ст. ён падпарадкаваў сабе Жмудзь і Аўкштоту і спрабаваў падпарадкаваць і Чорную Русь. Далей ідзе інфармацыя, што яго каранацыя адбылася ў 1252 г. у Наваградскім замку — у «тагачаснай літоўскай сталіцы». Аднак незразумела яго паходжанне і як ён апынуўся ў Наваградку.

Вельмі цікава ідзе гаворка пра дзейнасць Гедыміна. Падаюцца цалкам фантастычныя звесткі, што ён вызваліў ад мангола-татарскага прыгнёту Гарадзеншчыну, Наваградчыну, Берасцейшчыну, Менскую, Полацкую і Тураўскую землі. На Беларусі кожны вучань ведае, што мангола-татары ніколі не валодалі нашымі землямі.

Цікава адзначыць, што тут упершыню згадваецца пра тое, што літоўскія князі ў якасці дзяржаўнай выкарыстоўвалі рускую (старабеларускую) мову і нават карысталіся «рускім тытулам вялікага князя літоўскага». Аднак не патлумачана, якая ў іх была родная мова і чаму яны не пісалі па-літоўску, калі паходзілі з тэрыторыі сучаснай Літвы, калі верыць сённяшнім літоўскім гісторыкам. Вельмі цікавы і карысны для беларускага чытача трэці раздзел кнігі, прысвечаны дынастыі Ягелонаў, адной з наймагутнейшых дынастый Еўропы, якія акрамя Польшчы і ВКЛ займалі каралеўскія троны Венгрыі і Чэхіі.

Пры апісанні бітвы пад Грунвальдам беларускія войскі не згадваюцца, затое ёсць міфічныя рускія атрады. Відаць, маюцца на ўвазе «смаленскія палкі», якія ў той час ужо ўваходзілі ў склад агульнага войска ВКЛ пад кіраўніцтвам Вітаўта і дзе большасць складалі беларускія харугвы. Дарэчы, тут ёсць згадка пра выключную мужнасць трох смаленскіх харугваў, якія ніколі рускімі не былі.

Далей ідзе гаворка пра тое, што Уладзіслаў III Варненчык — старэйшы сын Ягайлы і яго чацвёртай жонкі «рускай» князёўны Софіі Гальшанскай (Сонькі). Цікава, калі рускія жылі ў Гальшанах і якое

паходжанне Соньکі Гальшанскай даюць літоўскія гісторыкі? А можа, нам адразу сказаць, што гэты чалавек — спачатку кароль Польшчы, а потым Венгрыі — быў этнічным беларусам, бо ўсходнеславянская кроў у яго жылах асноўная? Мы разумеем, што польскія гісторыкі пад словам «рускі» разумелі праваслаўных жыхароў Беларусі і Украіны на тэрыторыі ВКЛ, але зараз беларусам ад гэтага не лягчэй.

Наступны кароль Польшчы, ён жа вялікі князь літоўскі, таксама наш зямляк, бо Казімір IV Ягелончык — малодшы сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай. Менавіта ў яго гады праўлення Польшча і Беларусь дасягнулі свайго росквіту і пасля разгрому Тэўтонскага ордэна жылі адносна спакойна. Менавіта ў гады праўлення Казіміра і былі закладзены падваліны будучага «залатога веку» Беларусі, калі расквітнела наша мова і культура.

Такім чынам, мы можам спакойна сцвярджаць, што Ягелоны — гэта беларуская дынастыя, нават больш беларуская, чым Раманавы — руская, бо пачынаючага з Кацярыны II у жылах Раманавых было рускай крыві значна меней, чым у жылах нашчадкаў Ягайлы і Соньکі Гальшанскай беларускай.

Ягелоны добра ведалі старабеларускую мову і актыўна карысталіся ёю, тым больш што ў Польшчы дзяржаўнай мовай была мёртвая лацінская мова і карыстацца ёю ў побыце не было вялікай патрэбы. Такім чынам, міф канца XIX – пачатку XX ст., што беларусы — мужыцкая нацыя Еўропы, павінен як мага хутчэй адысці ў нябыт.

Вельмі цікава ідзе гаворка ў кнізе пра славутую Аршанскую бітву. Як і пад Грунвальдам, беларусаў там не было.

Цытую... «У тым жа годзе (1514. — *А. Т.*) польскія, літоўскія і рускія войскі пад камандаваннем літоўскага гетмана Канстанціна Астрожскага здабылі бліскучую перамогу над маскоўскімі войскамі пад Оршай: польска-літоўская армія налічвала толькі каля 30 тысяч чалавек, у тым ліку 3 тысячы палякаў, маскоўская ж армія — каля 80 тысяч».

Вось дзе праца для беларускіх гісторыкаў і дыпламатаў. Грунвальд і Орша павінны атрымаць беларускую прысутнасць ва ўсіх еўрапейскіх падручніках гісторыі.

Пішучы пра Люблінскую унію, укладальнік замест вызначэння «беларуская і літоўская» шляхта піша пра нейкую «літоўска-рускую» шляхту, якая паступова паланізуецца. Зноў мы бачым росквіт старога міфа, што беларусы — гэта сялянскі народ і сваёй шляхты ў яго не было.

Але калі пад Оршай беларусаў не было, то ў сценах Кракаўскай акадэміі з'яўляецца беларускі першадрукар Францыск Скарына.

Цікава, што ён не патрапіў у лік рускіх асветнікаў, хоць і пісаў «рускімі» літарамі. Адметны загаловак «Шведская дынастыя Вазаў на польскім троне» дае магчымасць існаваць і такому вызначэнню, як «беларуская дынастыя Ягелонаў на тронах еўрапейскіх манархій. Проста трэба нашым гісторыкам канчаткова адчуць сябе еўрапейцамі, людзьмі першага гатунку, роўнымі сярод роўных.

Аднак «рускія» і далей прысутнічаюць на старонках вышэйзгаданага твора. Так, на стар. 57 мы чытаем, што супраць Берасцейскай уніі выступіла частка рускага насельніцтва, у тым ліку праваслаўнае духавенства, шляхта і магнаты». Добра б было і знайсці выяву хоць аднаго рускага магната, ворага Берасцейскай уніі.

Вельмі вольна ў кніжцы блытаюцца тэрміны Польшча і Рэч Паспалітая, што далёка не адно і тое ж. Аднак шмат якія польскія гісторыкі ўпарта гэта не заўважаюць. Напрыклад, на стар. 66 напісана, што на карысць Расіі ў 1667 г. Польшча страціла Смаленскую, Чарнігаўскую, Северскую і частку Віцебскай зямлі (Смаленская і Віцебская землі ніколі не належалі польскай дзяржаве! — *А. Т.*).

Першы раз тэрмін Беларусь згадваецца ў гэтым раздзеле кнігі пад 1772 годам, калі паведамляецца, што Расія ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай забрала частку Інфлянтаў і Беларусь. Таксама паведамляецца, што гетман вялікі літоўскі Міхал Казімір Агінскі праславіўся не толькі як стваральнік канала паміж Нёманам і Дняпром, але і як фундатар率 опернага тэатра ў Слоніме. Далей гаворыцца, што Слонім сёння — горад у Беларусі.

На стар. 93 паведамляецца, што ў верасні 1793 г. на чале паўстання супраць расійскіх акупантаў стаў генерал Тадэвуш Касцюшка, які паходзіў з Мерачоўшчыны (сённяшняя тэрыторыя Беларусі). Гэты першы выпадак у кнізе, калі паведамляецца пра паходжанне знакавай постаці польскай гісторыі родам з Беларусі. У сувязі з гэтым хачу прыгадаць, што пішуць пра Касцюшку ў сённяшніх школьных падручніках па гісторыі Літвы. «Тадэвуш Касцюшка (1746–1817) нарадзіўся ў Навагрудскім ваяводстве (ВКЛ), у небагатай баярскай сям'і. Ён лічыў сябе літоўцам, як тады было прынята, казаў, што ён «беларускага паходжання, літоўскай нацыянальнасці». (Бразаускас, Ю. История Литвы от Люблинской унии до 1918 года : учебник для 8–9 классов / Юозас Бразаускас. — Каунас, 1996. — С. 127). Дарэчы, у гэтым літоўскім падручніку Рэч Паспалітая скрозь называецца як Польска-Літоўская дзяржава.

Варта адзначыць адну вельмі важную дэталь, якая пакуль не знайшла адлюстравання ў нашых падручніках гісторыі. На стар. 96

гаворыцца, што ў 1797 г. дзяржавы-інтэрвенты падпісалі ў Пецярбургу канвенцыю аб падзеле, на аснове якой ніхто з манархаў-падпісантаў не будзе афіцыйна карыстацца тытулам польскага караля.

Такім чынам, выказана палітычная воля знішчыць свабодную Рэч Паспалітую (а не Польшчу! — *А. Т.*). Далей аўтар адзначае, што поўная ліквідацыя дзяржавы ў тагачаснай Еўропе была незвычайнай з'явай, якая парушыла ўсе прынцыпы міжнародных зносін. Гэты момант варта ўнесці і ў нашыя сучасныя падручнікі.

Цікавым для нашых падручнікаў будзе і той факт (які ўтрымліваецца ў рэцэнзаванай кнізе), што генеральны соймік Літвы (маецца на ўвазе ВКЛ. — *А. Т.*) збіраўся ў Ваўкавыску ці Слоніме (сёння беларускія гарады). У раздзеле пра Літоўскія статуты адзначана, што І Літоўскі Статут 1529 г. укладаецца на афіцыйнай тады рускай (старабеларускай) мове. Такім чынам, польскія гісторыкі пачалі разумець, што мова Статутаў ВКЛ, і ў тым ліку ІІІ Статута, які дзейнічаў да 1840 г., — старабеларуская.

Цікава падаюцца вынікі падзелаў Рэчы Паспалітай. Расія адхапіла больш за ўсіх — 62% тэрыторыі і 45% насельніцтва, Прусія — адпаведна 20% і 23%, а Аўстрыя — 18% і 32%. Пасля перамогі над паўстанцамі Касцюшкі Кацярына ІІ падаравала сваім фаварытам і чыноўнікам каля 600 тысяч «мужчынскіх душ» захопленых сялян.

Сітуацыя палепшылася, калі Кацярыну змяніў Павел І. Ён аднавіў на Беларусі шляхецкае самакіраванне і вярнуў Статуту ВКЛ прававую сілу. Працягвалі дзейнічаць былыя соймікі, земскія суды, гарадское самакіраванне і правы для яўрэяў.

Як паведамляе ў сваіх успамінах Эдвард Вайніловіч (Наша слова. — 2006. — № 25), «яўрэі мелі шэраг пераваг, якія не сніліся не толькі каталікам, але і праваслаўным. Напрыклад, прыхадское самакіраванне, волю збораў у сінагогах для рашэння бягучых пытанняў, выключную ўладу ў сваіх кагалах, права навучання на роднай мове амаль без усялякага кантролю з боку дзяржавы, волю хатняга навучання і нават магчымасць выканання праз дзяржаўныя выканаўчыя органы сваіх пастаноў, напрыклад у адносінах да падатку кашэрнага і свячнога».

Аднак пра гэта нашыя падручнікі маўчаць. Цікава, што пасля захопу Беларусі Расіяй паланізацыя не паменшылася, а значна павялічылася. У васьмі заходніх губернях стварылі адукацыйную акругу з цэнтрам у Вільні. Яе куратарам стаў князь Адам Чартарыйскі, які з 1802 г. нават кіраваў знешняй палітыкай Расійскай імперыі.

Былую Віленскую акадэмію зрабілі універсітэтам, а ў якасці мовы навучання была захавана польская. Цэнтрам мясцовай культуры стаў маёнтак Залессе пад Смаргонню, які належаў князю Міхалу Агінскаму. Ён нават атрымаў назву «Паўночныя Афіны».

Сярод вялікай эміграцыі, якая пасля паўстання 1831 г. налічвала звыш дзесяці тысяч чалавек, было шмат «ліцвінаў», нашых землякоў, якія зараз трывала запісаныя ў палякі. Сярод іх Адам Міцкевіч і, што цікава, Ігнат Дамейка, які сябе палякам практычна не лічыў. Нават у яго навуковым дыпломе, які яму выдаў Кракаўскі універсітэт у 1887 г., было запісана, што ён «ліцвін».

Варта зазначыць, што ў раздзеле, прысвечаным літаратурна-мастацкаму кірунку 20-ых гг. XIX ст. — рамантызму, аўтар адзначае, што шмат якія польскія творцы гэтага перыяду паходзілі з Беларусі. Гэта А. Міцкевіч — з Завосся пад Наваградкам, Ю. Крашэўскі — з мястэчка Доўгае з-пад Пружан і С. Манюшка — з мястэчка Убель пад Менскам.

Пры апісанні падрыхтоўкі паўстання 1863 г. адзначаецца, што ў Літве і Беларусі дзейнічаў Літоўскі правінцыяльны камітэт, які быў у значнай ступені незалежным і самастойным ад Польскага нацыянальнага камітэта. Далей аўтар піша: «Найбольш вядомым яго прадстаўніком быў Кастусь Каліноўскі. Пад яго кіраўніцтвам у Гродне і Беластоку выдавалася «Мужыцкая праўда» — невялічкая падпольная газета на беларускай мове». У гэтым раздзеле аўтар адзначае, што для першых украінскіх, беларускіх і літоўскіх дэмакратаў думка аб вяртанні польскага панавання ў межах былой Рэчы Паспалітай была непрымальнай. Такім чынам, вытокі будучай незалежнасці Беларусі трэба шукаць у сярэдзіне XIX ст.

Цікавыя звесткі ёсць у раздзеле, прысвечаным русіфікацыі пасля паўстання 1863 г. Землі ўдзельнікаў паўстання, якія ў іх засталіся, былі спачатку абкладзены кантрыбуцыяй у памеры 10% ад даходу, а пазней — 5%. Яна выплачвалася да пачатку XX ст. Колькасць сярэдніх школаў на Беларусі была значна абмежавана. У канцы XIX ст. на ўсю краіну іх было толькі 20. Каб падрыхтаваць для іх педагагічныя кадры, у 1864 г. у Маладзечне была адкрытая настаўніцкая семінарыя, першая ўстанова такога тыпу ва ўсёй Расійскай імперыі. У 1859 г. у Вільні знішчылі ўвесь тыраж беларускага выдання «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча ў перакладзе Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

У развіцці польскага пазітывізму, асабліва на мяжы XIX–XX стст., калі з’явілася творчая плынь «Маладая Польшча», актыўны ўдзел

прынялі і нашыя землякі. Сярод іх Эліза Ажэшка, Станіслаў Манюшка, Уладзіслаў Сыракомля, славутыя мастакі-пейзажысты Фердынанд Рушчыц і Генрык Вайсенгоф, а таксама шматлікія навукоўцы.

Аўтар адзначае, што адраджэнне Польшчы як дзяржавы пачалося з акта 5 лістапада 1916 г., калі немцы і аўстрыйцы абвясцілі пра план стварэння ў будучыні польскай дзяржавы на забраных у Расіі польскіх землях. Аднак гэты план не датычыўся занятых немцамі Літвы, Курляндыі і Заходняй Беларусі. Тут была створана адміністрацыйная адзінка Обер-Ост, дзе польская, беларуская і літоўская мовы атрымалі статус афіцыйных. Такім чынам, беларускую мову можна было выкарыстоўваць у школах і культурна-асветных установах. Пры гэтым руская мова была фармальна выведзена з ужытку ва ўсіх дзяржаўных установах.

Цікава, што менавіта на нашай тэрыторыі, у Бабруйску, на мяжы 1915–1916 гг. была створана ў складзе расійскага войска польская вайсковая брыгада колькасцю каля 4 тысяч жаўнераў.

25 снежня 1916 г. цар Мікалай II абвясціў стварэнне аб'яднанай Польшчы. Неўзабаве яго падтрымалі ўрады Вялікабрытаніі і Францыі, а таксама прэзідэнт ЗША Вудра Вільсан.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., 27 сакавіка 1917 г. Петраградскі Савет рабочых дэпутатаў выдаў Дэкларацыю аб праве Польшчы на незалежнасць. Летам 1917 г. быў створаны Першы Польскі корпус на чале з генералам Юзафам Доўбар-Мусніцкім. У чэрвені 1917 г. у Францыі арганізавалі аўтаномную польскую Блакітную армію на чале з генералам Халерам. У яе ўступілі 20 тысяч палякаў з Канады, ЗША і Бразіліі. 3 красавіка 1918 г. урады Францыі, Вялікабрытаніі і Італіі падпісалі дэкларацыю аб стварэнні незалежнай Польшчы з выхадам да мора. 28 жніўня 1918 г. урад Савецкай Расіі ануляваў трактаты аб падзелах Рэчы Паспалітай. У лістападзе гэтага года Польская дзяржава канчаткова аднавілася. 11 лістапада адзначаецца польскае нацыянальнае свята — Дзень незалежнасці.

Не забыў аўтар і пра стварэнне 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі са сталіцай у Менску. Ён паведамляе, што Германія афіцыйна не прызнала Народны сакратарыят (урад) БНР, але не перашкаджала яго палітычнай і культурна-асветнай дзейнасці. Гаворыць ён і пра тэрытарыяльныя канфлікты ўкраінцаў і літоўцаў з палякамі, калі першыя абвясцілі свае дзяржавы.

Даволі цікава асвятляецца пытанне аб Польска-савецкай вайне 1919–1920 гг. Аўтар адзначае, што бальшавікі прызнавалі права польскага народа на самавызначэнне ў этнічных межах (на тэрыторыі да

лініі Буга). Аднак яны бачылі Польшчу як залежную ад іх дзяржаву пад назвай Польская Рэспубліка Саветаў.

28 кастрычніка 1918 г. мясцовае польскае насельніцтва стварыла самаабарону Літвы і Беларусі, але Чырвоная Армія заняла спачатку Свянцяны і Ліду, а ў пачатку 1919 г. і Вільню. Былі створаны спачатку Літоўская і Беларуская савецкія рэспублікі, якія потым былі аб'яднаныя ў адну — Літоўска-Беларускую. Праўда, аўтар памылкова лічыць, што гэта адбылося ў студзені 1920 г. (на самай справе гэта люты 1919 г. — *А. Т.*).

Дзяржаўная польская ўлада на чале з Ю. Пілсудскім неўзабаве стварыла рэгулярную армію, якая заняла спачатку Пінск, Баранавічы, Вільню, а ў ліпені 1919 г. Менск і дайшла да Бярэзіны і Бабруйска, дзе адбылася першая бітва польскіх танкавых войскаў. Аднак летам 1920 г. Чырвоная Армія на чале з генералам Міхаілам Тухачэўскім нанесла палякам на Беларусі контрудар, і ў канцы ліпеня бальшавікі былі ўжо пад Варшавай. Усё гэта прывяло да таго, што Польшча мусіла пагадзіцца з пастановамі канферэнцыі дзяржаў Анатанты і Германіі, што праходзіла 5–16 ліпеня 1920 г. у бельгійскім горадзе Спа. Палякі адмовіліся ад Вільні на карысць Літвы, а таксама ад беларускіх і ўкраінскіх зямель.

Аўтар адзначае, што ў бітве з бальшавікамі пад Варшавай 13–25 жніўня 1920 г. саюзнікамі палякаў былі і беларускія атрады генерала Станіслава Булак-Балаховіча. У палон трапіла звыш 60 тысяч чырвонаармейцаў. Падчас перамоў у Рызе бальшавікі нават хацелі аддаць палякам разам з Заходняй Беларуссю і Меншчыну, але польскі бок пабаяўся далучэння тэрыторый, дзе жыло шмат беларусаў.

Такім чынам, як слушна адзначае аўтар, падзел беларускіх і ўкраінскіх зямель перакрэсліў мары беларусаў і ўкраінцаў аб уласных незалежных дзяржавах. Некалькі слоў сказаў аўтар і пра існаванне марыянеткавай дзяржавы «Сярэдняя Літва». Незразумела толькі, чаму ён называе яе «Цэнтральнай Літвой». Аўтар адзначае тут ролю беларусаў у справе адукацыі і асветы.

Пасля прыходу да ўлады Юзафа Пілсудскага спачатку ў 1927 г. была разгромлена Беларуская сялянска-работніцкая грамада і арыштаваныя яе кіраўнікі, у тым ліку дэпутаты Польскага сейма Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі і іншыя. Пазней, у 1934 г. у Бярозе-Картузскай быў створаны ізаляцыйны лагер, куды ў парушэнні канстытуцыі Польшчы — без суда і следства — былі кінуты палітычныя праціўнікі афіцыйнай улады (гэта ад 200 да 350 чалавек). Варта звярнуць увагу на лічбы, звязаныя з нацыянальным

складам насельніцтва, якія прыводзіць аўтар. Паводле перапісу 30 верасня 1921 г., у Польшчы жыло 1 060 000 беларусаў (3,9% ад усяго насельніцтва краіны). Аднак праз 10 год па перапісу 9 снежня 1931 г. беларускую мову палічылі роднай толькі 989 900 чалавек, затое з’явілася унікальная «тутэйшая мова», на якой размаўляла 707 100 палешукоў. Аўтар адзначае, што ў некаторых выпадках афіцыйная статыстыка заніжала колькасць няпольскага насельніцтва, асабліва гэта датычылася ўкраінцаў і беларусаў. Жылі беларусы ў Наваградскім, Віленскім, Палескім і Беластоцкім ваяводствах.

31 ліпеня 1924 г. быў прыняты Закон аб ужыванні беларускай, украінскай і літоўскай моў ва ўстановах і школах усходніх ваяводстваў, які забяспечыў перавагу польскай мове і выклікаў абурэнне нацыянальных меншасцяў. Пасля смерці Пілсудскага сітуацыя толькі пагоршылася. Так, беларуская мова была амаль цалкам выведзена з ужытку ў сістэме школьнай адукацыі.

У БССР у 1932 г. быў створаны польскі нацыянальны раён са сталіцай у Дзяржынску (Койданава). Жыхары раёна атрымалі абмежаваную магчымасць развіваць сваю культуру і асвету, у тым ліку адкрываць школы з польскай мовай навучання. Аднак неўзабаве, у 1935–1938 гг. польская аўтаномныя раёны і культурна-асветніцкія ўстановы былі ліквідаваныя, а насельніцтва іх было рэпрэсавана. Трагічным сімвалам таго часу сталі Курапаты пад Менскам, дзе было расстраляна каля 100–200 тысяч ахвяраў.

Цікава пададзены і падзеі верасня 1939 г. Гаворыцца пра сумесны парад нямецкіх і савецкіх войскаў у Брэсце, які правялі генералы Гударыян і Чуйкоў. Дарэчы, Брэст быў захоплены фашыстамі яшчэ 13 верасня.

Нядаўна газета «Комсомольская правда в Белоруссии» ў сваім нумары ад 22 чэрвеня надрукавала новыя звесткі пра ваенныя падзеі ў Брэсце ў верасні 1939 г. Пасля 16 верасня асноўная польская залога адступіла з Брэсцкай крэпасці, але засталіся ваяваць з немцамі абаронцы аднаго з цвердзевых фартоў (форт Сікорскага) на чале з капітанам Радзішэўскім. Калі ў Брэст увайшлі савецкія войскі, Гударыян перадаў ім гэтую «праблему». 22 верасня чырвонаармейцы тройчы атакавалі форт, але ўзяць яго не здолелі. Гэта было зроблена толькі 26 верасня з дапамогай цяжкіх гармат. Такім чынам, акрамя баёў за Гродна быў бой і за Брэст.

У савецкі палон трапіла каля 250 тысяч польскіх салдат і афіцэраў. 29 лістапада 1939 г. усім жыхарам Заходняй Беларусі было нададзена

савецкае грамадзянства незалежна ад іх волі. Шкада, што аўтар нічога не расказаў пра вольны горад Гданьск, яго адміністрацыю, культурныя і эканамічныя дачыненні з тагачаснай Польскай дзяржавай.

Гады вайны пададзены ў кнізе даволі традыцыйна — гэтыя пытанні добра асветлены ў працах дэмакратычных беларускіх гісторыкаў, а таксама ў мемуарах і ўспамінах беларускай эміграцыі, непасрэдных удзельнікаў тых падзей. Шмат іх, былых грамадзян даваеннай Польшчы, было ў складзе арміі генералаў Андэрса і Берлінга. Нямала іх палегла, у прыватнасці, у бітве пад Монтэ-Касіна ў Італіі.

Пры апісанні наступстваў Другой сусветнай вайны аўтар, паведамляючы пра перадачу Польшчы ў 1946–1948 гг. некалькіх дзесяткаў беларускіх вёсак, не сказаў, як Сталін у 1944 г. падарыў польскім камуністам этнічныя беларускія землі на Беласточчыне разам з ладным кавалкам Белавежскай пушчы. Такім чынам, у выніку вайны Беларусь не набыла, а страціла частку сваёй тэрыторыі, нягледзячы на гераічную барацьбу яе народа супраць фашызму.

Аўтар прыводзіць цікавыя лічбы аб колькасці беларусаў у Польшчы пасля таго, як спала хваля эміграцыі. Напрыканцы 40-ых гг. XX ст. у Польшчы было каля 100 тысяч беларусаў, у канцы 50-ых — ужо каля 170 тысяч чалавек. А вось паводле апошняга перапісу насельніцтва ў дэмакратычнай Польшчы, беларусаў засталося толькі крыху болей за 50 тысяч. Цікава, куды падзеліся яшчэ 120 тысяч? Здаецца, масавай эміграцыі ў БССР не было. Ніякіх эпідэмій на Беласточчыне таксама не назіралася. Адказ на гэта пытанне можна знайсці на стар. 296, дзе на адпаведнай мапе пазначана колькасць беларусаў у Польшчы не меней за 200 000 чалавек.

Трэба аддаць належнае аўтару кнігі, які паведамляе, што дзейнасць узброенага антыкамуністычнага падполля ў Паўночна-Заходняй Польшчы была скіравана супраць праваслаўнага насельніцтва, у асноўным супраць беларусаў. Іх абвінавачвалі ў сімпатыях да СССР і новых польскіх уладаў, што прывяло да шматлікіх нявінных ахвяр. Пра гэтыя факты не раз пісала беластоцкая беларускамоўная газета «Ніва».

З твора нашага славутага земляка Адама Міцкевіча «Дзяды», які быў пастаўлены ў студзені 1968 г. на сцэне нацыянальнага тэатра ў Варшаве, пачаліся стыхійныя хваляванні студэнтаў. Яны падтрымалі антырасійскі кантэкст твора і параўналі яго з сучаснасцю. Улады забаранілі спектакль, і тады 8 сакавіка 1968 г. адбылася найбуйнейшая дэманстрацыя ў Варшаўскім універсітэце, якую жорстка пакаралі.

Трэба адзначыць, што менавіта Польшча была адной з першых краін свету, якая прызнала незалежнасць Беларусі. Аўтар даводзіць сваю гісторыю да восені 2005 г., калі быў абраны чарговы польскі прэзідэнт.

Такім чынам, беларускі чытач атрымаў цікавае і каштоўнае выданне па гісторыі суседняй дзяржавы вачыма саміх палякаў. Цяпер справа за беларускімі гісторыкамі, якія павінны напісаць гісторыі суседніх краін — самі, са сваіх гістарычных пазіцый, на сваёй роднай мове. Я памятаю, як у савецкія часы набыў вялікі том «Гісторыя Расіі». напісаны польскім гісторыкам па-польску. Гэта была зусім не тая гісторыя, якую я вучыў некалькі год на гістфаку БДУ. Таму застаецца толькі пажадаць аўтару новых, больш дасканалых і дапрацаваных выданняў сваёй кнігі.

P.S. Неўзабаве ў тым жа 2006 г. выйшла і другое выданне кнігі, папраўленае і дапоўненае.

# Ці скончылася чарговае беларускае Адраджэнне?



**Нядаўна пабачыла свет цікавая праца Сяргея Навумчыка «Сем гадоў Адраджэння, альбо Фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)». Кніга выйшла ў Варшаве за сродкі аўтара, накладам 1000 асобнікаў. Жанр кнігі — грамадска-палітычнае выданне, прадмову да яе напісаў Зянон Пазьняк. Кніга надрукаваная на добрай дыхтоўнай паперы, мае 54 ілюстрацыі (сярод якіх ёсць унікальныя фотаздымкі, што друкуюцца ўпершыню) і паказнік асобаў. Таму карыстацца ёй вельмі зручна.**

Кніга Навумчыка, журналіста па адукацыі, напісана добрай мовай, цікава і даступна. Разам з тым, Сяргей Навумчык праявіў сябе як прафесійны гісторык, бо ён выкарыстоўвае і друкуе ў якасці прыкладаў шмат першакрыніц, якія падабраныя грунтоўна і ў пэўнай паслядоўнасці. Праца падзеленая на асобныя раздзелы, якія маюць цікавыя назвы і ўяўляюць сабою аўтаномныя фрагменты кнігі. Пералічым толькі некаторыя з іх: «Праўда пра Курапаты», «Пагроза новага «саюзу», «Незалежнасць — вынік змагання пакаленняў», «Са сцягам, з «Пагоняй», але без гімну», «Тры падзеі аднаго дня», «Маладыя ваўкі» супраць незалежнасці», «Апошні шанец «парламентарызму».

Цікавасць гэтай кнігі ў тым, што яе напісаў непасрэдны ўдзельнік гістарычных падзей, што прынеслі Беларусі незалежнасць, народны дэпутат ВС ХІІ склікання, каардынатар парламенцкай апазіцыі на платформе БНФ. Гэта праца на «галаву» вышэйшая за адпаведныя ўспаміны Шушкевіча, Грыба, Лявонава і шматлікія публікацыі Аляксандра Фядуты. Яна пабудавана на канкрэтных пісьмовых крыніцах, і ў першую чаргу на стэнаграмах сесій Вярхоўнага Савета.

Навумчык шмат увагі звяртае на палітычную ролю беларускай мовы і сімволікі — асноўныя чыннікі беларускага Адраджэння і

дэмакратызацыі краіны. Упершыню падрабязна расказана, як узнікла і працавала парламенцкая апазіцыя ў ВС, пра яе структуру, стратэгію і тактыку дзеяння, перамогі і паразы. Вельмі важна, што Навумчык трапна аддзяляе аб'ектыўнае апісанне падзей ад сваіх асабістых уражанняў, эмоцый і гістарычных параўнанняў. І за гэта яму вялікі дзякуй.

Але я, як чалавек, які таксама непасрэдна прайшоў разам з Навумчыкам цярністы шлях да нашай незалежнасці, хачу выказаць некалькі заўваг і асабістых меркаванняў.

Пачнём са стварэння БНФ. Навумчык толькі згадвае пра «Камітэт-58». Варта сказаць, што гэта суполка беларускай гуманітарнай інтэлігенцыі ўзнікла ў пачатку гарбачоўскай перабудовы пры Беларускім аддзяленні Савецкага фонду культуры, які знаходзіўся ў адным з адноўленых дамкоў у Траецкім прадмесці. Кіраваў тады Беларускім фондам культуры пісьменнік Іван Чыгрынаў, які не надта спрыяў, але і не перашкаджаў дзейнасці вышэйзгаданага камітэта.

Таксама Навумчык, магчыма свядома, не сказаў, што з кастрычніка 1988 па сакавік 1989 г. кіраўніком Аргкамітэта БНФ «За перабудову і Адраджэнне» быў пісьменнік, камуніст Васіль Якавенка.

Пэўным недахопам працы з'яўляецца і сённяшні паказны антыкамунізм Сяргея Навумчыка, які быў не толькі членам КПСС, але і сынам прадстаўніка камуністычнай наменклатуры, сакратара Віцебскага абкама КПБ. Калі чытаем сённяшнія артыкулы Пазьняка і вышэйзгаданую кнігу Навумчыка, складваецца ўражанне, што ў аргкамітэт БНФ, а пазней у Сойм і апазіцыю БНФ у ВС уваходзілі толькі антыкамуністы ў дзесятым калене, на чале з Пазьняком. На самай справе ўсё было зусім наадварот. БНФ таму і збіраў сотні тысяч людзей, што спачатку гэта быў звяз дэмакратычных камуністаў і беспартыйных, асабліва ў 1988–1989 гг.

Беларусь мела самую вялікую кампартыю ў СССР (калі лічыць у прапорцыі на аднаго жыхара). Гэта — у лепшыя для камуністаў часы — 700–800 тысяч чалавек на 10 мільёнаў насельніцтва. Так, сярод сяброў Аргкамітэта БНФ было каля паловы камуністаў. Гэта Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Конан, Ніл Гілевіч, Міхась Дубянецкі, Адам Мальдзіс, Канстанцін Тарасаў, Міхась Ткачоў і іншыя. Аўтар гэтых радкоў наогул быў на момант уваходжання ў склад Аргкамітэта БНФ сакратаром адной з партыйных арганізацый КПСС (з васьмігадовым стажам) у Савецкім раёне Мінска.

Менавіта камуністы — сябры БНФ у першую чаргу зазналі ціск і рэпрэсіі з боку КПБ і КДБ. Некаторыя не вытрымалі, адышлі, але

большасць прайшла свой шлях да канца. Даволі вялікая колькасць дэмакратычных дэпутатаў-камуністаў у 1990 г. увайшла ў парламенцкую апазіцыю па платформе БНФ. Сярод іх можна назваць дэпутатаў Голубева, Крыжаноўскага, Заблоцкага, Папкова, Сямдзянаву і іншых. На першым з’ездзе БНФ намеснікамі Пазьняка былі абраны камуністы Юрась Хадыка і Міхась Ткачоў.

З развіццём падзей пачаўся масавы выхад з КПСС сяброў БНФ. Так, большасць камуністаў — сяброў апазіцыі БНФ пакінула шэрагі КПСС (і ў тым ліку і аўтар гэтага матэрыялу) летам 1990 г. Яшчэ адна хваля — гэта зіма 1991 г., пасля Віленскіх падзей у Літве. Тады пакінуў КПСС і Сяргей Навумчык. Некаторыя захоўвалі камуністычныя білеты да жнівеньскага путчу, праўда, дэпутатаў апазіцыі сярод іх ужо не было.

Выхад з КПСС і прычыны выхаду агучваліся на сесіях ВС, і сотні людзей, пачуўшы пра гэта, рабілі тое ж самае. Некаторыя нават публічна спальвалі свае партбілеты. Наменклатура нічога не магла зрабіць з гэтым масавым рухам. Дарэчы, шмат дэмакратычных камуністаў пераводзілі свае складкі ў чарнобыльскія фонды замест парткамаў.

Таксама Навумчык не распавядае, як БНФ з масавага руху стаў партыяй і да якіх сумных вынікаў гэта прывяло.

Варта адзначыць, што пасля абвяшчэння ў СССР летам 1990 г. шматпартыйнасці пачалі ўзнікаць першыя партыі і на Беларусі. Іх узначалілі альбо ўвайшлі ў склад кіраўнічых органаў сябры БНФ, што мелі ўжо неабходны палітычны досвед.

У сакавіку 1991 г. была створана БСДГ на чале з Міхасём Ткачовым. У яе кіраўніцтва ўвайшлі некаторыя дэпутаты апазіцыі і сябры Сойма БНФ. Пакуль БНФ быў рухам, усё было добра і ўсе ішлі разам.

У 1993 г. тыя сябры сойма, што засталіся беспартыйнымі, а таксама частка былых камуністаў вырашылі стварыць уласную партыю, але старую назву прыватызавалі. Сталі існаваць і БНФ-рух, і БНФ-партыя. Нічога добрага з гэтага не атрымалася, бо сябры БНФ, якія ўжо былі сябрамі іншых партый, у партыю БНФ увайсці не змаглі, і дэмакратычны рух на Беларусі раскалоўся.

Таму мусілі сацыял-дэмакраты разам з лібераламі вылучыць у прэзідэнты Станіслава Шушкевіча, бо сярод прыхільнікаў Пазьняка з партыі БНФ, якія ўжо бачылі сябе лідэрамі і збіраліся перамагчы Кебіча ў першым туры, ім месца ўжо не было. Я ў той час узначальваў БСДГ. Ні Пазьняк, ні яго намеснікі не вялі з намі ніякіх перамоў аб стварэнні

адзінай кааліцыі, бо мы ім былі тады не патрэбныя. Дарэчы, першым прапанавалі падтрымаць Шушкевіча Мікола Статкевіч і прадстаўнікі рэгіянальных структур БСДГ.

Зараз я бачу агульную памылку ў тым, што дэмакратычныя сілы ў 1994 г. не аб'ядналіся вакол Васіля Быкава і не ўгаварылі яго вылучыцца на прэзідэнта. Тады нашая перамога была б больш рэальнай.

Аб'яднанне БСДГ, БНФ, Сялянскай партыі і іншых палітычных сілаў адбылося пазней, падчас першых парламенцкіх выбараў у новы Вярхоўны Савет у маі 1995 г. Тады і трапіў у Вярхоўны Савет XIII скліканння адзіны беларускі патрыёт Павел Знавец, ад партыі БСДГ.

Не магу я пагадзіцца з Навумчыкам і ў тым, што беларускае адраджэнне скончылася практычна пасля ад'езду яго і Пазьняка за мяжу.

Змаганне за мову, гісторыю і культуру Беларусі не спынілася і зараз. Дастаткова толькі згадаць гераічны беларускі ліцэй, які адзін зрабіў болей, чым сотня новых апазіцыйных палітыкаў. Не спыняе сваёй дзейнасці ТБМ, ЗБС «Бацькаўшчына», ТБШ, незалежныя журналісты, беларускія пісьменнікі і мастакі. Я не сумняваюся, што нехта з маладых гісторыкаў, магчыма, адзін з выпускнікоў коласаўскага ліцэя, працягне працу Сяргея Навумчыка і апіша апошнія дзесяць год нашай трагічнай і гераічнай гісторыі.

Было б добра, каб Навумчык выставіў сваю кнігу ў інтэрнэце, тады доступ да яе будзе значна шырэйшы. Гэтую працу варта прачытаць кожнаму беларускаму гісторыку і журналісту, бо шмат якія міфы знікаюць, а замест іх нараджаюцца шматлікія пытанні наконт стратэгіі і тактыкі далейшага змагання за нашу Беларусь.

У 2007 г. Таварыства беларускай культуры ў Летуве выдала кнігу Зянона Пазьняка «Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1. Артыкулы і матэрыялы (1990 – III. 1996)». Гэта збор розных артыкулаў, выступаў і аналітычных матэрыялаў Зянона Пазьняка, апублікаваных у перыядычным беларускім друку ў перыяд, акрэслены ў назве кнігі. Вельмі цікавай для кожнага гісторыка найноўшай гісторыі Беларусі з'яўляецца другая частка кнігі, якая мае назву «Дадатак». Гэта унікальныя копіі розных дакументаў, артыкулаў, палітычных заяваў, зваротаў і мемарандумаў па тагачаснай беларускай палітыцы і культуры.

Такім чынам, кнігі Сяргея Навумчыка і Зянона Пазьняка трэба чытаць разам, каб лепей зразумець ходу гістарычнага працэсу.

# Успаміны міністра




**У той час, калі ў Варшаве выйшла кніга ўспамінаў Сяргея Навумчыка «Сем гадоў Адраджэння, альбо Фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)», у Маскве пабачыла свет кніга былога апанента апазіцыі, яскравага прадстаўніка беларускай савецкай партыйнай наменклатуры — Пятра Краўчанкі.**

Кніга атрымала назву «Беларусь на распутье, или Правда о Беловежском соглашении. Записки дипломата и политика». Праца Краўчанкі аб'ёмам 456 старонак выйшла ў выдавецтве «Время» накладам 3000 асобнікаў. Гэта літаратурна-публіцыстычнае выданне, і выйшла яно ў серыі «Дыялог». Аўтар выказвае асобную падзяку літаратарам Алегу Багуцкаму і Канстанціну Тарасаву. Вельмі добра, што ў канцы кнігі падаецца паказальнік імёнаў і кожную асобу можна хутка знайсці. Найбольш часта тут згадваюцца чатыры асобы: Ельцын, Кебіч, Лукашэнка і Шушкевіч. Праца П. Краўчанкі мае пяць асобных раздзелаў: «Пасол «Terra incognita», «Хроніка вялікага пералому», «Заклятая каманда», «Вокны ў свет» і «Як я быў апазіцыянерам».

Варта адзначыць дзве асаблівасці кнігі. Гэта значная колькасць беларускамоўных цытат і сказаў, якія абавязкова маюць падрадковы пераклад, і, нягледзячы на расійскія правілы напісання назвы нашай краіны як «Белоруссия», скрозь ідзе назва «Беларусь».

У сваёй кнізе Сяргей Навумчык назваў Пятра Краўчанку нацыянал-камуністам, і меў рацыю. Пётр Краўчанка паведамляе сваім чытачам, што ён стаў беларускім патрыётам дзякуючы сваёй бабулі, якая жыла ў вёсцы Літвінкі Вілейскага раёна. Кожнае лета, тры месяцы, ён жыў у бабулі і размаўляў па-беларуску. Краўчанка піша: *«Таму на ўсіх прыступках кар'ернай мясціны я заўжды адчуваў сябе не толькі савецкім чалавекам, але і беларусам. Думаю, што менавіта таму*

*крах савецкай сістэмы не адаслаў мяне ў палітычнае забыццё, як большасць калегаў-партыйцаў, а дазволіў знайсці годную справу на службе суверэннай Беларусі».*

Так сталася, што аўтар гэтага допісу ведае Пятра Краўчанку вельмі даўно, са студэнцкіх гадоў, калі разам вучыліся на гістарычным факультэце БДУ ў 1971–1972 гг. Я быў на першым курсе, а спадар Пётр — на пятым. Потым нашыя шляхі надоўга разышліся, і сустрэліся мы зноў у кастрычніку 1988 г., калі я ўвайшоў у аргкамітэт па стварэнні БНФ, а Краўчанка займаў пасаду сакратара Мінскага гаркама КПСС па ідэалогіі і мусіў са мной змагацца як са «шкодным элементам» і «пенай на хвалі перабудовы». Але было ў нас і агульнае. Гэта сяброўства ў КПСС і тое, што мы гаварылі па-беларуску. На той час я быў сакратаром партыйнай арганізацыі беларускіх рэстаўратараў, і мы былі першымі камуністамі ў Мінску, якія перавялі партыйнае справаводства на беларускую мову. Пра нас нават пісала партыйная газета «Звязда». У сакавіку 1990 г. мы разам сталі дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР ад г. Мінска. Я ад Савецкага раёна, а Краўчанка — ад Заводскага. Потым трапілі ў адну Камісію ВС па міжнародных справах, і я прысутнічаў на тым пасяджэнні камісіі, дзе Краўчанку рэкамендавалі на пасаду міністра замежных спраў БССР. Але, наколькі памятаю, за яго кандыдатуру я не галасаваў, што, аднак, нашых стасункаў зусім не сапсавала.

Яшчэ адна арганізацыя, якая злучыла нас з верасня 1989 г., — гэта ТБМ, дзе Краўчанка ўвайшоў у першую Раду ТБМ, а я ўзначаліў ТБМ Савецкага раёна Мінска і ад Рады ТБМ гэтага раёна быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты ВС БССР. Плённа працавалі мы з Пятром Кузьмічом, і калі ён стаў міністрам замежных спраў, а я — намеснікам старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і адначасова старшынёй Камісіі па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь.

Так, напрыклад, дзякуючы дапамозе Пятра Кузьміча мне ўдалося двойчы выдаць брашуру з каляровымі выявамі нашай спрадвечнай сімволікі (першы раз на трох мовах, а другі — на шасці), якую мы распаўсюдзілі па ўсіх беларускіх амбасадах і райвыканкамах Беларусі.

У 1995 г. Пётр Краўчанка па рэкамендацыі Міхася Чарняўскага быў прыняты ў шэрагі БСДГ (я тады ўзначальваў гэтую партыю) і быў вылучаны ад нашай партыі ў кандыдаты ВС трынаццатага склікання ў Маладзечна, дзе і перамог у другім восеньскім туры выбараў. Нават

з далёкай Японіі я атрымліваў прывітанні і новыя кнігі ад Пятра Кузьміча. Пасля вяртання Краўчанка адразу аднавіў сваё сяброўства ў ТБМ і зноў быў абраны ў рэспубліканскую Раду. Такім чынам, чытаючы кнігі Навумчыка і Краўчанкі, я зноў паглядзеў на нашую найноўшую гісторыю як «правым», так і «левым» вокам.

Вядома, не з усімі характарыстыкамі дзейных асобаў тых часоў, якія прыводзіць спадар Краўчанка, я магу пагадзіцца, і пра гэта хочацца сказаць некалькі слоў.

Пачнём з характарыстыкі кіраўніка беларускага КДБ Эдуарда Ширкоўскага. Гэта быў першы беларус на гэтай пасадзе, ён паходзіў са Стаўбцоўскага раёна і не забыў родную мову і сваю гісторыю. У свой час ён мужна выступіў разам з міністрам унутраных спраў Ягоравым супраць Кебіча, і каб Шушкевіч іх падтрымаў, разам з тым жа Краўчанкам, лёс беларускай гісторыі і дзяржаўнасці быў бы іншым. Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі Ширкоўскі адмовіўся ад усялякага супрацоўніцтва з новым рэжымам і пераехаў жыць у Маскву да дачкі, дзе і памёр.

Нельга пагадзіцца і з тым, як апісвае Краўчанка дзейнасць апазіцыі ў ВС падчас жнівеньскага путчу 1991 г. Цытую са стар. 134: *«Тады спалохаліся нават некаторыя лідары апазіцыі, адзін з якіх 19 жніўня хадзіў па парламенцкіх кабінетах і задаваў адно-адзінае пытанне: "Хлопцы, а дзе можна партыйныя складкі заплаціць?" Адкрыта супраць путчу выступалі толькі некалькі чалавек, у тым ліку, вядома, Зянон Пазьняк».*

У той дзень раніцай 19 жніўня першымі ў ВС прыйшлі менавіта дэпутаты апазіцыі. Прычым прысутнічалі ўсе, хто быў у той час у Мінску. Далей усе падзеі добра апісаў Сяргей Навумчык, і я не буду паўтарацца (Народная Воля. — 2006. — 26 жн. — № 136–137). Скажу толькі адно. Апошнія камуністы з ліку сяброў парламенцкай апазіцыі выйшлі з шэрагу КПСС публічна ў студзені 1991 г., пасля Віленскіх падзей, і таму я не раю спадару Краўчанку далей расказваць анекдот пра партыйныя складкі.

Не магу пагадзіцца і з цалкам адмоўнай ацэнкай фігуры Георгія Таразевіча, які займаў высокія пасады як у БССР, так і ў СССР у часы перабудовы. Варта адзначыць, што менавіта з дапамогай Таразевіча, які вельмі добра выступіў у верасні 1991 на сесіі ВС Беларусі, былі прыняты ў якасці дзяржаўных наш герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Перад гэтым я спецыяльна ездзіў у Маскву, дзе сустрэўся з Таразевічам і дамовіўся аб гэтым выступе. І Таразевіч не падвёў. Пасля

прыходу да ўлады Лукашэнкі Таразевіч быў нядоўгі час амбасадарам Беларусі ў Польшчы. Тады ён не пабаяўся прыняць мяне, і мы добра пагаварылі. Пазней Таразевіч перайшоў у апазіцыю, уступіў у БСДП «Народная Грамада» і быў доўгі час у кіраўніцтве гэтай апазіцыйнай партыі. Ён добра ведаў беларускую гісторыю і мову і памёр сацыял-дэмакратам.

Ёсць у кнізе Пятра Краўчанкі і пэўныя гістарычныя недакладнасці, напрыклад, на стар. 273 ён піша наступнае: *«Узгадваючы, напрыклад, пастанову польскага сойма 1697 года аб забароне выкарыстання ў дзяржаўным справаводстве беларускай мовы...»* Польскі (а тады гэта Каронны) сойм не мог загадаць ВКЛ змяніць сваю дзяржаўную мову. Гэта зрабіў сойм Рэчы Паспалітай, дзе былі дэпутаты і ад ВКЛ. Дарэчы, беларуская мова не была забаронена, але перастала быць дзяржаўнай. Напрыклад, магілёўскі магістрат карыстаўся беларускай мовай і пасля 1697 г. у сваёй працы, пра што сведчыць магістрацкія кнігі. Карысталіся беларускай мовай і ў XVIII ст. Дарэчы, калі Станіслаў Панятоўскі, апошні наш кароль, прыязджаў на Беларусь, яго віталі ў тым ліку і транспарантамі, напісанымі па-беларуску.

Вельмі добра ў кнізе пададзены адносіны Беларусі і Расіі. На стар. 295 аўтар піша: *«Нават самыя «празаходнія» нашы апазіцыянеры перад пачаткам любой перадвыбарчай кампаніі ездзяць у Маскву — па падтрымку і легітымізацыю свайго палітычнага статусу, як некалі ў Залатую Арду ездзілі па ярлык на княжэнне».* Лепей не скажаш. Можна толькі дадаць, што прыехаўшы з Масквы, пачынаюць на БТ размаўляць са сваім народам па-расійску. Чытаем далей (стар. 298): *«Хоць і марудна, у пакутах, у Беларусі фарміруюцца нацыянальныя кіраўнічыя эліты, якія бачаць сваю будучыню толькі ў суверэннай дзяржаве. Гэтыя людзі не хочуць ездзіць у Маскву па ярлык».* Шмат цікавага расказаў Пётр Краўчанка аб дзейнасці ВС 13-га склікання, асабліва пра падзеі восені 1990 г. і адстаўку Міхаіла Чыгіра.

Адзіны выхад з той сітуацыі, што склалася на Беларусі, Краўчанка бачыць у завяршэнні фарміравання беларускай нацыі і ў афармленні на гэтым грунце ўсіх атрыбутаў нацыянальнай дзяржавы. Квінтэсенцыю ідэі нацыянальнай дзяржаўнасці аўтар бачыць у дакладным паэтычным радку, які ён прыводзіць па-беларуску: ***«Каб ні Усходняй, ні Заходняй // Ты была — сама сабой».***

Застаецца толькі пажадаць аўтару перавыдаць гэтыя вельмі цікавыя для сучаснага гісторыка ўспаміны па-беларуску і дадаць фотаздымкі з архіўнымі дакументамі.

P. S. Прайшло крыху часу, і Пятро Краўчанка адгукнуўся на маю прапанову. У 2007 г. у Вільні Інстытут беларусістыкі перавыдаў яго кнігу па-беларуску ў серыі «Кнігарня «Наша Ніва». У адрозненне ад рускага выдання кніга мае і цікавыя ілюстрацыі з архіва аўтара.

# Мартыралог Вольгі Іпатавай




**Нядаўна вядомая беларуская пісьменніца і грамадская дзячка Вольга Іпатава ў выдавецтве «Кнігазбор» надрукавала сваю новую кнігу «Свабода да апошняга дыхання. Аповеды пра падарожжы».**

Спадарыня Вольга закранула вельмі цікавую і надзвычай актуальную тэму — тэму беларускіх могілак і асабліва пахаванняў знакамітых беларусаў, раскіданых не толькі па Беларусі, але і па розных кантынентах свету.

Тэма беларускіх могілак зацікавіла мяне даўно, бо, прафесійна вывучаючы старажытныя пахавальныя абрады нашых продкаў, я не мог не пацікавіцца гісторыяй могілак у XIX–XX стст. На працягу 10 апошніх гадоў, выкладаючы курс «Гісторыя архітэктуры Беларусі» ў розных ВНУ краіны, я даваў студэнтам заданне падрыхтаваць рэферат на тэму «Беларускія могілкі». Студэнт павінен апісаць могілкі той мясцовасці, дзе стала жыве ён і дзе пахаваны яго продкі. Пры гэтым трэба зрабіць фотаздымкі ці замалёўкі найбольш цікавых пахаванняў і надмагілляў. Маладыя людзі, асабліва дзяўчаты, якія яшчэ не думаюць пра смерць, а тым болей пра сваю, спачатку ставіліся да такога незвычайнага задання крыху разгублена. Як маладая дзяўчына будзе хадзіць з фотаапаратам па закінутых, зарослых хмызняком могілках ці рабіць там нейкія замалёўкі? Але, атрымаўшы падрабязныя інструкцыі, з ахвотай браліся за справу, падключалі да працы сваіх дарослых сваякоў, асабліва сталага веку.

І вось я маю сотні унікальных апісанняў беларускіх могілак: вясковых, мястэчковых, гарадскіх; каталіцкіх і праваслаўных, яўрэйскіх і татарскіх, вайсковых і шляхецкіх.

Але самае галоўнае, што студэнты не раз дзякавалі мне за тое, што ўпершыню ў жыцці прыйшлі на могілкі як даследчыкі і ўбачылі гісторыю Беларусі XIX–XX стст. праз пахаванні людзей.

Вялікая праблема была і ёсць з дапаможнай літаратурай. Гэтая тэма вельмі слаба распрацавана ў беларускіх даведніках і энцыклапедыях. Надзвычай мала і асобных выданняў. Можна назваць толькі кнігу пра Кальварыйскія могілкі ў Мінску, цікавую працу пра старыя могілкі ў Навагрудку, некаторыя газетныя і часопісныя публікацыі, прысвечаныя вайсковым могілкам Першай і Другой сусветных войнаў.

І вось мы маем кнігу Вольгі Іпатавай. Яна складзена з асобных самастойных публіцыстычных замалёвак, кожная з якіх прысвечана пахаванню таго ці іншага знакамітага беларуса. Расказваецца пра пахаванні мастакоў, навукоўцаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў, а таксама паўстанцаў Касцюшкі, удзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. і паўстання Каліноўскага.

Вольга Іпатава асабіста наведала гэтыя пахаванні, зрабіла каляровыя здымкі надмагілляў, якія надрукаваны ў кнізе. Асабліва добра паказана родная для пісьменніцы Гродзеншчына, могілкі Роса ў Вільні, заходняя Віцебшчына і Брэстчына. Ёсць апісанні пахаванняў знакамітых беларусаў у Канадзе і ЗША.

Прыемна, што спадарыня Вольга не забыла і пра сяброў ТБМ, рупліўцаў на ніве роднага слова, якія заўчасна пакінулі гэты свет. У кнізе змешчаны апавяданні пра магілу Марыі Мацюкевіч, салігорскай настаўніцы, стваральніцы мясцовай арганізацыі ТБМ, выдаўца газеты «Рагнеда», заснавальніцы шапіка ТБМ. Распавядае аўтарка таксама пра магілу Лявона Драздова на Лаўсанаўскіх могілках у Магілёве, які зусім нядаўна пайшоў ад нас. Спадар Лявон быў нязменным кіраўніком ТБМ на аб'яднанні «Хімвалакно», актыўным прапагандыстам роднай мовы на сваім прадпрыемстве.

У раздзеле «Тры крыжы ля Малога Ольжава» ідзе гаворка пра дзейнасць Лідскай арганізацыі ТБМ пад кіраўніцтвам Станіслава Судніка па ўшанаванні памяці паўстанцаў 1863–1864 гг. на Лідчыне. Не забылася Вольга Іпатава на стваральную працу Ады Райчонак, кіраўніцы Шаркаўшчынскага ТБМ, адной са стваральніц музея Язэпа Драздовіча ў вёсцы Германавічы. Цікава распавядаецца ў кнізе і пра краязнаўчую дзейнасць актывіста ТБМ, настаўніка з вёскі Луна Мастоўскага раёна Лявона Карповіча. З яго дапамогай пісьменніца расшукала магілу паўстанцаў 1863–1864 гг., апісаную Элізай Ажэшкай у рамане «Над Нёманам». Магіла гэтая ў вёсцы Багатырэвічы Мастоўскага раёна.

Такім чынам, у мартыралог Беларусі ўпісана новая каштоўная старонка.

# Спіс найбольш цікавай выкарыстанай літаратуры


1. Mironowicz, E. Białorusini w Polsce 1944–1949 / Eugeniusz Mironowicz. — Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1993.
2. Белы, А. Хроніка «Белай Русі». Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы / А. Белы. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2000.
3. Голденков, М. Русь — другая история / М. Голденков. — Минск: Современная школа, 2008.
4. Грыцкевіч, В. Гісторыя і міфы / В. Грыцкевіч. — Мінск: БелФранс, 2000.
5. Курлович, Г. История Латвии : учебник для основной школы / Г. Курлович, А. Томашун. — Рига, 2002.
6. Доўнар-Запольскі, М. В. Гісторыя Беларусі / М. В. Доўнар-Запольскі. — Мінск: Бел. Эн., 1994.
7. Ермаловіч, М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае / М. Ермаловіч. — Мінск: Беллітфонд, 2000.
8. Живописная Россия. Отечество наше в его зем., ист., плем, экон. и быт. значении : Литов. и Белорус. Полесье : репринт. воспроизведение изд. 1882 г. — Минск.: Бел. Эн., 1993.
9. Запруднік, Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях / Я. Запруднік. — Мінск: Беларускі фонд Сораса; ВЦ «Бацькаўшчына», 1996.
10. Зенькович, Н. А. Чья Белоруссия? Границы. Споры. Обиды / Н. А. Зенькович. — М.: МК – Периодика, 2002.
11. Ігнатоўскі, У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У. М. Ігнатоўскі. — 5-ае выд. — Мінск: Беларусь, 1991.
12. История имперских отношений : белорусы и русские. 1772–1991 гг. / сост. и ред. А. Е. Тарас. — Смоленск: Книжный клуб «Посох», 2008.
13. Казлоў, Л. Р. Беларусь на сямі рубяжах / Л. Р. Казлоў, А. К. Цітоў. — Мінск: Беларусь, 1993.
14. Ластовский, Г. А. История культуры Смоленщины с древнейших времен до конца XVIII века : учеб. пособие для школ Смоленской области / Г. А. Ластовский. — Смоленск, 1997.
15. Луцкевіч, Л. Вандроўкі па Вільні / Лявон Луцкевіч. — Вільня: Рунь. Выдавецтва Таварыства Беларускай культуры, 1998.
16. Міраповіч, Я. Найноўшая гісторыя Беларусі / Я. Міраповіч. — СПб.: Неўскі прасцяг, 2003.
17. Найдзюк, Я. Беларусь учора і сяньня : папулярны нарыс з гісторыі Беларусі / Я. Найдзюк, І. Касяк. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993.

18. Ноцунь, М. Зрабаваны народ : размовы з беларускімі інтэлектуаламі / М. Ноцунь, А. Бжэзецкі. — Кракаў, 2009.
19. Пичета, В. Н. История белорусского народа / В. Н. Пичета. — Минск: Изд. центр БГУ, 2003.
20. Пономаренко, П. Дневник / Пантелеймон Пономаренко // Нёман. — 2008. — № 7.
21. Сагановіч, Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2001.
22. Скалабан, В. В. Укрупнение БССР : попытка 1928 года / В. В. Скалабан // Беларусь і суседзі : Гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы : Міжнародная навуковая канферэнцыя / пад рэд В. В. Скалабана, М. І. Старавойтава. — Гомель, 2006. С. 184–187.
23. Смоліч, А. Геаграфія Беларусі / А. Смоліч; пасьлясл. А. Ліса. — 4-ае выд. — Мінск: Беларусь, 1993.
24. Тарас, А. Е. Анатомия ненависти : русско-польские конфликты в XVIII–XX вв. / А. Е. Тарас. — Минск: Харвест, 2008.
25. Тарасов, К. Память о легендах: Белорус. старины голоса и лица / К. Тарасов. — Минск: Полымя, 1984.
26. Ширяев, Е. Е. Беларусь : Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах / Е. Е. Ширяев. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991.
27. Шыбека, З. Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002) / З. Шыбека. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2003.
28. Эканамічная гісторыя Беларусі : курс лекцый / пад аг. рэд. В. І. Галубовіча. — Мінск: Экаперспектыва, 1993.

*Навукова-папулярнае выданне*

**Трусаў** Алег Анатольевіч

# Невядомая нам краіна

**Беларусь у яе этнаграфічных межах**

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Вёрстка *Яраслава Мальдзіса*
Карэктары *Святлана Зянковіч, Алена Шагун*

Падпісана да друку 10.09.2009. Фармат 84x108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Афсетны друк.
Гарнітура Cambria. Ум. друк. арк. 7,98.
Ул.-выд. арк. 7,2. Наклад 500 ас. Зак. 793.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ №02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniga@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.